Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

М. БУХАРЫН

# ШЛЯХ ДА СОЦЫЯЛІЗМУ І РАБОЧА-СЯЛЯНСКІ САЮЗ

ПЕРАКЛАД П. ЖАРСКАГА І К. ГАРАБУРДЫ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1925

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

М. БУХАРЫН

# ШЛЯХ ДА СОЦЫЯЛІЗМУ І РАБОЧА-СЯЛЯНСКІ САЮЗ



ПЕРАКЛАД П. ЖАРСКАГА і К. ГАРАБУРДЫ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1925

## I. Мы выходзім з стану ўбоства. Мы будуем сваю гаспадарку без паноў і буйных капіталістых.

Пачынаючы з 1924 году, мы, рабочая кляса і сялянства былое царскае Расіі, пачалі досыць шпарка вылазіць з страшэннага зруйнаваньня, пачалі залечваць цяжкія раны, пачалі зьнішчаць бязладзьдзе і беспарадак, якія панавалі ў мінулыя гады. Усякаму—прыхільніку і ня прыхільніку—цяпер ужо ясна відаць, што гаспадарка аграмаднае краіны пачынае ставіцца на ногі. Якую галіну вытворчасьці мы ні возьмем, усюды мы заўважваем ажыўленьне, уздым і рух наперад.

У нашай краіне асновай усяе гаспадаркі зьяўляецца *сельская гаспадарка*. Прамысловасьць у нас разьвіта параўнальна слаба, і яна ў сваім разьвіцьці таксама залежыць ад росту сельскае гаспадаркі. Сельская-ж гаспадарка ў нашых умовах—гэта ёсьць гаспадарка *сялянская*, больш 20 мільёнаў сялянскіх двароў.

За гады імпэрыялістычнай вайны, за гады вайны грамадзянскай, за гады вялікага зруйнаваньня гэта сялянская гаспадарка была падарвана, разбурана. Але цяпер усякі бачыць, што вёска наша пакрысе пачынае набірацца сілы: павялічаецца плошча пад засевы, расьце вытворчасьць, падымаюцца новыя культуры, сяляне пераходзяць ад трохпольля да шматпольля, дзе-ні-дзе зьяўляюцца новыя машыны і трактары; словам, памаленьку пачынаецца і тут рух наперад. Праўда, пануе яшчэ мора ўбоства і мора цемнаты. Але, калі параўнаць цяперашняе становішча з гадамі грамадзянскай вайны, то няма сумненьня ў тым, *што мы вылазім з жабрачага стану*.

Прыпамятаем мінулыя гады. У *гарадох* большасьць фабрык і заводаў стаялі, лепшыя рабочыя біліся на франтох, ня было ў гарадох апалу, ня было сырцу, ня было хлеба. Аграмадныя фабрыкі і заводы не працавалі, магазыны былі

пустыя, гарады шпарка раставалі, і народ уцякаў з іх у далёкія вёскі, шукаючы кавалка хлеба, каб бліжэй быць да зямлі, каб як-небудзь адседзецца, каб хоць дзе-небудзь расстарацца кавалак хлеба ці мяшок бульбы. Можна сказаць, што ўсе гарады хадзілі тады „ў кускі", расплываліся і расходзіліся па ўсёй краіне.

А цяпер мы бачым, як зноў шпарка пачынае расьці горад, як ажываюць фабрыкі і заводы, як пачынаюць будавацца новыя дамы, як кіпіць гарадзкое жыцьцё. Рабочая кляса, зморaная голадам, пачынае папраўляцца ад страшэнных гадоў зруйнаваньня. Падымаючы вытворчасьць працы, яна (рабочая кляса) забясьпечвае сабе ўсё болей і болей лепшае жыцьцё. Пакрысе мы пачынаем будаваць і *новыя* заводы, пакрысе ідзе наперад пабудаваньне электрычных станцый, і электрычная лямпачка ня зусім рэдкая госьця нават і пад саламяным вясковым дахам.

Шпарка пасоўваецца ўперад і разьвіцьцё нашага *транспорту*. Трэба толькі параўнаць і тут мінулыя гады з тым, што ёсьць зараз. Усе мы добра памятаем, калі паўзьлі рэдкія цягнікі з выбітымі шкламі ў вагонах, усе аблепленыя, нібы мурашкамі, мноствам людзей з мяшкамі за плячамі. Уся краіна як-бы разьбілася на цэлы рад асколкаў, і часта ў працягу доўгага часу амаль што ня было магчымасьці перабрацца з аднаго месца ў другое. А так званыя „паравозныя магілкі" (кучы старых, сапсутых, паламаных, паржавелых пакойнікаў-паравозаў, разьбітых, паламаных вагонаў) былі сьведкамі таго бязладзьдзя, якое панавала тады ў нашым транспорце.

Цяпер мы наладзілі парадак у нашай гаспадарцы і тут. І чыгуначны, і водны транспорт робяць усё большыя і большыя посьпехі, пачынаюць даваць дзяржаве просты прыбытак. Прашлі гады зруйнаваньня, зьнікла назаўсёды старое бязладзьдзе.

Прыпамятаем таксама лёс нашых савецкіх грошай. Мы помнім, як зьніжалася каштоўнасьць нашых савецкіх знакаў, якія браліся ўжо на фунты, нібы звычайныя шматкі непатрэбнай паперы. На валаску гэтых няшчасных савецкіх знакаў

трымалася дзяржаўная казна. Гэта быў час, калі гаспадарка і дзяржаўная казна былі зусім блізкія да поўнага свайго ўпадку.

А цяпер мы маем „трывалыя грошы“, па гарадох і вёсках гуляе ўжо даўно срэбная і медная монэта, моцна стаіць наш чырвонец. І селянін, і рабочы, і сялянскі двор, і завод, і фабрыка, і капальня могуць цяпер лічыць, будаваць плян свае гаспадаркі, знаць наперад, што ім трэба і можна растраціць, што ім прыдзецца плаціць. Дзяржаўная казна можа правільна лічыць свае прыбыткі і выдаткі, складаць правільны плян у сваёй уласнай аграмаднай гаспадарцы.

Такім чынам, ува ўсіх напрамках мы пасоўваемся да лепшага будучага. Краіна наша багацее, мы пачынаем наносіць удары беднасьці і ўбоству.

Пераважная большасьць усяго таго, што ёсьць у нашай краіне, *належыць рабочай клясе і сялянству*. Праўда, мы дапусьцілі прыватнага гандляра, купца, пасярэдніка: мы дазволілі дзе-ні-дзе,—дзе самі не маглі ўправіцца,—весьці сваю справу прыватным капіталістым. У некаторых мясцох мы аддалі ў концэсію (у арэнду) буйным чужаземным капіталістым некаторыя прадпрыемствы, падняць якія нам самым яшчэ няма магчымасьці, і за арэнду якіх чужаземны капітал плоціць нашай дзяржаве. Але калі мы будзем разглядаць нашу гаспадарку цалком, то на долю прыватных, арандаваных і концэсыйных прадпрыемстваў, прамысловых і гандлёвых, прыдзецца ўжо ня так многа. Пераважная большасьць гаспадарак—гэта гаспадарка рабочае дзяржавы ці гаспадаркі сялян або дробныя гаспадаркі саматужнікаў і рамясьнікоў.

Аб чым, раней за ўсё, гавораць гэтыя факты?

*Гэтыя факты, раней за ўсё, гавораць аб тым, што рабочыя і сяляне адны, без дапамогі капіталістых і паноў, без ранейшых гаспадароў і кіраўнікоў, бяз тых, хто камандваў на працягу дзесяткаў і соцень гадоў,—просты народ можа будаваць сваю гаспадарку.*

Гэтая акалічнасьць мае сапраўды вялікае значэньне. Ніколі ў сьвеце ня было яшчэ гэткага вялікага перавароту, які ўтварыўся ў нас у кастрычніку 1917 году. Ні разу і нідзе, ні ў воднай краіне, не ўдавалася яшчэ працоўным народным масам сагнаць з цёпленькіх месц камандзіраў буржуазнага

ладу. Нідзе яшчэ рабочыя і сяляне не маглі самі ўзяцца за справу ўпарадкаваньня свайго ўласнага лёсу. І абаронцы буржуазнага ладу, абаронцы паноў і капіталістых, заўсёды шумелі ўва ўсе вушы, што працоўныя масы—рабочыя і сяляне—ня змогуць, нават калі-б пажадалі, весьці гаспадарку, кіраваць краінай. Гаварылася і пісалася, што „просты неадукаваны“ народ ніколі ня зможа весьці такую складаную справу. І пасьля Кастрычнікавага перавароту амаль што кожны дзень і кожную гадзіну прарочылі нам нашу нямінучую пагібель. Усяго за некалькі дзён да Кастрычнікавага перавароту самы разумны прадстаўнік расійскай буржуазіі, кадэт Мілюкоў, пісаў, што бальшавікі ніколі не асьмеляцца ўзяць уладу ў свае рукі. А калі бальшавікі, г. зн. партыя рабочае клясы, якая апіралася на сялянства, узялі гэтую ўладу, то ўсе ворагі працоўных з злорадасьцю чакалі яе падзеньня. І тым ня менш, рабочая кляса і сялянства змаглі абыйсьціся і без паноў, якія назаўсёды зьмецены і выкарчаваны з нашае зямлі, і бяз буйных заправіл капіталу, якія дажываюць свае дні ў замежных сталіцах.

Тая акалічнасьць, што працоўныя масы *кіруюць самі*, мае вялічэзнае значэньне ня толькі для нас, але і для працоўных усяго сьвету. Гэты нячуваны і нябачны прыклад заўсёды будзе клікаць працоўных іншых краін да вялікае перабудовы сьвету. Гэты прыклад на практыцы, на справе зьнішчае брахню і байкі абаронцаў бружуазнага парадку, што нельга абыйсьціся без капіталістых і паноў. Гэты прыклад надае бадзёрасьці і ўпэўненасьці ўсім рэволюцыйным барацьбітом, усім будаўніком новага грамадзянства.

## II. Чаму мы да гэтых часоў перамагалі? (Саюз рабочых і сялян).

Калі да гэтых часоў мы змаглі выйсьці з усіх затрудненьняў, выгернуцца з самых цяжкіх становішчаў, то гэта, галоўным чынам, здарылася таму, што ў нашай краіне ўтварыўся супроць *саюзу паноў і капіталістых* другі саюз, *саюз рабочых і сялян.*

Ува ўсіх краінах багатыя (банкіры, заводчыкі, фабрыканты, буйныя абшарнікі, уладары чыгунак, капалень і г. д.) трымаюцца тым, што эксплёатуюць значную частку працоўных мас. І толькі тады надыходзіць сьмяротная гадзіна дзяржавы капіталу і дзяржавы паноў, калі *рабочая кляса* цалком выходзіць з-пад уплыву буржуазіі, і калі яна, гэтая рабочая кляса, *вырывае* шырокія пласты *сялянства* з-пад гэтага ўплыву буржуазіі, дапамагае сялянству вызваліцца ад яго, дапамагае стаць яму на новыя рэйкі, на новыя самастойныя шляхі. І толькі калі супроць капіталістых і паноў, супроць гэтага саюзу заможных кляс, кляс непрацоўных, вырастае саюз кляс працоўных, саюз рабочых і сялян,—толькі тады магчыма перамога над старым ладам і магчыма ўзмацненьне новага ладу. Гэтую ісьціну трэба памятаць заўсёды, аб ёй нельга забываць ні на адну хвіліну. І ўсякі сьвядомы рабочы і селянін павінен яе добра запамятаць, бо толькі пры гэткай умове мы можам спадзявацца на свае далейшыя посьпехі.

Гэта ісьціна сьцьвярджаецца раней за ўсё на ходзе самое рэволюцыі ў нас. Возьмем нашую кастрычнікавую перамогу і паглядзім, дзякуючы чаму мы здолелі перамагчы. Ня цяжка будзе пераканацца, што кастрычнікавая перамога аказалася мажлівай якраз дзякуючы таму, што ў ходзе барацьбы рабочы падаў руку селяніну, а селянін сваю руку рабочаму. Што зьяўлялася галоўным запатрабаваньнем сялянства? Галоўным запатрабаваньнем сялянства было запатрабаваньне зямлі і спакою. Што было галоўным запатрабаваньнем рабочае клясы? Галоўным запатрабаваньнем рабочае клясы было запатрабаваньне пераходу фабрык і заводаў ад капіталістых у народную ўласнасьць, было запатрабаваньне спакою, было запатрабаваньне Савецкае ўлады. Сяляне ніякім чынам не змаглі-б дабіцца свайго, калі-б яны не падтрымалі рабочых, і рабочыя, з свайго боку, ніяк не змаглі-б дабіцца свайго, калі-б яны не падтрымалі ўсёй сваёй сілай запатрабаваньняў сялян. Такім чынам утварыўся і выкаваўся той саюз, той „блёк“ паміж рабочаю клясаю і сялянствам, які зрабіў параўнальна лёгкай перамогу ў вялікія кастрычнікавыя дні. Справа была вырашана сумеснымі і надзвычайна дружнымі дзеяньнямі рабочых

і салдат, салдат, якія зьяўляліся целам ад цела і косьцю ад косьці нашага сялянства.

Салдаты жадалі спакою—і сяляне жадалі спакою; сяляне жадалі зямлі—і салдаты жадалі зямлі; сяляне жадалі расправы з панамі—і салдаты жадалі расправы з панамі. Усе гэтыя запатрабаваньні падтрымліваліся, распаўсюджваліся, станавіліся баявымі лёзунгамі ў руках рабочае клясы і яе партыі. Запатрабаваньні сялян перапляліся з запатрабаваньнямі рабочых. Запатрабаваньні рабочых перапляліся з запатрабаваньнямі сялян. І супроць гэтага злучанага напору пераважнай большасьці насельніцтва нашае краіны не маглі ўстаяць ніякія сілы. *У гэтым знаходзіцца корань кастрычнікавай перамогі.*

Чаму перамаглі мы, далей, у грамадзянскай вайне, якая цягнулася на працягу некалькіх гадоў? Бо пасьля кастрычнікавай перамогі супроць нас выступілі і чужаземныя капіталістыя, якія сьпяшаліся дапамагчы расійскай буржуазіі. Бо наша буржуазія і яе збройныя сілы былі падтрыманы ўсімі сродкамі—і вайскова-палітычнымі, і фінансавымі—з боку цэлага раду буржуазных магутнейшых дзяржаў. Не адзін раз наша Савецкая краіна была ў вогненным кругу, была абкружана з усіх чатырох бакоў войскамі ворагаў. Былі мінуты, калі Савецкая рэспубліка мела толькі некалькі губэрань, якія былі шчыльна сьціснуты наступаючымі атрадамі ворагаў. Былі мінуты, калі пад беспасярэднай пагрозай знаходзіўся Ленінград—перадавы горад пролетарскай рэволюцыі. Былі часы, калі Дэнікін падыходзіў к Арлу, а ў Маскве белыя здраднікі фармавалі ўжо свае штабы і свае афіцэрскія кадры для наступаючай расправы „з комуністычнымі сабакамі“. Мы перажывалі не адзін раз цэлыя месяцы, будучы адрэзанымі і ад нафты, і ад вугалю, і ад хлеба. Цэлыя гады мы жылі ў становішчы з усіх бакоў абкружанае крэпасьці, у якой ужо пачаўся голад і хваробы. *І тым ня меней,* мы усё-ткі перамаглі ў гэтай, выключнай па сваёй жорсткасьці і па сваім напружаньні, грамадзянскай вайне паміж эксплёататарамі і эксплёатуемымі, паміж панамі і капіталістымі, з аднаго боку, і рабочымі і сялянамі—з другога. Дзе-ж карані *гэтае* перамогі?

Гэтыя карані знаходзяцца, папершае, у тэй акалічнасьці, што *працоўныя масы Захаду*, часамі сьвядома, а часамі пакараючыся толькі голасу свайго клясавага інстынкту, станавіліся на наш бок, рабілі адпор свайму начальству, сваім урадам, сваім камандзірам і ў розных формах, парознаму, перашкаджалі гэтым урадам выконваць справу палача, каб задушыць пераможную рэволюцыю ў Расіі. Ня раз здаралася, што атрады чужаземных войск падымалі чырвоныя сьцягі і йшлі назад з нашых франтоў.

*Другою*, нутраною, прычынаю нашае перамогі быў зноў-такі моцны *ваенны саюз паміж рабочымі і сялянамі нашае краіны.* Сяляне падтрымлівалі рабочых у іх барацьбе супроць насядаючых з усіх бакоў ворагаў. Гэты ваенны саюз паміж рабочаю клясаю і сялянствам быў працягам і разьвіцьцём баявога саюзу гэтых кляс у часы Кастрычнікавай рэволюцыі.

Гэты ваенны саюз, зразумела, ня вісеў у паветры; ён апіраўся на сувязь карэнных інтарэсаў. Сялянства, змагаючыся з ворагамі, абараняла нядаўна адваяваную ад пана зямлю. Войскі ворагаў вялі за сабою цэлы хвост капіталістых, буйных зямляўласьнікаў, князёў, баронаў і грапаў, вытураных з сваіх маёнткаў і жадаючых атрымаць назад наседжаныя на працягу цэлых вякоў старыя, бацькаўскія, дваранскія гнёзды. І калі сялянскія сыны-салдаты нашай Чырвонай арміі, адчуваючы голад і холад, хварэючы на тыфус, босыя, адстойвалі граніцы Савецкае краіны і штыхамі абараняліся ад ворага, яны абаранялі вялікую справу вызваленьня *ад уціску паноў*. Яны бачылі, што нельга замацаваць за сабою адваяваную зямлю інакш, чым у саюзе з рабочаю клясаю, якая слала сваіх лепшых сыноў на франты. Яны падлягалі кіраўніцтву рабочае клясы, дзеля таго што бачылі, як у рэволюцыйнай, клясавай бойцы сыны фабрык і заводаў гэроічна абаранялі рэволюцыйную справу, ахвяруючы ўсім дзеля перамогі ворага. Яны таксама бачылі, што толькі Савецкая ўлада зьяўляецца надзейнай апорай у гэтай нячуванай барацьбе. З свайго боку, рабочая кляса таксама бачыла, што калі прыдуць паны, то зьвернуцца і капіталістыя і зьвернецца стары лад цалком што яна страціць заваяваныя ў кастрычнікавай барацьбе

фабрыкі й заводы і што прападзе Савецкая ўлада. Ваенны саюз рабочае клясы і сялянства ў грамадзянскай вайне апіраўся, такім чынам, на супольнасьць асноўных і карэнных задач, якія стаялі на чарзе перад абедзьвюма працоўнымі клясамі нашай краіны. Праўда, цяжары гэтага часу, калі трэба было надзвычайна ўпарта зьбіраць усё, што патрэбна для пракармленьня Чырвонае арміі, для падтрыманьня фронту, для падтрыманьня тых рабочых, што засталіся ў галодных гарадох,—цяжары гэтага часу ня раз і ня два хісталі некаторыя пласты сялянства. Ня раз і ня два гэтыя пласты сялянства, змучаныя цяжарам барацьбы і не разумеўшыя патрэбы аграмадных ахвяр, перабягалі на старану ворага, на старану белых, на старану „учредиловцев“, на старану калчакоўцаў. Але суровая практыка грамадзянскай вайны ўсякі раз паказвала ім, што ў стане белых нельга шукаць збавеньня, бо гэты стан ёсьць стан заклятых ворагаў ня толькі рабочае клясы, але і сялянства. Калчакі і Дэнікіны ўганялі шампаламі веру ў правільнасьць бальшавіцкае справы і ў разуменьне неабходнасьці цеснага сяброўства з рабочаю клясаю. У рэзультаце гэтай балючай практыкі, практыкі, заваёванае кроўю, сялянства нашай краіны пераконвалася ўсё болей і болей у неабходнасьці ахвяр дзеля вялікай перамогі ворага. Гэтак выкоўвалася злучнасьць паміж рабочаю клясаю і сялянствам у барацьбе супроць агульнага ворага. І тут ляжыць *другі* корань нашае перамогі над усімі ворагамі сваімі, ворагамі бацькаўшчыны і чужаземнымі. *Перамога над саюзам паноў і капіталістых ёсьць перамога саюзу рабочых і сялян.*

Калі апошнія атрады буржуазна-панскіх армій былі скінуты ў мора і пад савецкім сьцягам, пад чырвоным сьцягам рэволюцыі зноў аб'ядналася наша краіна на новых асновах, на асновах спакойнага і добраахвотнага сужыцьця шматлікіх працоўных народаў, пачаліся *новыя* часы, паўсталі на чаргу *новыя* задачы. Мы ўжо перасталі зьяўляцца крэпасьцю, якая абкружана з усіх бакоў, якая ваюе і абараняецца. Грамадзянская вайна скончылася. Патрэбна было шпарчэй пераходзіць да спакойнае працы. Патрэбна было пачынаць ладзіць патрапаную гаспадарку. А для ўсяго гэтага трэба было

перайсьці да іншае экономічнае політыкі, якая-б адпавядала новаму часу і новым задачам, што стаялі ў упор перад працоўнымі клясамі нашае краіны. Харчовая раскладка патрэбна была дзеля таго, каб ва што-б ні стала пракарміць армію і рэштکі галоднае рабочае клясы, без якое згінула-б уся справа рэволюцыі. Але харчовая раскладка і забарона гандлю зусім не падыходзілі для таго часу, у які патрэбна было перайсьці да ўздыму вытворчых сіл сельскае гаспадаркі і да разьвіцьця нашай прамысловасьці. Гэтак утварыўся пераход да новае экономічнае політыкі. Крыха-па-крысе адыходзілі на задні плян, а потым і зусім зьніклі, рэшткі збройнай барацьбы супроць нас з боку капіталістычных дзяржаў. Наша гаспадарка пачала падымацца. Мы пачалі ўсё болей гандляваць з капіталістычнымі дзяржавамі і, пасьля цэлага шэрагу хістаньняў, яны пачалі прызнаваць адна за другою Савецкую ўладу за „законную“ ўладу на землях былое царскае імпэрыі. І вось тут перад намі паўстае пытаньне ў новай форме: як забясьпечыць нам справу свае канчатковае перамогі, справу ўмацаваньня ўлады працоўных, справу нашага гаспадарчага росту, справу пабудаваньня новае грамадзкасьці, новых парадкаў, новых адносін? На гэтае пытаньне мы павінны даць адказ: мы пераможам канчаткова, мы пераможам поўнасьцю і цалком, мы сапраўды ўтворым новую працоўную грамадзкасьць толькі тады, калі ў гэтых новых спакойных, не ваенных умовах зможам зноў умацаваць той саюз паміж рабочаю клясаю і сялянствам, які забясьпечваў нам перамогу на працягу ўсёй нашай рэволюцыі. Вось дзеля чаго мы павінны зноў і зноў ставіць перад сабою пытаньне аб саюзе паміж пролетарыятам і сялянствам. Гэта ня проста *пераказ* старога пытаньня, дзеля таго што гутарка йдзе аб *новых* умовах, *больш* складаных, чым раней. Мы расьцем, мы гаспадарча робімся ўсё мацнейшымі і мацнейшымі. Але затое ня гэтак відзён наш агульны вораг, як у мінулыя часы грамадзянскай вайны. І трэба разгледзець усе небясьпекі, якія знаходзяцца на нашым шляху, каб не пасьлізнуцца і не праваронiць тэй справы, дзеля якое мы змагаліся на працягу стольких гадоў.

## III. Рабочая кляса і сялянства.

У саюзе рабочае клясы і сялянства, у саюзе, дзякуючы якому мы вытрывалі ў барацьбе з ворагамі і пачалі падымаць нанова гаспадарку нашае краіны, *кіруючая роля належала рабочай клясе.*

Рабочая кляса ў нашай краіне не зьяўляецца большасьцю працоўнага насельніцтва. Пераважную большасьць гэтага працоўнага насельніцтва складаюць сяляне. І тым ня менш, рабочая кляса была і застаецца кіруючай сілай. Для таго, каб зразумець, чаму гэта так здарылася, і чаму гэта патрэбна для перамогі над панамі і капіталістымі, неабходна падрабязна разгледзець становішча гэтых кляс у капіталістычнай грамадзе.

Пры капіталізьме, пры панаваньні буржуазіі, ува ўсіх краінах, у тым ліку і ў нас, *горад* заўсёды быў крывасмокам у адносінах да *вёскі.* Усе дасягненьні тэхнікі і навукі, усе заваёвы культуры концэнтраваліся, галоўным чынам і раней за ўсё, у горадзе. Вёска, сельская гаспадарка былі і ёсьць на другім пляне. Яны нямінуча далёка адставалі ў сваім разьвіцьці ад гораду. Горад прыцягваў да сябе ўсе лепшыя сілы, найбольш энэргічных, спраўных і здольных людзей. Вёска заўсёды пуставала, аддаючы гораду свае сокі. У горадзе групавалася ўся пісьменнасьць, уся адукацыя сучаснага грамадзянства. У горадзе награмаджаліся ўсе весткі аб тым, што робіцца ў розных кутках земнае кулі. У горадзе знаходзіліся і знаходзяцца асноўныя вузлы дзяржаўнага апарату, урадавыя ўстановы, усе арудзьдзі моцных буржуазных дзяржаў. Вёска нямінуча павінна была весьці замкнутае існаваньне, вёска на цэлыя вякі адставала па сваіх ведах, па сваёй пісьменнасьці ад гораду.

Вось гэта асноўная розьніца наклала сваю пячатку на рабочых, з аднаго боку, і на сялян — з другога боку. Але справа, зразумела, ня толькі ў гэтым. *Рабочая кляса* фабрык і заводаў ня *зьвязана ні з якою ўласнасьцю.* Яна прадае ў капіталістычнай грамадзе свае рабочыя рукі гаспадару. Яна бачыць кожны дзень і кожную гадзіну, што яна працуе на гэтага гаспадара. Яна пачынае ненавідзець буржуазію, ня

верыць ёй. А з другога боку, кожны рабочы прывыкае *працаваць разам з другім такім самым рабочым.* Рабочыя жывуць і працуюць у вялікім скапленьні аграмаднымі масамі на вялізарных фабрыках і заводах, у шахтах і ў капальнях. Яны ня толькі навучаюцца ненавідзець буржуазію, ня верыць ёй, раскрываць усялякую ману з боку яе, але яны навучаюцца даваць ёй *агульны* адпор. Яны ўвесь час прывыкаюць да думкі, што толькі *агульна*, разам, можна перамагчы ворага, што толькі *разам усім* можна, зьнішчыўшы ворага, весьці пановаму сваю гаспадарку, кіраваць пановаму адваяванай ад буржуазіі краінай. Гарадзкая культура ўсё-ж такі дае ў іх распараджэньне сякія-такія сродкі, якія дазваляюць рабочаму перабудаваць свае рады ў добрую армію, што йдзе ў бойку супроць панаваньня паноў і капіталістых, угадваючы ўсе хітрыкі ворага. Ня гэтак стаіць справа з селянінам. Селянін працуе сам, сваёю *асобнаю гаспадаркаю*, сваёю сям'ёю, сваім дваром. Ён ня прывык, за выключэньнем некаторых прац (напрыклад, сенакос і г. д.), працаваць агульна і супольна са сваімі сябрамі з аднэй вёскі. У яго *асобная прыватная* гаспадарка, ён бачыць раней за ўсё інтарэсы гэтае *свае* дробнае гаспадаркі. Умовы вясковага жыцьця рэдка дазваляюць яму выйсьці за межы свае вёскі. Да гэтага часу ёсьць яшчэ сяляне, якія ніколі не выяжджалі нават у акруговы горад, ёсьць і такія, што ніколі ня езьдзілі па чыгунцы.

Зразумела, гэта ня „віна“ селяніна, а яго бяда. Але, тым ня менш, гэта — факт, і з гэтым фактам, з гэтай рэчаіснасьцю трэба лічыцца, трэба прымаць яе пад увагу.

Сяляне-ж у дадатак *зусім не аднастайны.* Селянінам завецца і заможны карчмар, і вясковы ліхвяр, і кулак; селянінам завецца і моцны гаспадар, які мае некалькі парабкоў, атрымлівае прыбытак з іх працы і трымае іх на аброці; селянінам завецца і працоўны гаспадар, які працуе са сваёю сям'ёю сам на сябе і ня жыве за кошт чужое працы; селянінам завецца і бядняк, без каня, які чуць зводзіць канцы з канцамі і зарабляе дзе-небудзь з боку; селянінам завецца, нарэшце, і напалову парабак, напалову рабочы, для якога яго сялянская гаспадарка складае толькі падможную крыніцу яго існаваньня.

У капіталістычным ладзе аграмадная большасьць сялян павінна так існаваць, калі людзі толькі зводзяць канцы з канцамі. Але кожны селянін, які мае сваю гаспадарку, сваю *ўласнасьць*, шукае, галоўным чынам, выйсьця ў тым, каб, павялічыўшы сваю гаспадарку і сваю ўласнасьць, увайсьці ў наступную, вышэйшую катэгорыю сялянскага насельніцтва і, такім чынам, падымацца са ступенькі на ступеньку. Маючы сваю ўласнасьць і спадзяючыся яе павялічыць (хоць гэтыя надзеі зьяўляюцца ў большасьці выпадкаў нікчэмнымі надзеямі), селянін з прычыны гэтага *паважае і давярае больш буйным уласьнікам*, а, значыць, і буржуям. Ён ня вучыцца ненавідзець заможную клясу тэй ненавісьцю, якою адзначаецца рабочая кляса, што стаіць тварам да твару з капіталам. Частка сялян нават адчувае вядомае шанаваньне да буйных уласьнікаў, і патрэбна практыка клясавае барацьбы і простых стычак з ворагам, каб выкрыць для селяніна яго клясавых ворагаў. *Дзеля гэтага капіталістыя і паны значна скарэй змогуць абмануць селяніна*, *чымся рабочага*.

А з другога боку, селянін, які не прызвычаіўся да заўсёднай, супольнай працы і да супольнай барацьбы, ня можа даваць сыстэматычны, заўсёдны адпор сваім ворагам. *Раскіданае па вёсках і вёсачках*, *раскіданае і распыленае, нібы пясок ракі, сялянства не прадстаўляла і не магло прадстаўляць з сябе тэй добра організованай арміі*, *якую ўдавалася ўтварыць гарадзкому рабочаму*.

Калі пры гэтым успамятаць, што гарадзкое жыцьцё давала і дае гарадзкому жыхару значна *больш розных ведаў*, пісьменнасьці, уменьня пазнаць хітрыкі ворагаў і г. д., то ня цяжка будзе даведацца, што *кіраўніцтва блёкам сялян і рабочых павінна было няміnуча належаць рабочай клясе*. Бо з усяго таго, што мы зараз бачылі, выцякае, што рабочая кляса зьяўляецца сілай, значна больш сьвядомай, значна больш організованай і значна больш здольнай весьці за сабою шырокія колы працоўнага насяленьня. Яшчэ і яшчэ раз трэба падкрэсьліць, што меншая сьвядомасьць у селяніна не зьяўляецца яго „віною“, а яго бядою. Але таксама ясна, што кіраўніцтва з боку пролетарыяту будзе карысным ня толькі для самое рабочае клясы, але і для сялянства. Бяз

гэтага кіраўніцтва страцілі-б ня толькі рабчыя, але і шырокія колы сялянства.

Так стаіць справа, калі мы разгледзім пытаньне аб такім часе, калі рабочая кляса і сялянства йдуць на штурм супроць саюзу паноў і капіталістых. А як стаіць справа, калі, ужо пасьля зьнішчэньня панаваньня гэтых паноў і капіталістых, трэба кіраваць дзяржаваю і весьці ўсю гаспадарку краіны, якую адабралі ад буржуазіі і паноў?

Тут таксама трэба вельмі ўважліва разгледзець гэтае пытаньне. Рабочая кляса і сялянства ня скідаюцца з неба, калі яны першы раз заваёўваюць уладу. Яны выходзяць з нетраў капіталістычнае грамады. У гэтай капіталістычнай грамадзе і рабочая кляса, і сялянства знаходзіліся ў становішчы прыгнечаных кляс. Нават рабочая кляса ня мела магчымасьці пры капіталістычным ладзе падняцца настолькі, каб навучыцца кіраваць. Бо ўся вышэйшая школа была ў руках буржуазіі, усе камандныя вышыні ва ўрадзе, у арміі, у гаспадарцы, у навуцы і г. д. знаходзіліся ў руках пануючых кляс. Дзеля гэтага рабочая кляса ніякім чынам у межах капіталістычнае грамады не магла выпрацаваць з свае асярэдзіны ўсе тыя сілы, якія патрэбны для таго, каб наладжваць самым, і выключна ўласнымі сваімі сіламі, увесь аграмадны і складаны дзяржаўны і гаспадарчы апарат краіны. Калі працоўныя масы скідаюць панаваньне памешчыкаў і капіталістых, то на іх плечы зараз-жа ўзвальваюцца такія цяжары, з якімі раней не даводзілася сустракацца. Рабочай клясе і працоўнай масе наогул трэба думаць цяпер ужо выключна аба ўсіх галінах гаспадаркі і кіраваньня. Ім патрэбны тэхнікі і інжынэры, хімікі і агрономы, судзьдзі і адміністратары, вучоныя і настаўнікі, — словам, усе сілы, без якіх нельга весьці краіну па шляху гаспадарчага і ўсякага іншага ўдасканаленьня. А з прычыны таго, што рабочая кляса ня мела і не магла мець у сваім распараджэньні сваіх уласных гэткіх сіл, то, натуральна, зараз-жа пасьля заваяваньня ўлады працоўнымі масамі, на чаргу паўстае і пытаньне аб *скарыстаньні* шмат каго з тых, што раней служылі вераю і праўдаю, не за страх, а за сумленьне, старому, цяпер ужо скінутаму, ладу. Значыць, перад працоўнымі масамі паўстае

новая складаная задача, задача *зрабіць падлеглымі дзеля сваіх мэт,* задача *перарабіць* усе вышэйназваныя сілы ў тым духу, у якім гэта патрэбна для трываласьці і ўзмацненьня новага ладу.

Калі ў рабочае клясы няма цяпер выстарчаючых сіл і яна прымушана, змагаючыся з ворагамі і бесьперастанку зьнішчаючы іх адкрытае і захаванае супраціўленьне, скарыстаць сілы, спачатку ёй варожыя ці напалову варожыя і якія толькі потым пераходзяць на яе бок, то значна меней гэтых сіл у сялянства, якое, як мы бачылі раней, у ўмовах капіталістычнага ладу зьяўляецца нямінуча *значна больш адсталым* і значна менш здольным угадваць пляны ворагаў і весьці правільную палітыку.

Рабочая кляса ўсё-ж такі, ня гледзячы на сваю прыдушанасьць у ўмовах капіталістычнай грамады, *можа кіраваць агульнай палітыкай,* агульным напрамкам гэтай палітыкі і, нямінуча робячы цэлы шэраг памылак, усё-ж, нарэшце, вучыцца перамагаць і тыя затрудненьні, якія сустракаюцца на яе новым шляху.

Само сабой зразумела, што рана ці позна і сялянства ўсё больш і больш будзе навучацца на практыцы справе гаспадарчага і палітычнага будаўніцтва. Але калі ўжо ў тыя часы, калі задачай працоўных кляс было толькі зьнішчэньне саюзу памешчыкаў і капіталістых, калі ў тыя часы патрэбнай была кіраўнічая роля пролетарыяту ў саюзе рабочых і сялян, *то пасьля заваяваньня ўлады* гэтае кіраўніцтва *зусім не становіцца лішнім альбо менш неабходным.* Наадварот, можна сказаць, што асабліва ў першы пэрыод, у першую паласу ўзмацненьня разьвіцьця новага ладу, калі зьяўляюцца аграмадныя масы новых і надзвычайна складаных задач, гэта кіраўніцтва павінна быць забясьпечана *ў што-б там ні стала.* Справа зусім ня ў тым, што рабочай клясе абавязкова „хочацца“ быць на першым месцы. Справа ў тым, што—як-бы ні думалі аб гэтым некаторыя пласты сялянства,—гэта кіраўніцтва неабходна *і ў інтарэсах самой шырокай сялянскай масы.* Калі-б рабочая кляса страціла, у моц якіх-небудзь прычын, сваё кіраўніцтва ў адносінах да сялянства, то тады зусім нямінуча справа скончылася-б перамогай буржуазіі.

Кіраўніцтва з боку пролетарыяту зьяўляецца, такім чынам, неабходнейшай умовай перамогі рабоча-сялянскай справы. Але пытаньне стаіць яшчэ больш складана, чым гэта здаецца на першы погляд. Справа ў тым, што і сама рабочая кляса не аднастайна. У яе, і ўнутры яе ёсьць *розныя складаныя часткі*, якія хоць і ня так адрозьніваюцца адна ад другое, як гэта мае месца паміж рознымі пластамі, групамі і клясамі сярод сялянства, але, тым ня меней, усё-ж павінны быць прыняты пад увагу. Возьмем, напрыклад, такі пласт рабочае клясы, як сельска-гаспадарчыя рабочыя-парабкі. Яны зьяўляюцца наёмнымі рабочымі, яны большай часткай ня зьвязаны ні з якай уласнасьцю, але, у той самы час, агульныя ўмовы іх працы (вёска і вясковыя ўмовы наогул; зьвязаная з гэтым культарная і політычная адсталасьць; большая раскіданасьць у працы, большае падабенства з умовамі працы ў сялянскай гаспадарцы і г. д.) страшэнна перашкаджаюць узросту іх сьвядомасьці параўнальна з гарадзкімі рабочымі, якія жывуць і працуюць кучаю, у культурных цэнтрах краіны. Калі мы разгледзім усю рабочую клясу цалком, то ўбачым, што тут ёсьць і выхадцы з сялянства і выхадцы з рамесьнікаў, дробных гандляроў і г. д. З другога боку, ёсьць і рабочыя, якія ўжо зьяўляюцца рабочымі ў другім альбо ў трэцім пакаленьні і з малаком мацеры ўжо ўсасалі ў сябе пролетарскі вобраз мысьлі, пролетарскія прывычкі і погляды. Цэлы шэраг другіх умоў робіць уплыў парознаму на розныя пласты рабочае клясы. І дзеля гэтага ня дзіва, што *па сваёй сьвядомасьці* рабочая кляса ніколі ня была—і да гэтых часоў яшчэ не зьяўляецца—зусім аднастайнай. Найбольш сьвядомыя рабочыя, якія ясьней і лепш іншых бачаць і разумеюць шляхі і асноўныя інтарэсы працоўных мас, яднаюцца ў самай перадавой організацыі працоўных—*у комуністычнай* партыі, партыі, якая самым пасьлядоўным і самым разумным чынам вядзе барацьбу за зьнішчэньне ўлады капіталу і за пабудаваньне будучае новае грамадзкасьці. Калі ў партыі яднаецца найбольш сьвядомая частка пролетарыяту, то зусім відавочна, што *сярод* самога пролетарыяту ёй павінна належаць, у сваю чаргу, *кіраўнічая роля.* І тут мы таксама можам сказаць: зразумела, ня „віна“ найбольш адсталых

пластоў рабочых у тым, што яны адсталыя, і ў тым, што яны па сваёй сьвядомасьці ўступаюць месца іншым пластом рабочае клясы,—гэта ня віна, а „бяда“ іх. З другога боку, зусім зразумела і відавочна што *калі-б было страчана кіраўніцтва з боку партыі, калі-б гэта кіраўніцтва якім-небудзь чынам было зьніштожана, то гэта ў высокай меры пашкодзіла-б усёй рабочай клясе цалком,* бо гэта азначала-б зьнішчэньне кіраўніцтва з боку найбольш сьвядомае, найбольш передавое і найбольш організованае часткі рабочае клясы.

Такім чынам, да чаго-ж мы прышлі? Мы прышлі да таго, што для перамогі рабоча-сялянскай справы, справы працоўных мас, патрэбны наступныя асноўныя ўмовы: *паперше, патрэбен саюз паміж рабочымі і сялянамі, іх блёк; падругое, у гэтым саюзе кіраўнічая роля павінна належаць рабочай клясе; патрэцяе, у самой рабочай клясе кіраўнічая роля, у сваю чаргу, павінна належаць комуністычнай партыі.* Калі сярод рабочае клясы ня будзе кіраўнічае ролі комуністычнае партыі, ці калі зьніштожыцца кіраўнічая роля рабочае клясы над сялянствам, тады зусім няміпуча лопаецца ўся рабоча-сялянская справа, тады няміпуча перамагаюць заклятыя ворагі *і* рабочае клясы, *і* сялянства.

Можна, усё-ж такі, паставіць пытаньне і аб такіх рэчах, дзе інтарэсы рабочае клясы і сялянства не супадаюць, а часамі нават супярэчаць адны другім. Напрыклад, можна паказаць, што селянін прадае хлеб, а рабочы гэты хлеб купляе. Селянін, які прадае хлеб, зацікаўлен дзеля гэтага ў больш высокіх цэнах; рабочы, які купляе хлеб, зацікаўлен у цэнах больш танных. Гэта супярэчнасьць сапраўды існуе ў жыцьці. Але мы не гаварылі, што рабочая кляса і сялянства—гэта *адна і тая самая* кляса. Мы зусім не гаварылі, што паміж рабочай клясаю і сялянствам няма *ніякай* розьніцы. Трэба глядзець праўдзе ў вочы і не замазваць справу ўсякай нікчэмнай брахнёй. Гэтыя *разыходжаньні паміж рабочай клясай і сялянствам існуюць, але яны адыходзяць на задні плян перад такімі інтарэсамі і такімі пытаньнямі, якія маюць больш карэннае і больш асноўнае значэньне для абедзьвюх кляс.* Таксама паны і капіталістыя ніколі ня былі аднэй і тэй-жа клясай. Паміж імі былі вельмі буйныя супя-

рэчнасьці інтарэсаў: гарадзкая буржуазія таксама купляла хлеб і сырэц у памешчыкаў, памешчыкі прадавалі ёй гэты хлеб і гэты сырэц; і, наадварот, буржуазія прадавала памешчыкам продукты прамысловасьці, і памешчыкі куплялі ў яе гэтыя продукты. І тым ня менш, ня гледзячы на гэтую досыць істотную супярэчнасьць, саюз капіталістых і памешчыкаў, асабліва за апошнія часы, быў асноўным фактам грамадзкага жыцьця, і ўсюды блёк памешчыкаў і капіталістых пад кіраўніцтвам буржуазіі, г. зн. пад кіраўніцтвам гэтых капіталістых, зьяўляўся пануючай сілай, з якою прыходзілася і прыходзіцца весьці барацьбу рабочай клясе і сялянству. Гэтак сама, як памешчыкі і капіталістыя, не зьяўляючыся аднэй клясай і адрозьніваючыся адны ад другіх, ішлі і йдуць у *блёку, у саюзе* адны з другімі, і ўсё больш яднаюцца ў гаспадарчым жыцьці і ў клясавай барацьбе супроць рабочае клясы і сялянства, гэтак і пролетарыят, не зьяўляючыся тэйжа клясай, што і сялянства, тым ня меней павінен ісьці ў блёку, у цесным саюзе з сялянствам; а сялянства, з свайго боку, павінна дзеля ўласных асноўных інтарэсаў падтрымліваць пролетарыят, быць з ім у саюзе, добраахвотна згаджацца на кіраўнічую ролю рабочае клясы, бо толькі пры гэтых умовах магчыма агульная перамога рабоча-сялянскае справы.

## IV. Барацьба рабочае клясы з буржуазіяй за сялянства.

Тая акалічнасьць, што вёска нямінуча адстае ў сваім разьвіцьці ад гораду, прыводзіць да вельмі паважнае зьявы. А іменна, сялянства звычайна ня можа граць зусім самастойную ролю, *яно нямінуча падпадае альбо пад уплыў буржуазіі, альбо пад уплыў пролетарыяту*. Вельмі часта сялянства *хістаецца* паміж гэтымі дзьвюма асноўнымі клясамі капіталістычнай грамады. З свайго боку, буржуазія, карыстаючы ўсе перавагі свайго становішча, карыстаючы свае грашовыя сродкі, сваё палітычнае панаваньне, сваю монополію на навуку, на школу, на газэты і г. д., вядзе сыстэматычную, упартую, бязупынную барацьбу за тое, каб зрабіць падлеглымі свайму панаваньню, у тым ліку і свай-

му *ідэёваму* панаваньню, шырокія пласты сялянства, пры гэтым праваднікамі гэтага буржуазнага ўплыву на сялянства зьяўляюцца звычайна больш заможныя пласты сялянства, якія, натуральна, цягнуцца да буржуазіі. Рабочая кляса, у сваю чаргу, змагаецца за тое, каб *вызваліць* сялянства з-пад уплыву буржуазіі, растлумачыць сялянству неабходнасьць барацьбы з капіталістычным ладам, які супярэчыць асноўным інтарэсам шырокай масы сялянскай беднаты і часткай сярэдняга сялянства. У залежнасьці ад таго, куды схіляецца, у які бок хістаецца сялянства—у бок пралетарыяту ці ў бок буржуазіі,—вырашаецца пытаньне аб тым, ці моцна трымаецца на нагах блёк памешчыкаў і капіталістых, ці можа яму, сапраўды, пагражае сур'ёзная небясьпека з боку блёку рабочых і сялян. На прыкладзе нашай рэволюцыі можна выразна бачыць, якім чынам буржуазія імкнулася скарыстаць цемнату сялянства і яго лішняе давер'е к буйным уласьнікам, скарыстаць дзеля таго, каб зрабіць з сялянства гарматнае мяса супроць пролетарыяту. І гэтак-жа сама на прыкладзе нашае рэволюцыі і яе разьвіцьця можна яскрава бачыць, як пры правільнай політыцы з боку пролетарскай партыі можна вырваць сялянства, у яго-ж уласных інтарэсах, з-пад уплыву буржуазіі і ўтварыць з сялянства дадатковую, вельмі значную і моцную сілу, лязо якой накіравана супроць эксплёататарскае капіталістычнае грамады.

Буржуазія беспасрэдна пасьля Лютаўскай рэволюцыі імкнулася абмануць сялянства ў пытаньні *аб вайне*. Буржуазія, іграючы на сялянскай цемнаце і на сялянскай адданасьці да бацькаўшчыны, імкнулася намаляваць імпэрыялістычную вайну, якую яна вяла па простай паказцы ангельскіх і францускіх імпэрыялістых, якая падганялася палкай гэтых капіталістых, як вайну праўдзівую, як вайну без рабункаў, як вайну выключана абарончую. Буржуазія грала на патрыотычных і ўласьніцкіх струнках сялянства, буржуазія імкнулася намаляваць самую рэволюцыйную партыю нашай рэволюцыі—партыю бальшавікоў, як зброд нямецкіх шпіёнаў, нямецкіх агэнтаў, якія паставілі сабе на мэце распрадаць нашую краіну нямецкаму імпэрыялізму. І трэба сказаць, што адзін час, дзякуючы шалёнай траўлі з боку ўсяго буржуазнага друку,

ёй удалося дасягнуць вядомых—з яе пунку погляду добрых—рэзультатаў. Нашай партыі і рабочай клясе прышлося перажыць цяжкія часы, калі дробна-буржуазная партыя соцыялістых-рэволюцыянэраў зьявілася на чале сялянства і праводзіла цалком, разам з меншавікамі—другою дробна-буржуазнай партыяй у нашай краіне,—тую політыку, якую дыктавала ім *наша буржуазія.* І толькі энэргічнейшая работа нашай партыі і практыка вайны і рэволюцыі, з чаго самі масы пераконваліся паступова ў поўнай праўдзівасьці бальшавікоў, зрабілі тое, што буржуазны абман наконт вайны быў раскрыты да канца.

Буржуазія імкнулася таксама скарыстаць вельмі ўмела і вядомыя забабоны сярод сялян у *пытаньні аб зямлі.* Шырокія масы сялянства жадалі атрымаць (і гэта была заўсёдная мара нашай вёскі) панскую зямлю, жадалі ўпарта забраць гэту зямлю ад памешчыкаў. Але, з другога боку, некаторыя пласты сялянства, у першую чаргу больш заможныя пласты, якія, з аднаго боку, менш патрабавалі панскай зямлі, а з другога боку, значна больш паважалі буйных уласьнікаў наогул, натуральна знаходзіліся ў становішчы хістаньня і нерашучасьці. Буржуазія цераз партыю сваіх лёкаяў, цераз партыю соцыялістых-рэволюцыянэраў імкнулася ўтрымаць натуральнае імкненьне сялянства да заваяваньня памешчыцкай зямлі. На ўсе лады гаварылі, што нельга забіраць зямлю „да ўстаноўчага сойму“, што нельга выкурваць памешчыка з яго панскіх маёнткаў без асаблівага закону. Палохалі страшэннай разьнёй і страшэнным зямельным бязладзьдзем, якое павінна выбухнуць, калі сяляне „самачынна“, г. зн. не чакаючы ніякіх распараджэньняў зьверху, будуць забіраць гэтую зямлю, выганяць памешчыкаў, распраўляцца з імі так, як яны гэтага заслужылі. Толькі адна партыя, партыя бальшавікоў, партыя рабочае клясы, стаяла за *неадкладную конфіскацыю панскіх зямель,* крычала сялянам на ўсіх мітынгах і сходах, што сяляне павінны, нічога не чакаючы і нікога ня слухаючы, самі забіраць гэтую зямлю ў памешчыкаў. Мы памятаем той час, калі ва ўрадзе сядзелі прадстаўнікі буржуазіі разам з прадстаўнікамі партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў, і калі гэты ўрад арыштоўваў гэтыя сялянскія зямельныя комітэты за іх

ня зусім далікатнае абыходжаньне з панскай зямлёй. Наадварот, наша партыя вяла энэргічнейшую работу па вытлумачэньні сялянам усёй неабходнасьці разбураньня памешчыка, выганяючы яго з зямлі. Бо толькі разьвязаўшы рэвалюцыйную энэргію сялянства (а разьвязваць яе трэба было раней усяго на пытаньні аб зямлі), мы маглі ўтварыць сапраўды трывалыя гарантыі рэвалюцыйнай перамогі. Супольны плян буржуазіі эсэраў, меншавікоў і г. д., плян, каб *адцягнуць вырашэньне зямельнага пытаньня*, плян, які ў самай рэчы быў ні чым іншым, як падтрымоўкай усяго старога ладу цалком, гэты плян праваліўся дзеля таго, што *ў пытаньні аб зямлі сялянства пашло не за буржуазіяй, а пашло за рабочаю клясай*, пашло не за ўмераннымі лёзунгамі буржуазіі і згодніцкіх партый, а пашло за *паступовымі рэвалюцыйнымі лёзунгамі, якія выкідаліся партыяй рабочае клясы.*

Гэта-ж самая жорсткая барацьба паміж рабочаю клясай і буржуазіяй за ўплыў на сялянства цягнулася і далей. Самым небясьпечным для буржуазіі было, зразумела, *заваяваньне ўлады рабочаю клясаю і ўзмацненьне гэтай улады.* Буржуазія добра разумела, што гэта нямінуча здарыцца, калі сялянства ў рашучы момант падтрымае рабочую клясу. Наша буржуазія добра падлічала тую практыку, якую пакінуў ёй у спадчыну скінуты царскі лад, яна памятала, што панскаму цару ўдалося разьбіць сілы рэвалюцыйнага народу ў 1905 г. якраз таму, што *рабочая кляса ня была своечасова падтрымана сялянствам:* сялянства выступіла значна пазьней, ужо тады, калі быў разьбіты і разбураны галоўны атрад рэвалюцыйнага руху—гарадзкая рабочая кляса. Царызму ўдалося тады перамагчы рэвалюцыю якраз таму, што яму ўдалося разьбіць рэвалюцыйную армію *па частках.* Дзеля гэтага, зразумела, што буржуазія прыкладвала ўсе натугі, каб разьяднаць рабочых і сялян. Беспасрэдна перад кастрычнікавымі днямі і пазьней, у часы барацьбы савецкае ўлады за існаваньне, буржуазія пры дапамозе сваіх агэнтаў—эсэраў і меншавікоў—імкнулася абмануць сялянства *лёзунгам „дэмократыі“*: супроць улады саветаў, г. зн. супроць кіраўніцтва пролетарыяту, выкідаўся лёзунг т. зв. „дэмократыі“ і „учредилки“, г. зн., па сутнасьці справы, лёзунг буржуазнага панаваньня і кіраў-

ніцтва, кіраўніцтва часткаю *непасрэднага*, часткаю *цераз* эсэраў і меншавікоў. Рабочая кляса і яе партыя абвінавачваліся ў тым, што яны здраджваюць лёзунгу „роўнасьці“, лёзунгу „свабоды“ і г. д. Часы былі тады баявыя. Трэба было як мага цьвёрдай рукою, бязьлітасна і ўпарта душыць усе контр-рэволюцыйныя спробы з боку буржуазіі і памешчыкаў. Буржуазія і памешчыкі ў нашай краіне мелі сваіх шматлікіх прыхільнікаў у васобе ня толькі меншавіцкай і эсэраўскай партыі, але і ў асобе вялікіх пластоў чыноўніцтва, служачых, т. зв. інтэлігэнцыі (дактароў, адвакатаў, настаўнікаў, профэсароў, духавенства і інш.), не гаворачы ўжо аб афіцэрскіх кадрах былое царскае арміі, якія ў сваёй пераважнай большасьці зусім адкрыта стаялі за зварот старых парадкаў. І вось у такі час, калі трэба было весьці *ўсімі сродкамі* бязьлітасную барацьбу і пазбаўляць зброі ворагаў, буржуазія, эсэры і меншавікі выстаўлялі лёзунг „роўнасьці“ і „свабоды“, г. зн. свабоды для *здраднікаў* весьці сваю работу, свабоды для *былых памешчыкаў* абманваць сялян, свабоды для *капіталістых* скарыстаць сваю грашовую суму для подкупу і організацыі сваіх прыхільнікаў і г. д. Калі меншавікі і эсэры ня зусім добра разумелі, што ў такіх умовах запатрабаваньне дэмократыі“, якое выстаўлялася супроць лёзунгу савецкай улады і дыктатуры пролетарыяту, сапраўды азначала ні што іншае, як запатрабаваньне ўсялякіх свабод *для буржуазіі*, то гэта апошняя добра разумела, у чым справа. Яна падрыхтоўвала вайсковую дыктатуру крывавых гэнэралаў, але ёй раней усяго патрэбна было абмануць хоць-бы частку шырокіх народных мас, адарваць сялянства ад рабочае клясы, пазбавіць, такім чынам, моцы савецкую ўладу абманным лёзунгам „дэмократыі“ і „учредилки“. Буржуазія праўдзіва мела надзеі на тое, што калі ёй удасца цераз сваіх падручных скінуць савецкую ўладу, зьніштожыць кіраўніцтва пролетарыяту, то зусім ня цяжка будзе расправіцца „в два счета“ з эсэрамі і меншавікамі, якія зусім ня здольны на якое-б там ні было цьвёрдае кіраўніцтва.

Практыка сапраўднай барацьбы паказала, што там, дзе частка сялянства йшла за гэтымі абманнымі лёзунгамі, пераходзіла ў лягэр „учредиловцев“, там ход здарэньняў нямінуча

прыводзіў да таго, што цераз кароткі тэрмін часу пачынаў панаваць і пачынаў уладаць непадзельнаю ўладаю які-небудзь з царскіх гэнэралаў. Так было на поўдні (Дэнікін, Урангель і інш.), гэтак было на ўсходзе (Калчак і г. д.). Сяляне, пераканаўшыся на ўласнай практыцы ў тым, да чаго прыводзіць „учредиловская“ „дэмократыя“, зноў зварочваліся да савецкай улады, зноў вызваляліся з-пад кіраўніцтва буржуазіі і пераходзілі на старану пролетарыяту,—на гэты раз значна больш стала, рашуча і без звароту. І нанава ўтвораны саюз рабочай клясы і сялянства ізноў прарабляў вялікія цуды ў барацьбе супроць аб'яднаных сіл памешчыкаў, капіталістых і чужаземнай буржуазіі.

І зараз не перапыняецца гэта барацьба паміж рабочаю клясаю і буржуазіяй за ўплыў на сялянства. Ня гледзячы на наш гаспадарчы рост, у нас маецца вялікая колькасьць перашкод. Спадчына старога зруйнаваньня вісіць яшчэ цяжкаю гіраю на нашых нагах. Рабочая кляса і гарадзкая прамысловасьць ня могуць даць зараз выстарчаючую колькасьць тавараў па досыць танных цэнах. Савецкая ўлада і кіруючая партыя прыкладваюць усе сілы, каб памагчымасьці скарэй падняць вытворчасьць, панізіць сабе кошт і накіроўваць у вёску памагчымасьці больш танныя тавары. Але нельга скакануць вышэй сваіх вушэй, і дзеля гэтага толькі паступова наша дзяржаўная прамысловасьць зможа вырашаць пастаўленыя ёй задачы.

Пабудаваньне аграмаднага дзяржаўнага апарату, забясьпечаньне краіны неабходнай абаронай, наладжваньне ўсяе справы кіраўніцтва і г. д. патрабуюць значных выдаткаў. Гэтыя выдаткі, у сваю чаргу, выклікаюць патрэбу ў падатковым абкладаньні, у тым ліку і падатковым абкладаньні сялянства. На разбураныя і зьбяднелыя сялянскія гаспадаркі гэтыя падаткі кладуцца цяжкім грузам. І рабочая кляса не адразу, а толькі паступова можа зьніжаць гэтыя падаткі, толькі паступова можа паляпшаць самую сыстэму абкладаньня, падлічаючы на практыцы, якім чынам зрабіць палёгку сялянству.

Маладая дзяржава ў пачатку свайго нараджэньня ня мела выстарчаючай колькасьці ўмелых і сьвядомых людзей,

адданых справе рэволюцыі; рабочая кляса і сялянства ніколі раней ня ўчыліся кіраваць дзяржаваю. Ня дзіва, што рабочыя і сяляне, якія ўцягваюцца ў агульнае дзяржаўнае будаўніцтва, рабілі цэлы шэраг памылак, якія ў сваю чаргу цяжка адбіваліся на сялянах. Выпрацаваць выстарчаючую колькасьць людзей, патрэбных для кіраваньня такою аграмаднай краінаю, як наша,—справа зусім нялёгкая. Панаваўшыя раней клясы выпрацоўвалі сваіх патрэбных ім людзей на працягу цэлых соцень гадоў і цэлага раду пакаленьняў. А савецкая ўлада, улада працоўных налічвае ўсяго некалькі гадоў свайго існаваньня ў нашай краіне. Адсюль нямінучыя недахопы ў сыстэме нашага кіраваньня, адсюль цэлы шэраг сумных зьяў і т. зв. „недахопаў мэханізму“.

І вось усе гэтыя недахопы скарыстоўваюцца прыхільнікамі буржуазіі для таго, каб *увагнаць клін паміж рабочаю клясай і сялянствам*, для таго, каб расшчапіць і раскалоць саюз рабочых і сялян, вырваць сялян з-пад кіраўніцтва пролетарыяту і захапіць хоць-бы і значную частку пад кіраўніцтва і ідэёвы ўплыў прыхільнікаў буржуазіі.

Трэба ўспамятаць яшчэ аб тым, што барацьба за ўплыў на сялянства, гэтая клясавая барацьба паміж пролетарыятам і буржуазіяй у цяперашнія часы вядзецца, паміж іншым, у нашай краіне ў зусім асаблівай форме, а іменна: *у форме барацьбы за гаспадарчую, экономічную змычку з сялянствам.* Гэтая барацьба вядзецца нашай дзяржаўнай прамысловасьцю і дзяржаўным гандлем супроць прыватнага капіталу, прыватнага гандляра і купца, які з свайго боку рашуча змагаецца за рост свайго экономічнага, гаспадарчага ўплыву на сялянства, г. зн. змагаецца за тое, каб атрымаць з гэтым апошнім экономічную змычку. Гэта барацьба паміж пролетарыятам і буржуазіяй вядзецца асобнымі сродкамі, і пролетарыят зможа перамагчы ў гэтай барацьбе толькі ў тэй меры, у якой яму сапраўды ўдасца падняць сваю прамысловасьць, наладзіць добры і танны гандлёвы апарат і паказаць усяму сялянству, *што дзяржаўная гаспадарка зможа лепш задаволіць неабходныя экономічныя патрэбы сялянскага насельніцтва, чым прыватны капіталісты, прыватны гандляр, прыватны купец, прыватны пасярэднік.*

## V. Як можа зьвярнуцца з задняга ходу стары лад.

У руках рабочае клясы, у распараджэньні дзяржаўнай улады знаходзіцца зараз уся буйная прамысловасьць, транспорт і буйны гуртавы гандаль. У руках новай і рэшткі старой буржуазіі знаходзяцца параўнальна нязначныя капіталы, але затое маецца аграмаднейшая практыка, лоўкасьць, пранырлівасьць і ўмеласьць. З гэтымі сродкамі прыватны капітал вядзе супроць нас сыстэматычную бязьлітасную, проста шалёную барацьбу. Гэта барацьба не праходзіць у формах крывавых стычак, але, тым ня менш, яна мае буйнейшае значэньне для ўсяго лёсу нашае краіны. І дзеля гэтага для рабочае клясы і сялянства асабліва важна зразумець, якія ўмовы забясьпечваюць перамогу саюзу рабочае клясы і сялянства і якія ўмовы могуць прывесьці да перамогі саюзу памешчыкаў і капіталістых.

Мы ўжо сказалі, што задачай рабочае клясы і задачай гарадзкое прамысловасьці зьяўляецца такое разьвіцьцё вытворчасьці, якое-б цалком і танна задавальняла патрэбы сялянскага насельніцтва. Калі гэтага няма і калі прыватны прадпрыемца, напрыклад, дробны прыватны фабрыкант, вытварае лепш ці таней, чым дзяржаўныя заводы, то само сабой зразумела, што сапраўдную змычку з сялянствам атрымае гэты прыватны прадпрыемца, які ў вачох сялянства павышае сваю гаспадарчую вагу, свой аўторытэт; наадварот, у такім выпадку гаспадарчы аўторытэт дзяржаўных прадпрыемстваў, а разам з тым і ўсяе дзяржавы, у вачох сялянства падае. Калі наш дзяржаўны гандаль, нашы гандлёвыя агэнты прадаюць тавар даражэй, дзякуючы сваёй няўмеласьці, дзякуючы вялікім накладным выдаткам свайго апарату, дзякуючы нядбаламу вядзеньню справы і г. д., у той час, як прыватны гандляр, які прызвычаіўся скарыстоўваць усялякую дробязь, прадае таней, то ў такім выпадку сялянства зноў-такі будзе цаніць значна вышэй гандаль прыватны, чым дзяржаўны. Гаспадарчы аўторытэт прыватнага гандляра будзе стаяць вышэй гаспадарчага аўторытэту дзяржаўных установ. Сапраўдную экономічную змычку, сапраўдны ўплыў будзе атрымліваць прыватны капітал, а гэта ўсё азначае ні што іншае, як перамогу

буржуазіі над рабочаю клясаю ў барацьбе за *экономічны ўплыў* на сялянства.

Можна сказаць, што пытаньне стаіць зараз такім чынам: змычка *каго з кім* будзе ўтварацца—прыватнага гандляра і капіталістага з сялянствам альбо пролетарскай прамысловасьці з гэтым самым сялянствам? Ад адказу на гэтае пытаньне і залежаць вынікі клясавай барацьбы. Зусім няважна, што гэта барацьба вядзецца ў спакойных формах, што гэтую барацьбу мы вядзем бяз звону мэталічнае зброі. Ня гледзячы на гэта, яна мае сапраўды вялічэзнае значэньне, яна, гэта барацьба, на справе вырашае ўсё.

Калі прыватны гандляр і капіталісты будуць адваёўваць сабе ўсё большае і большае месца ў нашым дзяржаўным жыцьці, і калі іменна гэтыя клясы будуць утвараць сваю дзяржаўную змычку з сялянствам, то гэта будзе азначаць разрыў і шчыліну ў тым фундаманце, на якім у цяперашні час трэба будаваць увесь саюз рабочае клясы і сялянства. Калі-б буржуазіі сапраўды ўдалося ўсё больш адпіхаць *экономічна* дзяржаўную прамысловасьць і дзяржаўны гандаль, то гэта нямінача пацягнула-б за сабой і вырастаючы *політычны* ўплыў гэтай буржуазіі на сялянства. У цяперашні час, калі грамадзянская вайна скончылася і калі галоўнейшай задачай зьяўляецца ўзмацненьне гаспадаркі, зусім зразумела, што ўзрост політычнага ўплыву рабочае клясы на сялянства, узрост давер'я гэтага сялянства да савецкай улады можа быць забясьпечаны толькі ў тэй меры, у якой савецкая ўлада будзе паказваць сябе здольнай да дзяржаўнага кіраўніцтва ўсёй краінай. Калі-б гэтага ня было, калі-б было адваротнае, то тады *зусім няміначa ўтворыцца пераход політычнага ўплыву на сялянства ад пролетарыяту да буржуазіі.*

Калі-б сялянства ўхілілася з-пад політычнага кіраўніцтва з боку пролетарыяту і падпала-б пад уплыў буржуазіі і прыватнага капіталу, то гэта няміначa пацягнула-б за сабою падзеньне савецкай улады і ўтварэньне буржуазнага ладу, г. зн. устанаўленьне політычнага панаваньня новай буржуазіі і рэштак старой буржуазіі, разбуранае ў часы вялікай рэволюцыі. Першай справай такога новага ўраду была-б няміначa адмена ўсялякіх нацыяналізацый, фабрыкі і заводы перашлі-б у рукі

прыватных асоб, прыватных заводчыкаў і фабрыкантаў; была-б шпарка зьнішчана нацыяналізацыя зямлі і было-б уведзена вырашэньне поўнае *свабоды гандлю і спэкуляцыі гэтай зямлёй*; пачалося-б шалёнае *купляньне гэтае зямлі*, у першую чаргу, тэй яе часткі, якая знаходзіцца ў руках беднаты, што ня мае выстачарючага інвэнтару. Утварылася-б у вельмі кароткі тэрмін вялізнае *абезьзямеленьне сялянства* і концэнтраваньне буйных зямельных фондаў (запасаў) у распараджэньні *пранырлівых зямельных спэкулянтаў*, якія часткаю самі перайначыліся-б у *новых памешчыкаў*, часткаю, перапрадаўшы гэтыя землі другім багатым людзям, дапамагалі-б таму, што з гэтых апошніх гэтак сама ўтварыліся-б *дадатковыя пласты памешчыкаў*. Гэтыя новыя памешчыкі, само сабой зразумела, пачалі-б аддаваць частку сваёй зямлі ў арэнду сялянам, прымушаючы іх плаціць вялікія грошы ў відзе арэнднай платы. Такім чынам, мы прышлі-б зноў да аднаўленьня парадкаў, надзвычайна падобных на тыя парадкі, якія зьмяла наша рэволюцыя, і за зьнішчэньне якіх так гэроічна змагаліся і рабочая класа, і сялянства.

Новыя кіруючыя клясы павінны былі-б плаціць поўнасьцю ўсе даўгі царскага ўраду, усе даўгі ўраду Керанскага, і, каб змагчы заплаціць гэтыя сапраўды аграмадныя сумы, яны нямінуча павінны былі-б аблажыць нячуванымі падаткамі сялянства, у шмат раз павялічыўшы яго падатковае абкладаньне і бязьлітасна націскаючы на рабочую клясу для таго, каб спрабаваць на гаспадарчых пачатках пусьціць у ход прыватную прамысловасьць. Само сабой зразумела, што былі-б зусім зьнішчаны ня толькі савецкія органы, але ўсякае ўмешваньне з боку рабочай клясы ў ход вытворчасьці; былі-б зьніштожаны ўсялякія фабзаўкомы, профэсыянальныя саюзы, былі-б пазбаўлены праў, рабочая кляса цалком была-б адціснута ад усякай камандуючай ролі ў вытворчасьці. Вельмі скора і сялянства зразумела-б, што яно страціла справу, што *разрыў саюзу паміж рабочай клясай і сялянствам* прывёў да аграмаднае страты для шырокіх мас сялянства, што ён аказаўся на руку толькі і выключна кулацкай верхавіне, эксплёататарскім пластом, г. зн. *сельска-гаспадарчай буржуазіі.* Масы зноў прышлі-б у вялікі рух, сялянства зноў пачало-б

вастрыць сякеры і падымаць вілы на новых памешчыкаў, і ўся гісторыя пачалася-б спачатку з аграмаднымі стратамі пры абясьсіленьні рабочае клясы і абясьсіленьні сялянства, пры значна большай практычнасьці буржуазіі, пры значна большай падтрымоўцы гэтай буржуазіі з боку ўсяго чужаземнага капіталу, не падзеленага, як гэта было ў 1917 г., сваёй уласнай імпэрыялістычнай лупцоўкай.

Зразумела, што ў самай рэчы нічога *гэтага ня будзе*. У самай рэчы будзе зусім іншае. Наша дзяржаўная прамысловасьць, наш дзяржаўны гандаль, наша коопэрацыя будуць усё больш і больш узрастаць, усё больш і больш адпіхаць прыватнага гандляра і прыватнага пасярэдніка, і, нарэшце, на гэтай глебе рабочая кляса будзе ўсё лепш і лепш прыцягваць пад свой уплыў і сваё кіраўніцтва шырокія сялянскія масы, уцягваючы іх у справу *актыўнага будаўніцтва новага ладу, новага рэжыму*. Мы пойдзем не па звычайным капіталістычным шляху, мы пойдзем і ўжо ідзем па зусім самастойным шляху, па сваёй уласнай, асаблівай, соцыялістычнай дарозе. Гэта становіцца магчымым, калі рабочая кляса, падтрыманая сялянствам, заваявала і ўзмацніла сваю дзяржаўную ўладу.

## I. Біты шлях да соцыялізму ў нашай краіне.

Ворагі рабочае клясы і сялянства давялі, што ўсякая спроба ажыцьцёвіць соцыялістычны лад азначае ў самай рэчы нішто іншае, як агульнае абядненьне і „роўнасьць ува ўбостве“. Ворагі рабочай клясы, якія ў гады нашай грамдзянскай вайны душылі і мучылі нашу краіну і тым самым выклікалі яе зьбядненьне і яе разбурэньне, гаварылі, што гэтае зьбядненьне і разбурэньне выцякаюць якраз з самое сутнасьці соцыялізму і комунізму. Зразумела, усё гэта няпраўда. Задача нашай партыі заключаецца ў тым, каб узьняць на недасяжную вышыню багацьце нашай краіны, а потым і ўсяго сьвету: не багацьце асобных людзей, не багацьце асобных груп мільёнэраў, прыватных капіталістых, спэкулянтаў, банкіраў, біржавікоў і г. д., а багацьце ўсяго народу, усіх працоўных цалком, багацьце краіны і краін, якія адваёваны ад ранейшых libпануючых кляс. Мы павінны быць праваднікамі найлепшай

тэхнікі, найлепшых спосабаў апрацоўкі глебы, найлепшых мэтодаў організацыі працы; словам, наша роля, нашае значэньне ў гэткі час, калі мы адваявалі ўладу ў капіталістых і памешчыкаў, зводзіцца, у першую чаргу, да таго, каб быць насіцелямі ўсялякіх гаспадарчых палепшаньняў. Што датычыць прамысловасьці, то гэтыя палепшаньні ў тым, каб будаваць новыя, усё больш буйныя заводы, каб пераходзіць на электрычную энэргію, каб падводзіць асновы электрыфікацыі пад працу ўсёй прамысловасьці, каб уводзіць больш правільную, больш плянавую організацыю гэтай прамысловасьці і працы ў ёй; каб ўсё болей і болей ісьці да такога парадку рэчаў, калі ўся прамысловасьць была-б аб'яднана *агульным плянам*, пры якім нічога не прападае дарма, ня робіцца ніякіх непатрэбных страт і выдаткаў, і пры якім дзеля гэтага сабе кошт вытворчасьці на вытвараемыя продукты робіцца ўсё меншым і меншым. Аднак, такога роду *плянавая гаспадарка* ў прамысловасьці сама па сабе немагчыма: бо наша прамысловасьць працуе вельмі шмат на *сялянскі рынак*, ужывацелямі продуктаў прамысловай вытворчасьці зьяўляюцца, у першую чаргу, нашы сялянскія гаспадаркі. Каб быў дакладны плян у прамысловасьці, для гэтага неабходна ведаць, колькі будуць ужываць сялянскія гаспадаркі, для гэтага трэба строга падлічаць, колькі і якіх продуктаў будуць патрабаваць гэтыя сялянскія гаспадаркі ад дзяржаўнай прамысловасьці. Каб прмысловасьць мела ўсё болей і болей магчымасьцяй для свайго разьвіцьця, для гэтага патрэбна, каб разьвівалася і *сама сялянская гаспадарка*; а з другога боку, неабходна таксама, каб гэтая сялянская гаспадарка была сама ўсё болей і болей *організаванай*, была-б такою гаспадаркаю, дзе асобныя двары і асобныя дробныя гаспадаркі ўсё больш і больш ішлі па шляху да *ўзаемнай сувязі адна з другою*. Вельмі часта здараецца чуць з боку сялян скаргі на тое, што яны жывуць горш рабочых, працуюць у дзень больш, ня могуць і марыць аб ніякім васьмігадзінным рабочым дні і г. д. і г. д. Але ня цяжка прыпамятаць, што ўсё гэта робіцца з-за страшэннае адсталасьці самой сялянскай гаспадаркі, параўнальна з фабрыкай і буйнай вытворчасьцю. Сялянская гаспадарка—гэта тое самае, што ў галіне прамысловай вытвор-

часьці дробненькая гаспадарка рамесьніка або саматужніка: той таксама сядзіць на сваёй маленькай гаспадарцы, працуе дні і ночы і, тым ня менш, ня можа вытрымаць ніякага параўнаньня з буйнай фабрыкай, на якой ёсьць і лепшыя машыны і лепшая організацыя працы і лепшае скарыстаньне апалу, сырцу і інш. Такім чынам, калі сялянства хоча дабіцца сур'ёзна і надоўга буйных палепшаньняў у сваім жыцьці, яно павінна йсьці *па шляху да свайго аб'яднаньня.* Само сабою зразумела, што нельга думаць, быццам можна ўгаварыць альбо нават быццам-бы трэба ўгаварваць сялянства *раптам* пераходзіць усім да аднаго, да *аб'яднаньня сваіх зямельных надзелаў.* Старыя прывычкі і старыя спосабы гаспадаркі так уеліся ў людзей, што пераламаць гэтыя прывычкі няма магчымасьці. І тым ня менш, сялянства, выходзячы з *інтарэсаў свае прыватнае гаспадаркі*, асобнага і дробнага двара, *няміnуча пойдзе па шляху свайго аб'яднаньня і тым самым усё дружней будзе злучацца з пролетарскаю дзяржаўнай прамысловасьцю.* Якім чынам можна ўявіць сабе гэта разьвіцьцё? Гэта разьвіцьцё пойдзе цераз *коопэрацыю.* Любая сялянская гаспадарка зацікаўлена ў тым, каб лепш і карысьней *прадаваць* продукты сваёй вытворчасьці, любая сялянская гаспадарка зацікаўлена ў тым, каб памагчымасьці выгадней і таней купляць патрэбныя ім продукты гарадзкое прамысловасьці: і па лініі т. зв. спажывецкага попыту (купляньне мануфактуры, абуцьця і да гэтага падобн., продуктаў беспасярэднага ўжываньня), і па лініі попыту вытворчага (закупка розных сродкаў вытворчасьці, як, напр.: палепшаньне насеньня, сельска-гаспадарчых прылад і інш.). Гэтак сама любая прыватная, сялянская, дробная гаспадарка зацікаўлена ў тым, каб мець у выпадку патрэбы памагчымасьці больш танны крэдыт. І вось гэтая акалічнасьць, якая ня толькі не супярэчыць інтарэсам прыватнай гаспадаркі, але беспасярэдна і з гэтых інтарэсаў выцякае, і гэтымі інтарэсамі дыктуецца, гэта акалічнасьць штурхае сялянства на шлях яго *коопэрацыйнага аб'яднаньня.* Так было ўсюды без выключэньня ўва ўсіх краінах сьвету. Каб выгадней купляць продукты прамысловасьці альбо продукты сельскай гаспадаркі іншых краін (напрыклад, лепшае насеньне альбо лепшыя гатункі жывёлы і г. д.), сялянства організоў-

вала закупачныя коопэрацыйныя аб'яднаньні. Асобныя сяляне організоўваліся, сумесна ўтваралі коопэратыў, выбіралі кіраўніцтва свайго коопэратыву, плацілі паі і атрымоўвалі, такім чынам, мажлівасьць значна больш організаваным шляхам купляць патрэбныя ім прадметы. Тут замест асобных людзей, якія дзейнічалі паасобку, на свой страх і рызыку, выступала ўжо цэлая організацыя, якая мела магчымасьць лепш разьведаць, дзе выгадней і што выгадней купіць; якой прадавец, натуральна, давяраў больш, чым асобнаму чалавеку, і дзеля гэтага гатоў быў ісьці на вядомы крэдыт; з другога боку, гэткая організацыя купляла значна больш, чым асобны чалавек, асобны селянін, і дзеля таго гуртавыя цэны заўсёды таней, чым цэны паасобныя, то зусім зразумела, што пры гэткіх коопэрацыйных купляньнях сяляне, якім трэба было купіць, захоўвалі сабе вядомую колькасьць грошай; калі пры гэтым прыняць пад увагу, што агульная перавозка і організаванае разьмеркаваньне даюць таксама шмат выгады, параўнальна з тым выпадкам, калі кожны селянін павінен асобна запрагаць сваю кабылу, ехаць у горад і кожны асобна прывозіць патрэбны яму тавар, то будзе зразумелым, што і гэткага роду выдаткі таксама ў шмат разоў зьмяншаюцца пры коопэрацыйных закупках. Такім чынам, асобная сялянская гаспадарка, ніяк не парушаючы звычайных для яе спосабаў вядзеньня гаспадаркі, у той самы час пад уплывам сваіх-жа ўласных прыватных, дробна-гаспадарчых інтарэсаў прыходзіць да ўтварэньня *грамадзкіх* організацый, іменна— коопэратываў па закупках.

Альбо возьмем другі выпадак, іменна: *продаж продуктаў сялянскай вытворчасьці*—продаж малака, яек, мяса, хлеба і г. д. Калі асобны селянін альбо сялянка цягнецца з сваёю квартаю ці вядром асобна на гарадзкі рынак, то гэта адно; калі-ж сяляне яднаюцца ў агульны коопэратыў па збыце, то яны, дзякуючы лепшаму знаёмству з запатрабаваньнямі рынку, лепшай організацыі дастаўкі, экономіі на ўсіх накладных выдатках, транспорце, перавозцы, захоўваньні і інш., нямінуча атрымліваюць магарыч і тым самым больш даходу, чым у тым выпадку, калі яны выступаюць асобна і неорганізавана. Агульны збыт продуктаў свае вытворчасьці ў нека-

торых галінах вытворчасьці прыводзіць досыць шпарка і *да арганізацыі самое вытворчасьці.* Так, напрыклад, амаль што ўва усіх краінах, у тым ліку і ў нас, заўважваецца і заўважваўся, што сяляне, якія маюць коопэратывы па збыце малака, вельмі цікавяцца і тым, каб перайсьці і да сумеснай продажы цераз свае коопэратывы розных *малочных продуктаў,* як, напрыклад: сыру, масла і інш. А адсюль адзін крок да таго, каб перайсьці да арганізацыі агульных коопэрацыйных, *маслаапрацоўчых заводаў* альбо коопэрацыйных *сыраварань.* Асобныя сялянскія двары арганізуюць агульны маслаапрацоўчы завод, выпісваюць і агулам закупляюць патрэбныя машыны—сэпаратары і інш. У гэты маслаапрацоўчы завод нясуць малако, якое атрымліваюць з асобных гаспадарак і потым атрымліваюць магарыч шляхам арганізаванай коопэрацыйнай продажы масла, сыру і г. д. У выніку гэты магарыч, які ідзе за вядомымі вылікамі на ўтрыманьне і разьвіцьцё агульнага коопэратыву ў кішэні прыватнае гаспадаркі, аказваецца няміnуча вышэй, чымся той магарыч, які атрымліваецца ў асобных, неорганізаваных у коопэратывы вытворцаў. Тут мы бачым такі выпадак, калі ад арганізацыі гандлю сяляне пераходзяць ужо *да арганізацыі супольнае вытворчасьці.*

Таксама стаіць справа, напрыклад, і ў тых раёнах, дзе засяваюць бульбу. Там часта сяляне арганізоўваюць уласныя заводы, якія займаюцца *пераапрацоўкай бульбы,*—крухмальныя заводы. Падобныя агульныя коопэрацыйныя прадпрыемствы маюцца і ў другіх галінах: напрыклад, сушэньне садавіны і гародніны, коопэрацыйная вытворчасьць віна ў раёнах, дзе сялянства займаецца апрацоўкай вінаграду, вытворчасьць консэрваў з рыбы ў тых мясцовасьцях, дзе сялянства пераважна займаецца рыбацтвам і г. д.

Нарэшце, коопэрацыйныя арганізацыі *крэдыту* таксама ні ў малым стопні не супярэчаць інтарэсам прыватнага вытворцы-селяніна. Наадварот, крэдытныя коопэрацыйныя таварыствы гэтак сама, як коопэратывы па збыце і па закупках, а таксама і па арганізацыі асобных вытворчых галін, няміnуча даюць карысьць гэтым сялянскім гаспадаркам; і

дзеля гэтага, зусім не ныпадкова, што ва ўсіх краінах сялянства ідзе па гэтым шляху.

*Аднак, ёсьць істотная, проста такі вялізарная розьніца паміж умовамі разьвіцьця сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў капіталістычных краінах, з аднаго боку, у нашым Савецкім Саюзе—з другога.* Пры капіталістычным рэжыме ўсе віды сялянскай коопэрацыі абавязкова падлягаюць уплыву капіталістычнае гаспадаркі. Аграмадная моцная прамысловасьць знаходзіцца ў руках буржуазіі, магутнейшая крэдытная сыстэма, на чале з надзвычайна моцнымі банкамі, належыць кучцы буйнейшых капіталістых, транспорт, чыгункі знаходзяцца таксама ў руках альбо прыватных капіталістых, альбо буржуазнай дзяржавы. Увесь горад, па сваёй істотнасьці, знаходзіцца ў распараджэньні буржуазіі. Яго ўплыў на вёску, у якой, апрача таго, камандуюць панскія і капіталістычныя верхавіны, уладары вялікіх маёнткаў,—гэты ўплыў зьяўляецца рашучым. Коопэрацыйныя організацыі пры такім палажэньні рэчаў, калі яны разьвіваюцца, нямінуча *падлягаюць пад гаспадарчае кіраўніцтва буржуазіі і памешчыкаў*, паступова злучаюцца з дзяржаўнымі організацыямі гэтых капіталістых і памешчыкаў і ў значнай меры самі перайначваюцца ў асаблівыя капіталістычныя організацыі, якія апіраюцца на скарыстаньне і эксплёатацыю наёмнай працы. У самай рэчы, дапусьцім, што ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі, усё роўна ў якой, маецца вольны капітал, які абавязкова організуецца, калі толькі гэтая коопэрацыя разьвіваецца, а ня чахне. Само сабой зразумела, што ў цэлым шэрагу выпадкаў—і чым далей, тым больш—гэты вольны капітал укладваецца беспасярэдна ці ўскосна ў розныя банкавыя ўстановы (альбо ў прыватныя банкі, альбо ў дзяржаўны банк, які знаходзіцца ў распараджэньні буржуазнае дзяржавы). У гэтым выпадку атрымліваецца „зрошчваньне“ паміж *коопэрацыйнай організацыяй і буржуазным банкам*. Коопэрацыя пападае ў бязумоўную залежнасьць ад гэтага банку і цераз гэткую змычку *падлягае дзяржаўнаму (а ў моц гэтага, палітычнаму) кіраўніцтву з боку буржуазіі*. Калі мы маем перад сабою закупачныя коопэратывы, то гэтым коопэратывам даводзіцца мець справу з буржуазным

сындыкатамі, трэстамі, г. зн. з організацыямі буйных заводчыкаў і фабрыкантаў. І тут нямінуча атрымліваецца, такім чынам, *экономічная змычка і экономічная залежнасьць ад організацыі буйнага капіталу*, якія зьвязваюцца з коопэратывамі цэлаю сеткаю ўзаемных умоў наконт дастаўкі, крэдытных абавязкаў і г. д.

Гэтак сама стаіць справа, калі гутарка йдзе *аб крэдытных таварыствах*, якія яшчэ больш цесна зьвязваюцца з буржуазнымі банкамі і падлягаюць у беспасярэднюю ад іх залежнасьць. Такім чынам, агульныя ўмовы разьвіцьця коопэрацыі ў межах капіталістычнага ладу, нават у тым выпадку, калі коопэрацыйныя організацыі зьяўляюцца організацыямі не эксплёататарскіх пластоў сялянства, г. зн. ня кулацкімі організацыямі, а організацыямі працоўнага сялянства,—нават у гэтым выпадку гэтыя коопэратывы нямінуча, самым ходам рэчаў, у моц агульных умоў свайго разьвіцьця, у моц таго, што яны прымушаны працаваць у тых межах, якія ставіць ім панаваньне капіталістычнага ладу, *перайначваюцца ў органы аграмаднай гаспадарчай машыны капіталістычнага парадку, часткамі якое яны неабходна становяцца*. Коопэрацыйныя організацыі, такім чынам, *урастаюць* у агульна капіталістычны мэханізм, становяцца яго складанай часткаю, растуць з ім, самі перайначваюцца ў капіталістычныя прадпрыемствы.

Нарэшце, аграмаднейшае значэньне мае тая акалічнасьць, што ва ўмовах капіталістычнага ладу, дзе ўся навука, уся тэхніка, уся асьвета, уся школа і ўся прэса (друк) знаходзяцца ў распараджэньні буржуазіі, *кадравы склад коопэратываў* (члены кіраўніцтваў, кіруючыя і камандуючыя людзі, саветнікі, агрономы, рахункаводы і г. д.) паходзіць, звычайна, з буржуазных пластоў. Дзеля гэтага яны ў коопэратывах вядуць такую лінію, якая карысна для пануючай буржуазіі, лінію, якая замазвае процілежнасьць інтарэсаў паміж працай і капіталам, паміж сялянамі і памешчыкамі. Часта можна бачыць у Заходняй Эўропе і Амэрыцы, што на чале коопэрацыйных сялянскіх організацый стаяць нават буйныя памешчыкі, папы і адданыя ім, не за страх, а за сумленьне, розныя іх агэнты.

Калі якая-небудзь коопэрацыйная організацыя пажадала-б весьці сваю асобную, самастойную, супроць капіталізму накіраваную політыку, то яна нямінуча была-б тым самым павергнута на пагібель, яна падлягала-б сваеасабліваму гаспадарчаму бойкоту з боку моцных капіталістычных організацый: яна не атрымлівала-б крэдыту альбо атрымлівала-б яго на горшых умовах, чым іншая коопэрацыйная організацыя, якая мае вернападданчы настрой у адносінах да капіталізму; яна не магла-б нідзе купляць неабходныя ёй продукты прамысловасьці на такіх самых умовах, як іншыя коопэратывы і г. д.

Усе гэтыя прычыны вызначаюць сабою шлях разьвіцьця сялянскай коопэрацыі ва ўмовах капіталістычнае гаспадаркі.

*Зусім іншыя ўмовы маюць пры нашым ладзе*, г. зн. *пры ладзе пролетарскай дыктатуры.* Агульныя межы коопэрацыйнага разьвіцьця вызначаюцца ў нас ня тым, што фабрыкі, заводы, капальні, чыгункі і банкі знаходзяцца ў руках буржуазіі, а тым, што ўся буйная прамысловасьць, транспорт і крэдытная сыстэма *знаходзяцца ў распараджэньні пролетарскай дзяржавы.* Значыць, калі ў нас, пры агульным разьвіцьці вытворчых сіл у нашай краіне, горад усё больш пачне станавіцца гаспадарчым кіраўніком вёскі і ўсё больш будзе наладжваць экономічную змычку, то калі будзе мацнець наша дзяржаўная гаспадарка, гэта будзе азначаць вырастаньне змычкі *пролетарыяту* з сялянствам. Сялянская коопэрацыя будзе нямінуча *ўрастаць* у сыстэму *пролетарскіх* дзяржаўных органаў, гэтак сама як ва ўмовах буржуазнага рэжыму яна ўрастае ў сыстэму органаў гаспадаркі *капіталістычнае.* Калі пры капіталістычным рэжыме ўсякая коопэрацыйная організацыя, якая пажадала-б стаць на шлях разьвіцьця, які супярэчыў-бы капіталізму, паступова душылася-б крэдытнымі і іншымі гаспадарчымі ўстановамі буржуазіі, то ва ўмовах пролетарскай дыктатуры, наадварот, будуць карыстацца рознай падтрымоўкай іменна працоўныя коопэратывы, коопэратывы серадьнякоў і беднаты, якія будуць атрымліваць скідку параўнальна з коопэратывамі кулакоў і вясковых багачоў, г. зн. сельскагаспадарчай буржуазіі. Нарэшце, *кадравы склад коопэрацый*, коопэрацыйныя працаўнікі, коопэрацыйныя служачыя і кіраў-

нікі ўсіх відаў, пры пролетарскай дыктатуры ўтвараюцца не буржуазіяй, а спэцыяльна навучаюцца і рыхтуюцца ў адпаведных навучальных установах і на практыцы, *такім* чынам, каб усё лепш і лепш весьці работу, неабходную з пункту погляду будаўніцтва новае грамадзкасьці, а ня з пункту погляду служэньня буйнаму капіталу. Тут відна ўся аграмадная розьніца паміж умовамі разьвіцьця вёскі пры панаваньні капіталізму і ўмовамі разьвіцьця гэтай вёскі пры панаваньні пролетарскай дыктатуры. Нельга сабе прадставіць, што разьвіцьцё пры нашым ладзе будзе такім самым, як пры ладзе капіталістычным. Улада Саветаў, дыктатура рабочае клясы, зусім ня ёсьць толькі *палітычная ўлада*, і наша дзяржава адрозьніваецца ад буржуазнай дзяржавы ня толькі тым, што яна знаходзіцца ў распараджэньні іншае клясы, але таксама і тым, што яна трымае ў сваіх руках усю буйную прамысловасьць і транспорт і дзеля таго зьяўляецца найвялікшай, моцнай, экономічнай, *гаспадарчай* сілай,—сілай, якая накладвае свой адбітак на ўсё разьвіцьцё краіны ў цэлым і у тым ліку, на ўсё разьвіцьцё вясковых адносін.

Калі сялянскія коопэратывы будуць у агульным і цэлым урастаць у сыстэму гаспадарчых органаў пролетарскай дзяржавы, гэта будзе азначаць гаспадарчае кіраўніцтва з боку пролетарыяту, гэта будзе азначаць узмацненьне саюзу рабочых і сялян, гэта будзе азначаць, што мы ідзем буйнымі крокамі па шляху да соцыялізму.

У самай рэчы, пры агульным уздыме народнай гаспадаркі ў нас будзе вырастаць усё больш і больш дзяржаўная прамысловасьць, якая ўсё цясьней і цясьней цераз коопэрацыю будзе зрастацца з сялянскай гаспадаркай. Сама сялянская гаспадарка будзе няпрыкметна для сябе і ўвесь час з карысьцю для сябе паступова пераапрацоўвацца і перарабляцца. Раней распыленыя і раздробненыя, нічым гаспадарча паміж сабой ня зьвязаныя сялянскія двары ўсё больш і больш будуць яднацца паміж сабою на глебе закупак, продажы і крэдыту, змыкаючыся на гэтай справе з гаспадарчымі ораганамі пролетарскай дзяржавы. З другога боку, ад грамадзкіх закупак і грамадзкіх продажаў, ад агульных організацый крэдыту сяляне будуць паступова параходзіць

да арганізацыі сваіх коопэрацыйных маслаапрацоўчых заводаў і наогул заводаў і фабрык па перапрацоўцы продуктаў земляробскае гаспадаркі і жывёлагадоўлі.

Гэты процэс арганізацыі будзе йсьці ўсё далей і глыбей, па меры таго, як сялянства на ўласнай практыцы будзе ўсё больш і больш пераконвацца ў карысьці пераходу да колектыўных формаў працы. Цераз суполную закупку машын сяляне будуць пераходзіць і да колектыўнага скарыстаньня іх. Галіна за галіною сялянская гаспадарка будзе, такім чынам, падобна маслаапрацоўчым заводам, арганізоўвацца ўжо на новых пачатках. Разам з гэтым разьвіцьцё буйнае гарадзкое прамысловасьці і вырастаючае награмаджэньне матэрыяльных сродкаў дзяржаўнай гаспадаркі дадуць магчымасьць узмоцненай *электрыфікацыі* сельскай гаспадаркі. Падача электрычнай энэргіі цэламу шэрагу сялянскіх гаспадарак утворыць, у сваю чаргу, усё больш моцны штурхач да пераходу на колектыўныя формы апрацоўкі самае зямлі таму, што з пераходам на электрычную энэргію будзе станавіцца ўжо зусім ясным уся карысьць колектыўных формаў скарыстаньня гэтай электрычнай энэргіі. Бо на долю кожнага сялянскага двара, на долю кожнай асобнай сялянскай гаспадаркі, будзе належаць значна меншая колькасьць выдаткаў, калі страта электрычнае энэргіі будзе ўтварацца не асобным сялянскім дваром, а цэлымі аб'яднаньнямі гэтых двароў. Такім чынам, процэс арганізацыі сялянскай гаспадаркі, які пачнецца з коопэрацыйнае арганізацыі гандлю, перакідваецца паступова цераз арганізацыю вытворчасьці па перапрацоўцы продуктаў сялянскай гаспадаркі і на сельска-гаспадарчую вытворчасьць у простым сэнсе гэтага слова. З пераходам на электрыфікацыю гэты процэс атрымлівае сваё найбольш поўнае завяршэньне. Так расьце ўсё больш і больш *арганізаваная* сыстэма сялянскіх гаспадарак, якія з асобных і распыленых адзінак перайначваюцца ў адно арганізаванае цэлае. Сялянскія гаспадаркі паступова перарабляюць сваю ўласную прыроду, злучаюцца разам і зроставаюцца ў адно яшчэ больш вялікае цэлае *з дзяржаўнай прамысловасьцю.* А такога роду дзяржаўны ланцуг, які арганізаваны ўва ўсіх сваіх частках, па сутнасьці справы і ёсьць соцыялізм.

Такім шляхам мы прыходзім да соцыялізму, ня гледзячы на гаспадарчую і тэхнічную адсталасьць, якою цяпер яшчэ адрозьніваецца наша краіна. Зразумела, гэты шлях ва ўмовах тэхнічнай і экономічнай адсталасьці ёсьць шлях вельмі даўгі. Але тым ня менш, гэта ёсьць правільны шлях,—шлях, па якім мы прыдзем да соцыялізму, калі толькі будзем весьці правільную політыку ў адносінах да сялянства.

## VII. Прамысловасьць і сельская гаспадарка павінны ўзаемна дапамагаць адна другой.

Агульны ўздым нашае народнае гаспадаркі, уздым прамысловасьці, з аднаго боку, і ўздым сялянскай гаспадаркі—з другога, азначаюць адну з найвялікшых перамог, якую зрабіла наша рэволюцыя. Але ў той самы час гэты гаспадарчы ўзрост ідзе побач з асаблівымі хваробамі росту, г. зн. захоўвае ў сабе некаторыя свае асаблівыя супярэчнасьці, якія могуць быць небясьпечны, калі найбольш сьвядомая частка працоўных, авангард рабочае клясы—наша партыя, ня зможа іх своечасова разгледзець і выстарчаюча растлумачыць іх шырокім пластом працоўных. Справа ў тым, што ўжо прашоў час, калі селянін ясна памятаў і заўсёды меў на ўме, што рабочая кляса і яе партыя далі яму памешчыцкую зямлю і дапамаглі зьнішчыць з твару нашае краіны ўсю памешчыцкую клясу цалкам. З пераходам на спакойную дзяржаўную работу і з пачатку уздыму сялянскай гаспадаркі, таксама і дзяржаўнай індустрыі сялянская гаспадарка ўсё болей і болей становіцца гаспадаркай таварнай, г. зн. вытварае ўсё вырастаючую частку сваёй продукцыі для продажы. Чым больш сялянская гаспадарка выпаўзае з убоства, тым большая частка ўсяго таго, што вытвараецца ўнутры гэтае гаспадаркі, ідзе на рынак, выменьваецца на грошы, а на гэтыя грошы, у сваю чаргу, купляюць іншыя тавары, якія ў сялянскай гаспадарцы не вытвараюцца, але якой яны патрэбны. Гэтыя продукты ідуць, у першую чаргу, з боку нашай дзяржаўнай прамысловасьці. Такім чынам, селянін стыкаецца на рынку з дзяржаўнай прамысловасьцю, якая знаходзіцца ў руках рабочае клясы. Пры гэтым, калі гутарка ідзе аб пра-

дуктах сельскай гаспадаркі, яна выступае, як прадавец, а гарадзкое насельніцтва, і ў першую чаргу рабочая кляса, выступае, як купец. Калі-ж гутарка ідзе аб продуктах дзяржаўнай прамысловасьці, то рабочая кляса, організаваная ў дзяржаўную ўладу, выступае ў якасьці прадаўца, тады як селянін выступае тут у якасьці купца. Але, як вядома, інтарэсы купца і прадаўца на рынку—процілеглы: купец зацікаўлен у тым, каб купіць тавар памагчымасьці больш танна, тады як прадавец непасрэдна зацікаўлен у тым, каб прадаць свой тавар па больш высокай цане. Чым больш разьвіваецца гаспадарка ў даны пэрыод, г. зн. да ажыцьцяўленьня адзінае організаванае гаспадаркі і сялянскіх двароў і дзяржаўных фабрык, тым усё больш істотным пытаньнем становіцца *пытаньне аб цэнах*: аб цэнах на продукты сельскай гаспадаркі, з аднаго боку, аб цэнах на продукты дзяржаўнай прамысловасьці—з другога. Мы бачым, такім чынам, што тут маецца *беспасярэдняя супярэчнасьць інтарэсаў* у рабочае клясы з сялянствам. Гэтая супярэчнасьць нямінуча нараджае спрэчкі паміж абедзьвюма асноўнымі працоўнымі клясамі нашай краіны, спрэчкі, якія прадстаўляюць вядомага роду небясьпеку для рабоча-сялянскага блёку.

У чым тут, аднак, справа? Ці ёсьць супярэчнасьць інтарэсаў паміж рабочаю клясаю і сялянствам—нявырашаная супярэчнасьць? І ці не захоўваюцца за гэтай супярэчнасьцю ў той самы час якія-небудзь больш карэнныя інтарэсы, агульныя ў рабочае клясы з сялянствам? Мы ўжо бачылі: *асноўны і самы агульны інтарэс абедзьвюх кляс знаходзіцца ў іх супольным руху да соцыялізму*, што немагчыма без узмацненьня саюзу рабочых і сялян і бяз кіруючай ролі рабочае клясы ў гэтым саюзе. На гэты асноўны і самы карэнны інтарэс рабочае клясы і сялянства знаходзіць свой выраз у неабходнасьці *ўзаемнай дапамогі з боку прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, якія ў самой аснове сваёй залежаць адна ад другое*. Наша прамысловасьць працуе, як мы ўжо аб гэтым гаварылі, раней за ўсё для сялянскага рынку. Яна і раней у сваім разьвіцьці залежала ад гэтага рынку, але ва ўмовах пролетарскай дыктатуры яна нямінуча залежыць ад гэтага рынку ў *яшчэ большым* стопні, чым пры старым

ладзе: папершае, у нас адпадае *замежны рынак*, дзеля таго што мы не вядзем тэй разбойніцкай політыкі, політыкі захопу новых краін, якую вёў царызм; падругое, у нас адпадаюць заказы на флёту, ваенна-морскія пабудаваньні і цэлы шэраг аграмадных ваенных заказаў наогул, бо мы нязьмерна ў меншым стопні страчваем на нашы ваенныя патрэбы, бо абмяжоўваемся толькі аднэй абаронай краіны, ні ў якім выпадку ня маючы якіх-бы там ні было захопніцкіх мэт; адсюль неабходнасьць пераабсталяваньня раду заводаў і пераводу іх з вытворчасьці вайсковых прадметаў на вытворчасьць прадметаў мірных, неабходных для сельска-гаспадарчае працы—у першую чаргу: сельска-гаспадарчых прылад і сельска-гаспадарчага інвэнтару; патрэцяе—політычная неабходнасьць узмацненьня дыктатуры пролетарыяту і ўзмацненьня ўплыву рабочае клясы на сялянства дыктуе нам гэтак сама значна большая ўвага да сялянскага рынку.

Наша прамысловасьць, такім чынам, залежыць у сваім разьвіцьці ад сялянскай гаспадаркі. Наша прамысловасьць разьвіваецца тым шпарчэй, чым больш платаздольны попыт з боку сялянства. *Награмаджэньне ў нашай прамысловасьці ідзе тым шпарчэй, чым шпарчэй ідзе награмаджэньне ў нашай сялянскай гаспадарцы*, г. зн. чым скарэй гэтая сялянская гаспадарка выходзіць з убоства, чым больш яна багацее, чым больш купляе яна сельска-гаспадарчых прылад і машын, чым скарэй паляпшае яна сваю тэхніку, чым шпарчэй пераходзіць на новую форму апрацоўкі зямлі і чым больш дзеля гэтага становіцца здольнай купляць у гарадзкое прамысловасьці. У сваю чаргу разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі немагчыма без разьвіцьця гарадзкое прамысловасьці. Дзеля таго, каб ісьці наперад, сельская гаспадарка мае патрэбу ў продуктах, якія ў ёй не вытвараюцца, а ідуць з розных галін нашае прамысловасьці. Калі-б у вадзін прыгожы дзень скончылася жыцьцё нашае прамысловасьці, тады сельская гаспадарка павінна была-б зьбяднець, яна павінна была-б абмежавацца самымі прымітыўнымі, самымі першабытнымі спосабамі апрацоўкі зямлі; у лепшым выпадку, яна павінна была-б заўсёды таптацца на месцы і не змагла-б зрабіць ні аднаго прыкметнага кроку наперад. І наадварот, калі

разьвіваецца прамысловасьць (*мэталёвая*, з апрацоўкай с.-г. машын; *хэмічная*, з вырабам рознага роду ўгнаеньняў і г. д.), то сельская гаспадарка пачынае мець у гэтай прамысловасьці свайго магутнага памоцніка і сваю апору, якая зможа, нарэшце, перавярнуць старыя спосабы апрацоўкі зямлі і шпарка рынуцца наперад са справай разьвіцьця вытворчых сіл усяе сельскае гаспадаркі. *Такім чынам, прамысловасьць патрабуе для свайго разьвіцьця ў посьпехах сельскае гаспадаркі—і наадварот: сельская гаспадарка для сваіх посьпехаў мае патрэбу ў разьвіцьці прамысловасьці.* Гэтая ўзаемная залежнасьць адна ад другой ёсьць *самае карэннае*, што павінна вызначаць сабою правільную політыку з боку кіруючай партыі, абавязак якое ў першую чаргу заключаецца ў тым, каб прыватныя і бягучыя і часовыя, тэрміновыя, другарадныя і ўтворныя інтарэсы падчыняць інтарэсам заўсёдным і найбольш агульным, найбольш карэнным і асноўным.

Мы павінны ў цяперашні час памятаць, што наша політыка павінна быць разьлічана не на адзін год, а на цэлы шэраг год. У цяперашні час наша забота заключаецца ня ў тым, каб як-небудзь утрымаць уладу (бо ў цяперашні час савецкая ўлада цьвёрда і стала трымаецца на нагах), нам патрэбна думаць аб тым, каб праводзіць політычны плян, разьлічаны на доўгія, доўгія гады. Калі-б гутарка йшла толькі аб тым, каб падзяліць паміж рабочай клясай і сялянствам тую суму нацыянальнага прыбытку, якая атрымліваецца ў рэзультаце гадовай працы ў нашай краіне і калі-б гутарка йшла *толькі* аб гэтым і ня йшла ні аб чым другім, то тады, зразумела, нядобра было-б гаварыць рабочай клясе—„не бяры надта шмат“, альбо ўгаварваць сялянства, каб яно займалася самаабмежаваньнем: пры такім стане рэчаў, зразумела, кожная з кляс няміпуча кіравалася-б сваім *непасрэдным* інтарэсам і імкнулася-б забраць сабе памагчымасьці большую долю з агульнага нацыянальнага прыбытку, г. зн. з усяго прыбытку краіны.

Аднак, мы жывем і маем надзею жыць зусім не адзін год, мы маем надзею жыць доўгія і доўгія гады, мы маем надзею ісьці ўвесь час наперад па шляху да соцыялізму.

І дзеля гэтага задача, якая стаіць перад намі, задача, якая стаіць прад абедзьвюма клясамі, зусім ня так простая, як у толькі што паданым выпадку. Калі-б гэтая задача складалася толькі ў падзеле *раз і назаўсёды данага прыбытку*, агульнага прыбытку краіны, які *не зьмяняецца*, які раз назаўсёды вызначаны, які прадстаўляе некаторую нязьменную, *сталую* велічыню, тады, зразумела, немагчыма было-б ніякае шпаркае разьвіцьцё, мы заўсёды тапталіся-б на адным месцы. Але ня ў гэтым справа. Справа заключаецца ў тым, *каб заўсёды ўзвышаць агульны нацыянальны прыбытак, заўсёды павялічваць і павялічваць колькасьць і каштоўнасьць тавараў, якія кожны год вытвараюцца ў нашай краіне і, такім чынам, павялічваць нацыянальны прыбытак, увесь прыбытак усяе грамады цалкам.*

Калі павялічваецца агульная сума нацыянальнага прыбытку, то тады ёсьць з чаго ўтвараць і падзел, калі з году ў год гэтая сума нацыянальнага прыбытку *заўсёды павялічваецца і расьце, то тады кожны год і на долю рабочае клясы і на долю сялянства будзе прыпадаць усё большая і большая сума каштоўнасьцяй, і матэрыяльнае становішча абедзьвюх кляс будзе шпарка паляпшацца.* Дзеля гэтага, з пункту погляду рабочае клясы, і з пункту погляду карэнных інтарэсаў сялянства, якое разьвівае сваю гаспадарку ва ўмовах Савецкае ўлады, неабходна весьці такую палітыку, *якая забясьпечвала-б, у першую чаргу, разьвіцьцё вытворчых сіл дзяржаўнай прамысловасьці і сялянскай гаспадаркі*, а значыць, з году ў год усё шпарчэй ідучае ўзрастаньне нацыянальнага прыбытку.

З гэтага пункту погляду трэба абгаварваць усе пытаньні нашай экономічнай палітыкі, і з гэтага пункту погляду неабходна гэтак сама абгаварваць і *пытаньне аб палітыцы цэн.* Дапусьцім, што якая-небудзь група рабочых гаворыць нам: „У нас, рабочых, у руках буйная прамысловасьць, мы вольны ставіць высокія цэны, давайце іх ставіць, каб атрымаць магчыма больш прыбытку для нашай прамысловасьці; калі гэтая прамысловасьць будзе атрымліваць большы прыбытак, то яна зможа больш плаціць рабочаму і дзеля гэтага ў нашых інтарэсах палітыка высокіх цэн на про-

дукцыю нашай прамысловасьці; усякае адступленьне ад такой політыкі азначала-б нішто іншае, як уступку дробнай буржуазіі, азначала-б адступленьне ад чыста пролетарскай лініі“.

Ці была-б правільнай такая думка? Зразумела яна была-б няправільнай, а політыка была-б зусім не пролетарскай політыкай, а была-б політыкай цэхавай, абмежаванай, тупою, якая ня бачыць далей свайго носу, г. зн. проста была-б *неразумнаю політыкаю*. Гэта політыка прапанавала-б *неразуменьне асноўнай сувязі паміж дзяржаўнай прамысловасьцю і сельскай сялянскай гаспадаркай*, яна нямінуча прывяла-б да таго, што сама дзяржаўная прамысловасьць цераз кароткі тэрмін спынілася-б у сваім разьвіцьці, наткнуўшыся на слабую купляючую сілу з боку сялянскага рынку. Можна было-б пры такой політыцы атрымліваць досыць высокі прыбытак *у бліжэйшыя* гады за шчот падрыву сялянскай гаспадаркі, але гэта політыка жорстка адпомсьцілася-б за сябе цераз невялікі тэрмім часу. Дзяржаўная прамысловасьць нямінуча *страціла-б рынак збыту*, які ў такіх умовах быў-бы скарочан, і, замест далейшага разьвіцьця і бесьперарыўнага паступовага ходу прамысловасьці, настаў-бы жорсткі крызіс, які адкінуў-бы гэтую прамысловасьць далёка назад. У выпадку працягу гэткае політыкі мы мелі-б хронічны прамысловы застой і калі ня рух назад, то ва ўсякім выпадку бяссэнсоўнае таптаньне на месцы.

Прадставім сабе з другога боку, што вядомыя шырокія пласты сялянства змаглі-б праводзіць на справе такую політыку, якая шляхам надзвычайна высокае цаны на хлеб і сырэц падарвала-б магчымасьці далейшага разьвіцьця прамысловасьці. Тады пры такіх умовах, узяўшы досыць шмат за адзін гаспадарчы год, сельская гаспадарка цераз некаторы тэрмін часу пачала-б недамагаць ад немагчымасьці адбудаваньня свайго сельска-гаспадарчага інвэнтару, не гаворачы ўжо аб тым, каб пераходзіць да далейшага палепшаньня спосабаў вядзеньня сваёй гаспадаркі. Такім чынам, і тут паніклая, абмежаваная, якая ня бачыць сувязі паміж горадам і вёскай, політыка нямінуча прывяла-б да падзеньня нацыянальнага прыбытку і тым самым да пагоршаньня матэрыяль-

нага становішча абедзьвюх асноўных кляс нашае савецкае грамады.

Адсюль выходзіць, што *супярэчнасьць паміж рабочаю клясаю і сялянствам, аб якой мы гаварылі вышэй, зьяўляецца супярэчнасьцю параўнальна другараднага парадку*, і што з пункту погляду правільна зразумелых інтарэсаў і рабочае клясы, і сялянства неабходна весьці такую політыку, якая-б давала прастору найбольш поўнаму разьвіцьцю вытворчых сіл. Рабочая кляса з пункту погляду сваіх уласных інтарэсаў павінна прыкладваць усе патугі да таго, каб памагчымасьці хутчэй наладзіць сваю вытворчасьць, памагчымасьці таней вытвараць продукты дзяржаўнай прамысловасьці і памагчымасьці таней прадаваць гэтыя продукты, выграючы, з аднаго боку, на ўсё большай масе збытых продуктаў, а з другога боку, забясьпечваючы кожны год усё большае і большае пашырэньне свае народнае гаспадаркі.

Зусім нельга зьмешваць становішча рабочае клясы, *якая стаіць ва ўладзе*, са становішчам рабочае клясы, якая яшчэ толькі *змагаецца* за гэту ўладу. Калі рабочая кляса толькі змагаецца за сваю ўладу, *не яе* клапоты—клапоты аб ўсёй народнай гаспадарцы цалкам, *не яе* клапоты аб узросьце нацыянальнага прыбытку, *не яе* клапоты аб цэласьці ўсяе грамады. Наадварот, асноўны і карэнны яе інтарэс заключаецца ў тым, каб разламаць, разьбіць, разбурыць капіталістычную грамаду. Калі-ж рабочая кляса зьяўляецца клясай, якая стаіць ва ўладзе, яна становіцца кіраўнікам усяе грамады цалкам, клапоты аб узросьце нацыянальнага прыбытку ёсьць яе ўласныя клапоты, клапоты аб разьвіцьці вытворчых сіл ёсьць гэтак сама яе ўласныя клапоты, інтарэсы разьвіцьця народнай гаспадаркі гэтак сама яе ўласныя інтарэсы. Гэта трэба зразумець і з гэтага трэба выходзіць пры вызначэньні нашай політыкі. Мы бачым, такім чынам, што ўзаемна зьвязаная прамысловасьць і сельская гаспадарка ёсьць асноўны факт, з якога трэба выходзіць, *а неабходнасьць узаемнай дапамогі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ёсьць асноўная ўмова для сталасьці рабоча-сялянскага блёку, без якога немагчым рух да социялізму*.

## VIII. Узрост коопэрацыі і клясавая барацьба ў вёсцы.

Калі мы гаворым, што ва ўмовах пролетарскай дыктатуры ўзрост коопэрацыі азначае па сутнасьці справы, узрост социялізму, гэта зусім не азначае, яшчэ, што ўвесь гэты процэс будзе праходзіць зусім гладка бяз унутраных супярэчнасьцяй. Наадварот, можна сказаць, што ход разьвіцьця цераз коопэрацыю да социялізму будзе iсьці поплеч, асабліва ў першыя часы, г. зн. да тых часоў, пакуль дзяржаўная прамысловасьць ня зможа падвесьці падмурку электрыфікацыі пад усю сельскую гаспадарку, з *клясавай барацьбой* паміж рознымі групамі і рознымі пластамі сялянства, якія, з свайго боку, будуць знаходзіцца ў розных адносінах з рабочаю клясаю. Зараз у нас, як мы ўжо аб гэтым гаварылі раней, ёсьць цэлы рад пластоў у сялянстве, неаднолькавых па сваім социяльным становішчы. Гэтыя розныя пласты сялянства, бязумоўна, будуць пароснаму будаваць коопэрацыю і ў ходзе коопэрацыйнага будаўніцтва будуць змагацца паміж сабою за ўплыў. Ужо самыя задачы і мэты, якія ставяць сабе коопэрацыйныя організацыі, некалькі адрозьніваюцца ў залежнасьці ад таго, які пласт сялянства маецца на ўвазе. Калі, напрыклад, мы гаворым аб сялянскай беднаце, аб сялянах бяз коняй, якія ня могуць упраўляцца са сваімі надзеламі, у якіх няма інвэнтару і самых элемэнтарных сродкаў вытворчасьці, то нам будзе зусім зразумела, што гэтыя пласты сялянства павінны няміруча цягнуцца да рознага роду колэктыўных гаспадарак (колхозов) у беспасярэднім сэнсе гэтага слова. Організоўваць цяпер таварыствы па збыце сваіх продуктаў ім немагчыма, дзеля таго што ім і збываць то няма чаго; яны павінны прайсьці яшчэ цераз такую лінію свайго разьвіцьця, калі яны будуць уставаць на ногі і паступова падымаць вытворчасьць, каб потым перайсьці ўжо да збыту ўсё большай часткі сваёй продукцыі на рынак. Пакуль яны не дасягнулі такога стопню свайго разьвіцьця, г. зн. пакуль яны яшчэ перажываюць часы вялікае патрэбы, самым паважным для іх зьяўляецца агульная закупка інвэнтару, рабочае жывёлы, машын і супольнае скарыстаньне гэтае жывёлы і гэтых машын на колектыўных пачатках. Дзеля

гэтага *колектыўныя гаспадаркі* зьяўляюцца натуральнай формай організацыі *бядняцкіх* гаспадарак. Аднак, трэба сказаць, што непасрэдны пераход да такога роду гаспадарак патрабуе вельмі буйнага пераломy старых прывычак, якія яны атрымалі ў спадчыну ад дзядоў і бацькоў, і дзеля гэтага наўрад ці можна думаць, што колектыўна-гаспадарчы рух захопіць сабою *ўсю* шырокую масу сялянскай беднаты. Серадняцкія гаспадаркі, падымаючыся і становячыся ўсё больш і больш стала на ногі, будуць, зразумела, організоўвацца ў сельска-гаспадарчую коопэрацыю па ўсіх трох асноўных лініях, аб якіх мы пісалі вышэй: і па лініі закупак, і па лініі збыту, і па лініі крэдыту. *Асноўнай* масай, асноўным ядром сялянства зьяўляецца, у першую чаргу, *селянін-серадняк*. Дзеля гэтага *асноўнай* формай коопэрацыі зьяўляецца гэтак сама *сельска-гаспадарчая коопэрацыя* адпаведнага віду. Заможныя і буйныя сяляне, роўным чынам, будуць імкнуцца ўтвараць свае коопэрацыйныя організацыі, у тым ліку і крэдытныя, і будуць імкнуцца рабіць гэтыя організацыі сваімі апорнымі пунктамі. З прычыны таго, што клясавая барацьба ў вёсцы пачне зьнішчацца яшчэ толькі праз вельмі значны тэрмін часу, бо ў бліжэйшым будучым мы будзем мець перад сабою процэс *разьяднаньня* сялянства, г. зн. вылучэньне яго заможнай верхавіны, з аднаго боку, і сельска-гаспадарчых пролетараў і поўпролетараў—з другога, то зусім відавочна, што будзе ісьці клясавая барацьба *і паміж* рознымі ячэйкамі агульна-коопэрацыйнай організацыі, і *ўнутры* адных і тых самых коопэратываў: пытаньне аб выбарах кіраўніцтва, аб выбарах на пасады асобаб паёх і аб іх велічыні, аб статуце коопэрацыйных організацый, аб політыцы, якую павінна весьці кіраўніцтва і г. д,. на ўсіх гэтых асобных пытаньнях будуць разьвівацца цэлыя („мірныя“, зразумела), стычкі паміж рознымі пластамі сялянства.

Такім чынам, малюнак будзе прадстаўляцца досыць рознакаліберны. У агульнай сетцы коопэрацыйных організацый мы будзем мець і кулацкія ячэйкі, магчыма, часамі і чыста кулацкія, і бядняцкія і серадняцкія і ячэйкі памешанага тыпу. Аднак, у гэтым малюнку будзе ўсё-ж такі вядомы

*асноўны фон.* Бо трэба мець на ўвазе, што, ня гледзячы на процэс разьяднаньня сялянства, усё-ж будзе захоўвацца яго *асноўнае ядро, а іменна: селянін-серадняк,* гэта, як казаў тав. Ленін, „цэнтральная фігура нашага земляробства". Калі нават ва ўмовах капіталізму, пры капіталістычным горадзе і пры дыктатуры буржуазіі захоўваецца ўсё-ж такі адносна досыць упарта пласт сярэдніх сялян, то ва ўмовах рабочай дыктатуры сялянства будзе распадацца ніколькі ня больш хутка, а наадварот—*больш паступова.* З другога боку, па меры таго, як дзяржаўная ўлада будзе ўсё больш і больш магчы падаваць руку матэрыяльнай дапамогі сялянскай беднаце і серадняку, мы будзем мець *новы паварот да параўнаньня, але ўжо на зусім іншых падставах, чым раней.* Раней мы, у тэй ці іншай форме, адбіралі ў заможных, кулакоў і аддавалі адабранае бедняком, г. зн. заможных рабілі больш беднымі і, такім чынам, дасягалі, як гэта было, напрыклад, у часы комбедаў, вядомага параўнаньня. Цяпер-жа будзе іншае, а іменна: усё хутчэй і хутчэй будзе вылазіць са стану ўбоства селянін-серадняк і бедняк пры дапамозе сваіх коопэрацыйных організацый, якія карыстаюцца асаблівую абаронаю, асаблівымі палегчаньнямі, асаблівай падтрымоўкай, матэрыяльнай і ўсякай іншай, з боку дзяржаўнай улады рабочае клясы.

Чым больш будзе рухацца наперад уся народная гаспадарка цалкам і чым шпарчэй будзе расьці наша дзяржаўная прамысловасьць, тым усё больш моцнай будзе падтрымоўка, іменна, гэтых пластоў сялянства, якія будуць па ўзроўні свайго жыцьця *даганяць* заможную вясковую верхавіну, але якія ў той самы час будуць расьці не за лік чужое працы, а ў моц *палепшаных спосабаў вядзеньня свае гаспадаркі і аб'яднаньня патуг раду сялянскіх двароў цераз коопэрацыйную організацыю,* якія будуць, такім чынам, пераходзіць да ўсё больш і больш колектыўнай формы гаспадараньня. Такім чынам, асноўная сетка нашых коопэрацыйных сялянскіх організацый будзе складацца з коопэрацыйных ячэек ня кулацкага, а *„працоўнага"* тыпу,—ячэек, урастаючых у сыстэму нашых агульна-дзяржаўных органаў, і якія будуць станавіцца, такім чынам, *кольцамі аднаго ланцугу сацыялі-*

*стычнай гаспадаркі.* З другога боку, кулацкія коопэрацыйныя гнёзды будуць гэтак сама цераз банкі і г. д. урастаць у гэтую сыстэму; але яны будуць да вядомага стопню чужародным целам, падобна, напрыклад, концэсыйным прадпрыемствам. Што-ж утворыцца з такімі кулацкімі коопэрацыямі ў далейшым? Дапусьцім, напрыклад, што ў нас ёсьць крэдытнае таварыства, на чале якога стаяць кулакі, што карыстаюцца там усім аўторытэтам. Гэты кулацкі коопэратыў, калі ён хоча красавацца, няміnуча павінен быць таксама, як і ўсе іншыя, зьвязан з экономічнымі дзяржаўнымі органамі; ён, напрыклад, будзе ўносіць сваю вольную суму ў нашы банкі дзеля таго, каб атрымаць сталы процант; нават у тым выпадку, калі-б узьніклі свае ўласныя банкаўскія організацыі ў гэткіх коопэратывах, усё роўна яны няміnуча павінны былі-б зьвязацца з магутнейшымі крэдытнымі ўстановамі пролетарскае дзяржавы, якія маюць у сваім распараджэньні асноўныя крэдытныя сродкі краіны. Кулаку і кулацкім організацыям усё роўна некуды будзе пасунуцца, бо агульныя межы разьвіцьця ў нашай краіне *наперад вызначаны ладам пролетарскай дыктатуры і ўжо ў значным стопні ўзрослай моцаю гаспадарчых організацый гэтай дыктатуры.* Калі кулак зьяўляецца воляй ці няволяй укладчыкам у нашыя банкі, калі ён воляй ці няволяй пачынае быць зьвязаным цэлым шэрагам адносін з нашымі гаспадарчымі органамі, то ён абавязкова будзе ўвапхнуты ў сталыя межы. Зразумела, можна, наогул кажучы, было-б прадставіць сабе такі стан рэчаў, калі кулацкая гаспадарка вырастала-б са страшэннай шпаркасьцю, калі награмаджэньне ў гэтых гаспадарках ішло-б значна шпарчэй, чым ва ўсёй дзяржаўнай прамысловасьці і калі кулак, такім чынам, *перарос-бы* ўсю рэшткавую экономіку і, злучыўшыся з прыватным гандлёвым капіталам, зьнішчыў-бы ўвесь лад—і экономічны, і політычны—пролетарскай дыктатуры. Але гэта дапушчэньне зьяўляецца зусім неверыгодным. Бо папрабуем дапусьціць, што кулацкія гаспадаркі будуць узрастаць шпарчэй, чым уся дзяржаўная прамысловасьць,—гэта азначала-б дапусьціць нешта, проста процілеглае рэчаіснасьці. Пры разьвіцьці нашай народнай гаспадаркі *ў цэлым хутчэй усяго будзе разь-*

*віваццa стаўшая ўжо на ногі буйная прамысловасьць*, якая знаходзіцца цалком у руках пролетарскай дзяржавы. Гэты ўзрост будзе вызначаць сабой усё і будзе служыць выстарчаючай гарантыяй таго, што кулак альбо заможны селянін, які наймае некалькіх сельска-гаспадарчых рабочых, будзе падлягаць нашаму агульнаму ладу.

Пролетарская дзяржава, якая зацікаўлена ў росьце „некапіталістычных“, г. зн. соцыялістычных форм гаспадаркі, зразумела, ня можа адносіцца аднолькава да коопэратываў працоўных і да коопэратываў кулацкага тыпу; яна будзе, як мы ўжо ўпаміналі вышэй, як мага падтрымліваць коопэратывы беднаты і сераднякоў. У гэтым, паміж іншым, будзе выяўляцца клясавая барацьба, клясавая дапамога пролетарыяту найбольш блізкім да яго пластом у барацьбе гэтых пластоў супроць кулакоў ці сельска-гаспадарчай буржуазіі.

## IX. Будаўніцтва соцыялізму і формы клясавай барацьбы.

У нашай краіне цяпер ёсьць тры клясы, дзьве з якіх—рабочыя і сяляне—зьяўляюцца *асноўнымі* клясамі нашае грамады і нашага ладу, а трэцяя кляса—буржуазія (кулакі, нэпманы і г. д.)—існуе пастолькі, пасколькі яна „дапушчана“ ў пэўным стопні і на пэўных умовах „да супрацоўніцтва“ з рабочай клясай і сялянствам. Мы бачылі вышэй, што з таго становішча, якое займае цяпер рабочая кляса, як кляса пануючая, вынікае цэлы шэраг асноўных вынікаў для палітыкі рабочай дзяржавы. Асноўны і галоўны вынік, як мы пра гэта ўжо казалі, складаецца з наступнага: *у той час, як за капіталістычным ладам задачай рабочай клясы зьяўлялася зруйнаваньне грамады, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры задачай рабочай клясы зьяўляецца не зруйнаваньне ладу пролетарскай дыктатуры і новае грамады, якая ствараецца, а наадварот—падтрыманьне яе ўсімі сіламі, замацаваньне яе, кіраўніцтва ёй.* Адгэтуль, у сваю чаргу, няўхільна вынікаюць і другія рэзультаты, а іменна: вынікі, якія тычацца *самой формы* клясавай барацьбы ў нашай грамадзе. Клясавая барацьба, як мы добра ведаем,

не прыпыняецца і не адмірае адразу, а будзе працягвацца вельмі і вельмі доўгі час, пакуль ня зьнікне падзел на клясы наогул. Але ўжо цяпер мы бачым, як няўхільна зьмяняецца пытаньне пра галоўны *шлях* клясавае барацьбы і пытаньне *пра форму* гэтае барацьбы. У капіталістычнай грамадзе, справа пролетарыяту ў якой складаецца з таго, каб зруйнаваць гэтую грамаду, заўсёднай задачай зьяўляецца, наколькі хапае сілы, *распальваць* і *завострываць* клясавую барацьбу да тых часоў, пакуль гэта клясавая барацьба не набудзе самай роспачлівай сваёй формы, а іменна формы *грамадзянскай войны* і ўзброенай барацьбы з боку працоўных мас супроць пануючага капіталістычнага рэжыму. У гэтай барацьбе старая грамада лопаецца з верху да нізу, і становішча кляс, урэшце, робіцца зусім іншым: так званыя „ніжэйшыя“, прыгнечаныя клясы становяцца ўгары, эксплёататары робяцца клясай, супраціўленьне якое прыдушаецца і якой даводзіцца, пасьля свайго разгрому, спакарыцца новай уладзе, уладзе кляс, якія вышлі з нізу. Такім парадкам, за капіталістычным ладам задача рабочае клясы—весьці лінію на тое, каб завастрыць клясавую барацьбу, каб зьмяніць яе ў *грамадзянскую вайну*. Партыя рабочае клясы ў межах капіталістычнага ладу зьяўляецца партыяй *грамадзянскай вайны*. Становішча зусім перакручваецца, калі рабочая кляса бярэ ўладу ў свае рукі, апіраючыся пры гэтым на шырокія пласты сялянства. Паколькі дыктатура буржуазіі зьнішчана і паколькі на яе месца ўжо стала дыктатура пролетарыяту, пастолькі задачай рабочае клясы зьяўляецца ўмацаваньне гэтай дыктатуры і абарона яе ад розных на яе замахаў. Партыя рабочай клясы ў такіх умовах робіцца *партыяй грамадзянскага міру*, г. зн. вымагае *падляганьня рабочай клясе* з боку клясаў, пластоў і груп, якія раней панавалі; яна вымагае ад іх грамадзянскага міру, і рабочая кляса *карае* і прасьледуе цяпер *усіх парушнікаў* гэтага грамадзянскага міру, усіх здраднікаў, саботажнікаў,—адным словам, усіх, хто *перашкаджае справе мірнага будаўніцтва новае грамады.*

У сваёй уласнай дзяржаве рабочая кляса, пасьля таго, як яна адбіла ўсе напады ворагаў і забясьпечыла мірную будаўнічую працу, ужо ня кажа і не агітуе за грамадзян-

скую вайну ў сярэдзіне краіны, а стаіць за ўнутранае замірэньне на асновах прызнаньня новай улады поўньсцю, яе законаў, яе ўстаноў і на аснове падляганьня гэтым законам і гэтым установам з боку ўсіх пластоў, у тым ліку і быўшых супраціўнікаў гэтай улады. Адпаведна гэтаму зьяўляецца і зьмена ў самых *формах* клясавай барацьбы. Пакажам гэта на шэрагу прыкладаў. Возьмем, паперш за ўсё, адносіны да *буржуазіі.* У межах капіталістычнага ладу, з боку адносін да яе, мы дамагаліся разьвіцьця барацьбы аж да ўжываньня ўзброенай сілы. Зразумела, калі буржуазія і цяпер спрабавала выходзіць супроць нас са зброяй у руках, як гэта яна рабіла ў 1917-1918, 1919 і г. д. гадох, дык мы-б адразу-ж далі-б ход нашай узброенай сіле і расправіліся-б з такім ворагам, як ён гэтага заслужваў-бы. Але цяпер у нас зусім іншае становішча. Сіла Савецкай улады і трываласьць яе настолькі відавочныя, што для буржуазных пластоў нашае грамады (нэпманаў) зусім навочна поўная безнадзейнасьць усякіх спроб павесьці супроць новага ладу актыўную і вострую палітычную барацьбу. Гэтым пластом хаця-не-хаця прыходзіцца згаджацца з парадкам рэчаў, які існуе. У пэўных межах гэтай буржуазіі дазволена гаспадарчая дзейнасьць. Мы зусім не забараняем цяпер прыватны гандаль, мы дазваляем рад прыватных прадпрыемстваў, мы ня ставім ужо пячатак на прыватныя крамкі, мы даем, значыцца, пэўную магчымасьць існаваньня для гэтых колаў. Ці значыць гэта, што прыпыняецца клясавая барацьба? Не, ні ў якім разе. Але гэтая барацьба ў самым корані зьмяніла сваю форму. З боку рабочае клясы яна працягваецца: наша законадаўства, якое забясьпечвае рабочую справу, забясьпечвае пэўныя правы за профэсыянальнымі саюзамі, застаўляе плаціць прыватнага прадпрыемцу страхавыя ўзносы, пазбывае гэтыя колы прадпрыемцаў выбарнага права ў палітычныя органы ўлады і г. д.—гэта ёсьць новая форма *клясавай барацьбы.* Сыстэма падатковага абкладаньня, пры якой адпаведным парадкам абкладаюцца даходы і прыбыткі капіталістычных прадпрыемстваў, гэтае падатковае абкладаньне буржуазіі—такое, якога няма ні ў аднэй краіне,—гэта якраз таксама новая форма *клясавай барацьбы.* Конкурэнцыя з боку дзяр-

жаўнай прамысловасьці і дзяржаўнага гандлю, коопэрацыі— гэта ёсьць зноў такі новая форма клясавай барацьбы. Калі нашая дзяржава дае асаблівыя льготы і перавагі коопэрацыйным прадпрыемствам, калі гэта дзяржава асобна фінансуе, г. зн. падтрымлівае грашовымі сродкамі коопэрацыйныя організацыі, калі яна ў законадаўчым парадку забясьпечвае за імі большыя правы,—усё гэта ёсьць новая форма *клясавай барацьбы.* Калі ў процэсе конкурэнцыі на рынку дзяржаўная прамысловасьць, гандаль, коопэрацыя паступова выціскаюць прыватнага прадпрыемцу,—гэта ёсьць перамога ў клясавай барацьбе, але перамога не ў мэханічным спатканьні сіл, не з дапамогай узброенай барацьбы, а зусім у іншай лушпайцы, якой ня было раней, якая за капіталістычным рэжымам была зусім немагчымай для рабочае клясы і сялянства.

Якраз гэтак сама *зьмяняецца форма клясавай барацьбы і на вёсцы.* Праўда, то тут, то там клясавая барацьба на вёсцы выбухае ў ранейшых сваіх праяўленьнях, прычым гэтая вострасьць выклікаецца звычайна кулацкімі элемэнтамі. Калі, напрыклад, кулакі або тыя, што нажываюцца за чужы кошт, і пралезьлі ў органы Савецкай улады, людзі пачынаюць страляць у селькораў, гэта ёсьць праява клясавай барацьбы ў самай вострай форме. Аднак, такія выпадкі бываюць звычайна там, дзе яшчэ савецкі мясцовы апарат зьяўляецца слабым. Па меры палепшаньня гэтага апарату, па меры ўмацаваньня ўсіх нізавых ячэек Савецкай ўлады, па меры палепшаньня і ўзмацненьня мясцовых, вясковых, партыйных і комсамольскіх організацый, такога роду зьявішчы будуць, як гэта зусім ясна відаць, рабіцца ўсё больш рэдкімі і, нарэшце, зусім зьнікнуць. Яшчэ ўсяго некалькі год таму назад галоўнай формай клясавай барацьбы ў сярэдзіне вёскі зьяўляўся непасрэдны адміністрацыйны націск на вясковыя вярхі: спачатку заўсёдныя конфіскацыі і рэквізыцыі ў больш заможнага сялянства і перадача гэтага конфіскованага дабра на карысьць беднаты (часы комбедаў); потым, па існасьці справы, сыстэма заўсёдных і адвольных націскаў, якія надзвычайна рабілі цяжкім, а часамі і зусім немагчымым, гаспадарчае пасуваньне наперад і адпаведную дзейнасьць замож-

ных пластоў вёскі, у першую чаргу, вясковай буржуазіі. У той час, як у горадзе ўжо з самага пачатку новай экономічнай політыкі мы дазволілі гаспадарчую дзейнасьць прыватным гандляром і прадпрыемцам, на вёсцы, па існасьці справы, для вясковай буржуазіі ставіліся такога роду рагулькі, якія гэту дзейнасьць моцна абмяжоўвалі або рабілі яе зусім немагчымай. Цяпер (лета 1925 г.) мы прыходзім да таго, каб адмяніць на практыцы такога роду сыстэму і даем большую волю руху буржуазных элемэнтаў вёскі. *Але гэта зусім ня значыць, што мы пакідаем весьці клясавую барацьбу супроць вясковай буржуазіі.* Гэта зусім ня значыць. што мы адмаўляемся падтрымліваць беднякоў і сераднякоў супроць эксплёататарскіх пластоў, мы толькі зьмяняем форму нашае клясавае барацьбы супроць дробных вясковых капіталістых. Мы пераходзім да новай, *больш мэтазгоднай* у цяперашніх умовах, формы гэтай клясавай барацьбы.

У горадзе мы зусім не запячатваем крамкі прыватнага гандляра, мы дазваляем яго „працу“. У выніку мы атрымоўваем ад гэтага большае ажыўленьне тавараразвароту ва ўсёй краіне. А гэты гандляр зьяўляецца купцом у нашай дзяржаўнай прамысловасьці і ў нашым дзяржаўным гандлі: ён, з другога боку, прадае,—паколькі наша ўласная дзяржаўная і коопэрацыйная гандлёвая сетка, па якой ідуць тавары, зьяўляецца вельмі слабой,—нашы тавары ідуць у розныя куткі нашай краіны. Пры гэтым, зразумела, ён нажываецца і бярэ ў свае рукі гандлёвы прыбытак ці частку гэтага гандлёвага прыбытку. І тым ня менш, незалежна ад сваёй волі, ён дапамагае, дзякуючы агульнаму ажыўленьню таваразвароту, і росту нашае дзяржаўнае прамысловасьці, і росту нашага дзяржаўнага гандлю, больш хуткаму звароту агульнага капіталу краіны, і ў тым ліку капіталу нашай дзяржаўнай прамысловасьці і нашага дзяржаўнага гандлю. Хутчэй таму круціцца і машына самое вытворчасьці, хутчэй ідзе процэс нагрмаджэньня і таму хутчэй павялічваецца магутнасьць нашай дзяржаўнай прамысловасьці,—гэтай асноўнай базы асноўнага фундаманту соцыялістычнай грамады. З другога боку, шляхам падатковага абкладаньня буржуазных пластоў, мы таксама атрымоўваем дадатковыя сродкі, якія ідуць у нашу

дзяржаўную скарбніцу. Вось гэты прырост матэрыяльных каштоўнасьцяй, які атрымоўваецца, з аднаго боку, таму, што скарэй растуць нашыя ўласныя прадпрыемствы ў зьвязку з ажыўленьнем агульнага тавараздвароту, а з другога—ад падаткавых сум, *мы накіроўваем на дапамогу рознага роду пачынаньням, якія служаць справе працоўных кляс, справе соцыялізму*. Такога роду політыка ёсьць таксама клясавая політыка з нашага боку. Гэтая клясавая політыка мае на сваёй мэце падтрымаць працоўных супроць эксплёататарскіх астач. Але форма гэтай політыкі, форма гэтай клясавай барацьбы, як мы бачым, зусім іншая, чымся ў тым выпадку, калі-б мы проста запячатвалі-б крамкі прыватнага гандляра. Дзякуючы гэтай новай форме клясавай барацьбы, мы ня толькі ня трацім, а наадварот—мы ў вялікім стопні выграём, таму што мы ў куды большым стопні ўмацоўваемся, і прытым умацоўваемся на глебе ўсеагульнага росту дабрабыту.

Праўда, мы не адразу маглі павесьці такога роду політыку. Калі ў нас на руках былі фабрыкі і заводы, якія не працавалі; калі мы выпускалі шмат грошай, якія ўяўлялі з сябе паперачкі, каторыя ня мелі амаль што ніякай каштоўнасьці на рынку; калі ў нас, замест банкаў, былі адны будовы гэтых банкаў; калі чыгункі не хадзілі; калі для працы буйных прадпрыемстваў ня было самых найпатрэбных умоў (ня было сырцу, апалу, ня было нават хлеба для галодных рабочых),—дык тады даваць волю прыватнай гаспадарчай дзейнасьці і поўную волю гандлю для прыватных крамнікаў і прыватных дробных капіталістых зьявілася-б у вышэйшым стопні небясьпечным. Нам ня было чым з імі конкураваць. У нас ня было тады ў руках даволі моцнае і магутнае прылады барацьбы. Ва ўмовах зруйнаваньня дробнаму капіталістаму было куды лягчэй зьвярнуцца з сваім невялікім капіталам; ён адрозьніваўся куды большай спрытнасьцю і пранырлівасьцю, чымся нашы дзяржаўныя ўстановы, у сярэдзіне якіх было пуста. І калі-б у той час мы далі поўную гаспадарчую волю ўсім гэтым элемэнтам, не забясьпечыўшы сябе саміх, гэта значыць, ня маючы моцных позыцый ў гаспадарчай барацьбе, дык тады-б была самая вялікая і надзвычайна грозная небясьпека, што тысячы гэтых дробных капіталістых задушаць нас і перамогуць

нас у конкурэнтнай гаспадарчай барацьбе. І таму нам прыходзілася дзейнічаць з пэўнай асьцярогай, забясьпечваючы за сабою солідныя позыцыі на полі экономічнай, гаспадарчай барацьбы, г. зн. на полі клясавых боек і клясавай барацьбы ў яе новай форме. Такой позыцыяй зьяўляецца ў нашых руках буйная прамысловасьць, транспорт, банкавая сыстэма (крэдыт), а таксама дзяржаўны бюджэт і дзяржаўныя фінансы.

Па меры нашага росту і па меры ўмацаваньня гэтых,—як іх называюць,—*„экономічных командных высот“*, мы маглі-б усё больш рашуча адпускаць наш ціск з боку адносін да прыватнага прадпрыемцы—дробнага і сярэдняга. Нам цяпер, напрыклад, зусім ужо няма чаго баяцца гэтай волі гандлю, бо на *глебе* вольнага гандлю, на фундаманце гэтай волі гандлю, *выкарыстоўваючы самі* гэту волю гандлю, мы ўжо маем магчымасьць, замацаваўшы свае камандныя высоты, весьці пераможную гаспадарчую барацьбу.

Цяпер мы можам перанесьці такога роду політыку і на нашу вёску, дабіўшыся таго, каб нашы вясковыя працаўнікі ня ўжывалі сыстэмы простага адміністрацыйнага „заціску“ і „ціску“ ў адносінах да больш заможных пластоў вёскі. Ізноў такі, ці значыць гэта, што мы хочам тут адмовіцца ад клясавай барацьбы з гэтай сельска-гаспадарчай буржуазіяй? Ні ў якім разе. Гэтак сама як мы не адмаўляемся ад клясавай барацьбы з гарадзкой буржуазіяй (нэпманамі), калі мы дазваляем ёй займацца сваёй „справай“, таксама і адпаведная політыка на вёсцы ніколькі ня значыць, што мы адмаўляемся ад барацьбы. Мы зьмяняем толькі яе форму. Супроць крамак вясковых гандляроў мы павінны выстаўляць ня органы простага прыціску і гвалту, а нашыя добрыя коопэрацыйныя крамкі. Супроць вясковага ліхвяра, які пазычае грошы за бязбожны процант або які здае селяніну на нявольніцкіх умовах каня, мы павінны высунуць, у першую чаргу, батарэю нашых крэдытных таварыстваў, добрую організацыю таннага коопэрацыйнага крэдыту і дапамогі з боку дзяржаўнай улады. Нашыя тавары павінны быць лепшыя і танейшыя, чымся тавары прыватнага гандляра, нашыя крэдытныя пазыкі павінны быць куды большыя і куды танейшыя, чымся пазыкі, якія дае ліхвяр, коопэрацыя павінна гандляваць лепей і быць

больш дастасаванай да мясцовага вясковага попыту, чымся прыватны гандаль. Вось *гэтыя* прылады мы павінны выставіць на передавыя позыцыі нашай барацьбы з эксплёататарскімі элемэнтамі вёскі.

Можна, аднак, запытаць сябе: ці правільна пераносіць такую політыку, якая прыдатна да гораду, на вёску? Ёсьцьжа адна важная для данага пытаньня і вельмі істотная розьніца паміж умовамі гаспадарчай барацьбы ў горадзе і ўмовамі гэтай гаспадарчай барацьбы на вёсцы. У горадзе ў нас ужо ёсьць больш або менш добра організаваныя „камандныя высоты", якія добра працуюць; гэта-ж наша цяжкая артылерыя ў барацьбе з гарадзкімі нэпманамі. Але дзе такога роду „камандныя высоты" на вёсцы? Што мы можам паставіць на вёсцы супроць яе заможнай верхавіны? Дзе тыя экономічныя кулакі, якімі-б мы маглі, на глебе гаспадарчай барацьбы, барабаніць па сьпіне вясковага кулака? Ці ня будзе тут такога палажэньня рэчаў, што кулацкія элемэнты будуць куды больш мацнейшыя *экономічна*, чымся вялікая рэштка сялянства, і тым самым ці ня будуць яны мець магчымасьць пераскочыць цераз нас і апынуцца, такім чынам, кіраўнікамі і гаспадарамі ўсяго вясковага жыцьця ў цэлым?

На гэтае зусім законнае пытаньне мы павінны даць такога роду адказ: *каманднай высотай у адносінах да вясковай буржуазіі зьяўляецца пролетарскі горад.* Нельга сабе ўяўляць справу такім чынам, што вёска разьвіваецца зусім самастойна і незалежна ад гораду. Мы ўжо казалі, што, па меры росту вытворчых сіл у краіне, ўплыў гораду будзе ўсё больш і больш рашаючым з боку адносін да разьвіцьця нашае вясковае гаспадаркі. Асяродак-жа гэтага гораду, яго пролетарская прамысловасьць, яго банкавая сыстэма, яго заканадаўства і г. д. і г. д.,—усё гэта павернута „тварам да вёскі", гэта значыць, усё гэта зьяўляецца апорай для серадняцкіх і бядняцкіх элемэнтаў вёскі, апорай супроць яе кулацкіх пластоў.

*Прамежным зьвяном між пролетарскім горадам і працоўнай вёскай зьяўляецца коопэрацыя*, якая якраз і знаходзіцца на мяжы паміж гэтым горадам і вёскай, ажыцьцяўляючы сабой у першую чаргу тую экономічную змычку паміж ра-

бочай клясай і сялянствам, умацаваньне якое зьяўляецца асноўнай задачай рабочае клясы і нашай партыі. Рост гэтае коопэрацыі, якою пролетарская дзяржава падтрымоўвае і фінансуе беднякоў і сераднякоў супроць кулакоў і дробных сельска-гаспадарчых капіталістых, як мы бачылі, ёсьць няўпынны і сыстэматычны рост ячэек будучай социялістычнай грамады. Крок за крокам дзяржаўная прамысловасьць і дзяржаўны гандаль, якія зьбліжаюцца з вясковай коопэрацыяй, каторая, у сваю чаргу, перакідаецца з гандлю на самую вытворчасьць, будуць выцiскаць прыватны капітал: прамысловы, гандлёвы і ліхвярскі. У вагульна-дзяржаўную коопэрацыйную організацыю будуць уцягвацца і ўсмоктвацца дробныя рамесьнікі і саматужнікі. Пастуnова, па меры выцісканьня прыватных прадпрыемцаў розных тыпаў і іх прыватных гаспадарак, і па меры росту організаванасьці і зграбнасьці гаспадаркі дзяржаўна-коопэрацыйнай, мы будзем усё больш і больш набліжацца да социялізму, г. зн. плянавай гаспадаркі, дзе ўсё належыць усім працоўным, і дзе ўся вытворчасьць накіравана на забясьпечаньне патрэб гэтых працоўных.

Частковае разьвіцьцё капіталістычных адносін на вёсцы, якое будзе адбывацца ў бліжэйшыя гады, нямінуча павінна будзе, аднак, выклікаць і *іншыя формы клясавай барацьбы, апрача барацьбы чыста гаспадарчай*, г. зн. апрача барацьбы розных гаспадарчых форм аднае з другою. Напрыклад, парабкі, якія наймаюцца да сельска-гаспадарчай буржуазіі, могуць зусім няменць свае гаспадаркі, барацьба ў іх ідзе не такая, якая йдзе, напрыклад, паміж серадняком і кулаком, або паміж бядняцкай гаспадаркай і гаспадаркай кулацкай. Барацьба паміж кулаком і парабкам ідзе па лініі пытаньняў, якія тычацца ўмоў наёмнае працы (велічыня працоўнага дня, заработная плата, форма аплаты працы, агульныя ўмовы працы і г. д. і да т. п.). Але і тут лінія клясавай барацьбы з боку парабкоў, якія зьяўляюцца часткай рабочае клясы, каторая цяпер трымае ўладу, мае ўсё-ткі іншыя формы, чымся тыя формы клясавай барацьбы, якія былі ўласьцівы капіталістычнаму рэжыму. Гэта вынікае з тэй акалічнасьці, што парабкі, якія ў кулацкай гаспадарцы знаходзяцца, так сказаць, *пад* сваім гаспадаром, у той самы час, як частка пануючай клясы стаіць *па-над*

імі, хоць-бы асобныя парабкі гэтага і не ўсьвядомлівалі. На чым адбіваецца гэты факт? На тым, што ўсё законадаўства нашае краіны накірована сваім лязом супроць эксплёататараў і кожным сваім пунктам абараняе інтарэсы рабочых; на тым, што *профэсыянальныя саюзы* рабочае клясы і *профэсыянальныя саюзы* парабкоў карыстаюцца правамі, прызнанымі законам, якіх яны ня маюць ні ў аднэй капіталістычнай краіне; на тым, што суды нашай краіны караюць прадпрыемцаў за парушэньне гэтых законаў і г. д. і да т. п. Таму клясавая барацьба з боку парабкоў накіравана зусім не на тое, каб зруйнаваць гаспадарку кулакоў і падзяліць яе паміж сабой. Мы цяпер ужо ня можам паўтараць вечна адну і тую самую казку пра белага бычка. Парабкі вядуць сваю клясавую барацьбу ў іншых формах, вымагаючы праз свае профэсыянальныя організацыі і праз сваю дзяржаўную ўладу, уладу Саветаў, адпаведныя ўмовы працы, і зварочваюцца да судоў свае клясы, калі трэба супыніць сельска-гаспадарчых прадпрыемцаў. Якраз гэтак сама парабкі, якія зьяўляюцца часткай усяе рабочае клясы, дапамагаюць організацыі ня толькі наёмных рабочых у сельскай гаспадарцы, але і зьдзяйсьняюць мажлівую дапамогу справе організацыі сялянскай беднаты і серадлякоў, зьяўляючыся, такім чынам, жывой сувязьзю між гарадзкімі індустрыйнымі рабочымі і шырокімі пластамі працоўнага сялянства. Гэта ня значыць, што ў нас ня можа быць *ніякіх* старых форм барацьбы. Стачку, напрыклад, парабком у іх барацьбе з кулацтвам давядзецца ўжываць ня раз. Але і ў выпадку такіх стачак справа йдзе інакш, бо за парабкоў стаяць усе органы ўлады, якія ціснуць на прыватнага гаспадара.

## X. На каго нам трэба кіравацца.

Нам трэба разгледзець тыя пытаньні, якія мы толькі што вытлумачылі, і некалькі з іншага боку. Справа ў тым, што некаторыя таварышы, не разумеючы сутнасьці пытаньня, выяўляюць неўразуменьне наконт прынятага нашай партыяй політычнага курсу ў адносінах да вёскі. Некаторыя, напрыклад, мяркуюць так.

У часе грамадзянскай вайны мы вось апіраліся на саюз гарадзкое рабочае клясы і вясковых напоўпролетараў, парабкоў, поўпарабкоў, дробных сялян, вясковай *беднаты* наогул. Гэтая лінія нашай політыкі адбівала „ісьцінна“ пролетарскую лінію, „левы“ сапраўдны, чыста „пролетарскі“ курс. Праз некаторы час мы перамясьцілі цэнтр цяжару нашай політыкі ў вёсцы. Раней мы накіроўваліся на вясковую беднату і апіраліся ў вёсцы на такія організацыі, як комітэты беднаты; потым мы абвясьцілі лёзунг „падтрыманьне *серадняка*“, селянін-серадняк пачаў высоўвацца, як „цэнтральная фігура нашае сельскае гаспадаркі“; такім чынам, мы, магчыма, незаметна самі для сябе ад *кірунку на беднату* перашлі да *кірунку на серадняка*; г. зн. узялі курс *направа*, *у бок* ад „чыста пролетарскай“ лініі; прашло яшчэ некалькі часу, і мы цяпер загаварылі пра большую гаспадарчую волю для *заможнага селяніна* і нават для кулака, мы цяпер узялі яшчэ *больш* „управа“ і, як відаць, кіруемся, іменна на гэтага заможнага, наколькі „праваліўся“ наш кірунак сьпярша на беднату, а потым на серадняка. Ці ня ёсьць гэта новы паварот нашай політыкі ўправа? Ці ня значыць усё гэта, узятае разам, няўхільнага і сыстэматычнага *адступаньня* ад пролетарскай політыкі і ўсё большай зьмены політыкі нашай партыі на політыку заўсёдных уступак, якія йдуць усё далей, сьпярша серадняку, а потым больш чымся сярэдняму буржую? Ці ня ёсьць гэта, іншымі словамі, ясна абмаляваная лінія,—выраджэньня нашай партыйнай політыкі? Ці ня ёсьць гэта *ўступка* нашых позыцый і капітуляцыя перад капіталістычнымі адносінамі, якія растуць у нашай краіне?

Такога роду думкі і такога роду розныя пярэчаньні трэба разгледзець самым уважным парадкам. Пакідаць іх без адказу ні ў якім разе нельга; тут трэба дагаварыцца зусім аткрыта, таму, што без разуменьня існасьці нашай політыкі (а такое разуменьне немагчыма, калі няма адказу на пытаньні, якія толькі што пастаўлены), без такога разуменьня нашай політыкі, зразумела, немагчыма весьці колькі-небудзь добра кіраўніцтва такой вялізнай краінай, як наша, і са сталькімі ўнутранымі супярэчнасьцямі і з такімі складанымі задачамі, якія стаяць на нашым шляху.

Дзеля таго, каб адказаць на пастаўленыя пытаньні і пярэчаньні, мэтазгодна будзе, паперш за ўсё, паставіць пытаньне пра так званую новую экономічную політыку. Калі мы пераходзілі ад сыстэмы вайсковага комунізму да новай экономічнай політыкі, дык некаторым здавалася, нібы-та гэтая новая экономічная політыка значыць на справе капітуляцыя перад буржуазіяй. Усе ворагі комуністычнай партыі і дыктатуры пролетарыяту, свае і заграпічныя, шмат гаварылі і пісалі пра *крах* комунізму ў Расіі, пра тое, што расійскія бальшавікі, зрабіўшы няўдалую спробу ажыцьцяўленьня сапраўднага соцыялізму, хутка расчараваліся ў гэтай спробе, бо яна паказала, што соцыялістычны лад ня можа ажыцьцявіцца, і, заклікаўшы на дапамогу тую-ж самую буржуазію, якую яны хацелі зьнішчыць, тым самым расьпісаліся ў поўнай сваёй слабасьці. У пачатку новай экономічнай політыкі, здраднікі чужаземныя і расійскія, эміграпцкі (белы) друк няўтомна пісаў, што ў Расіі зроблен вялізны крок па шляху к адбудаваньню старога ладу, што за гэтым крокам няўхільна будуць рабіцца і рэшта крокаў па шляху назад к капіталізму: будуць нібы-та зварачацца фабрыкі і заводы, ранейшыя ўладцы будуць заклікаты ў якасьці варагаў, якія спасаюць Русь і наводзяць у ёй лад, зьнікнуць усе і розныя „нацыяналізацыі“ і „монополізацыі“ і зноў укараніцца за дапамогай саміх бальшавікоў, „якія абразуміліся“, стары капіталістычны лад, каторы тым самым яшчэ і яшчэ раз давядзе сваю вялікую жыцьцяздольнасьць і ўсе свае перавагі перад усімі і ўсякімі соцыялізмамі і комунізмамі. Гаварылася таксама, што бальшавікі, якія раней „кіраваліся“ на рабочую клясу, цяпер кіруюцца на буржуазію—старую і новую, якая вывелася пад крыльлямі вайсковага комунізму, прашла скрозь агонь, ваду і медныя трубы, знае ўсе ходы і выхады ў новым савецкім ладзе і таму няўхільна будзе куды больш дастасаванай да бальшавіцкага рэжыму.

Аднак, ці можна сказаць, што новая экономічная політыка значыла капітуляцыю перад капіталізмам? Ці можна сказаць, што справа працоўных *прайграна* разам, як увялі новую экономічную політыку? Ці можна сказаць, што новая экономічная політыка значыла адказ ад соцыялістычнага бу-

даўніцтва, крах комунізму і да т. п.? Ці можна, нарэшце, сказаць, што гэтая новая экономічная палітыка значыла кірунак на буржуазію?

Цяпер, калі гэтая, так званая новая экономічная палітыка налічвае ўжо вялікую колькасьць год, калі яна ўжо праверылася на спробе і калі мы ўжо можам абагульніць даволі значныя вынікі гэтае палітыкі, мы ясна бачым, што ў рэзультаце яе мы маем *вялізны прырост сілы на баку рабочае клясы і працоўных мас наогул*, на баку соцыялізму ў яго барацьбе з прыватна-капіталістычнай гаспадаркай. Дзякуючы новай экономічнай палітыцы, мы маем вялікія посьпехі ў галіне гаспадаркі, прытым разьвіцьцё вытворчых сіл нашай краіны ішло ў такім кірунку, пры якім усё больш і больш пераважвалі і пераважваюць *соцыялістычныя* формы гаспадаркі і формы, блізкія да іх, што йдуць па шляху да соцыялізму. У вагульнай суме гаспадаркі нашай краіны зусім ня відаць таго, каб у параўнаньні з дзяржаўнай і коопэрацыйнай гаспадаркай усё рос і рос прыватны капітал. Наадварот, позыцыі дзяржаўнае і коопэрацыйнае гаспадаркі ўсё больш і больш *замацоўваюцца* на полі агульнага ўздыму дабрабыту ў краіне. Раз гэта так,—а гэта іменна так,—дык як-жа можна гаварыць пра якую-б там ні было капітуляцыю, пра адступаньне ад пролетарскае лініі або пра кірунак на буржуазію? Добры „кірунак на буржуазію“, у выніку якога ў першую чаргу выйгравае соцыялістычны пролетарыят! Добры крах комунізму, у выніку якога дзяржаўная гаспадарка пролетарскай дыктатуры йдзе пасьля цэлага шэрагу год мёртвага стану к свайму хуткаму экономічнаму ўздыму.

Сапраўды „крах комунізму“ быў нічым іншым, як крахам нашых некаторых памылак і няправільных уяўленьняў аб ходзе нашага разьвіцьця к соцыялізму, памылак, якія злучаны з пэрыодам так званага „вайсковага комунізму“. Але крах некаторых памылак зусім ня значыць краху комунізму. Зусім зразумела, што маладая кляса, якая ўзяла ў свае рукі дзяржаўную ўладу, не магла ўяўляць сабе ўсёй складанасьці таго шляху, па каторым ёй прыдзецца ісьці. У пэрыод грамадзянскай вайны, няшчаднага задушэньня эксплёата-

тараў, конфіскацый, рэквізыцый і інш. мы ўяўлялі сабе, што можам амаль адразу перайсьці да плянавае, організаванае гаспадаркі, зусім і адразу зьнішчыўшы вольны гандаль, скрозь і ўсюды і замяніўшы гэты гандаль організаваным разьмеркаваньнем (картачкі і інш.). Практыка паказала нам, аднак, што такога роду задача не па сіле, дый па існасьці гэтая задача ня можа быць разьвязана, калі ёсьць у наяўнасьці вялізная колькасьць дробных гаспадарак, якія ніяк нельга ўціснуць у вадзіны зграбны плян. Доўга трымацца на забароне вольнага гандлю ў адносінах да дробнага вытворцы, у тым ліку, і ў першую чаргу, у вадносінах да сялянства, нельга было; гэта было-б такое ламаньне ўсіх адносін, да якіх селянін прызвычаіўся, якое ўзьнімала-б супроць сябе шырокія пласты сялянства і таму няўхільна было ададзена на злом. Селянін і дробны вытворца наогул, якія прывыклі вольна распараджацца з сваім продуктам (прадаваць яго, калі ім гэтага захочацца), трацілі ўсякі інтарас да палепшаньня і пашырэньня свае вытворчасьці за сыстэмай вайсковага комунізму. Таму атрымоўвалася тое, што сельска-гаспадарчая вытворчасьць не магла разьвівацца і йсьці за такой сыстэмай наперад. *Ня было правільнага злучэньня паміж прыватнымі інтарэсамі прыватнага вытворцы і задачамі і мэтамі пролетарскага соцыялістычнага будаўніцтва;* гэтае злучэньне, гэтую сувязь трэ' было знайсьці ў першую чаргу. Новая экономічная політыка і значыла, паперш і раней за ўсё, такога роду сувязь і злучэньне. Вышэй мы бачылі, як, зачапляючы за прыватна-гаспадарчыя інтарэсы дробнага вытворцы, можна праз коопэрацыю паступова падводзіць яго к соцыялізму, ня ломячы адразу і крута ладу жыцьця, да якога ён прывык, і не падымаючы, такім чынам, супроць сябе дробна-буржуазных прывычак і нават забабонаў шырокіх працоўных мас сялянства. Прыпамятаем, што ў нашай краіне каля 100 мільёнаў сялянскага насельніцтва, больш за 20 мільёнаў сялянскіх двароў; прыпамятаем, што сялянская гаспадарка ёсьць гаспадарчая аснова нашай дзяржаўнай прамысловасьці,—і тады адразу зробіцца ясна, які штыршок наперад павінна была атрымаць нашая краіна з пераходам да новай экономічнай політыкі.

Мы цяпер ясна бачым наш шлях да соцыялізму, які йдзе ня там, або лепей, ня зусім там, дзе мы шукалі яго раней. Мы думалі, што мы можам адным махам і адразу зьнішчыць рынкавыя адносіны. Выявілася, што мы прыдзем да соцыялізму *іменна праз* рынкавыя адносіны. Можна сказаць, што гэтыя рынкавыя адносіны будуць зьнішчаны ў *выніку свайго ўласнага разьвіцьця.* Якім чынам?

Нам вядома, што ў грамадзе капіталістычнай, дзе пануе рынак, дзе рознага роду прыватныя прадпрыемствы змагаюцца адно з другім на гэтым рынку, конкуруюць адно з другім, *буйная вытворчасьць, урэшце, выціскае дробную, сярэдні капітал адступае перад больш вялікім капіталам,* і, нарэшце, месцы масы прадпрыемцаў, факрыкантаў, купцоў, банкіраў, якія конкуруюць адзін з другім, займаюць групкі больш вялікіх каралёў прамысловасьці і банкаў, якія сьцягваюць у сваіх руках усю прамысловасьць і гандаль. Разьвіцьцё рыначнае барацьбы вядзе к таму, што лік конкурэнтаў усё зьмяншаецца, і вытворчасьць сьцягваецца ў руках вялікіх капіталістычных організацый. Нешта падобнае *па віду* будзе адбывацца і ў нас, і адбываецца ўжо цяпер, з тэй толькі істотнейшай розьніцай, што ў нас на месцы найбольшых каралёў прамысловасьці і банкіраў стаіць рабочая кляса і працоўнае сялянства. Сапраўды, у нас існуюць розныя гаспадарчыя формы, рознага роду гаспадарчыя „прадпрыемствы“; у нас ёсьць *дзяржаўныя* прадпрыемствы, *коопэрацыйныя* прадпрыемствы, у нас існуюць, урэшце, *прыватна-капіталістычныя* прадпрыемствы і г. д. *Найбольш буйная вытворчасьць знаходзіцца ў руках пролетарскае дзяржавы.* У руках прыватна-капіталістычнае гаспадаркі знаходзяцца куды менш значныя прадпрыемствы ў галіне гандлю, у першую чаргу гандаль у раздроб, у той час, як гуртовы гандаль (гандаль вялікі) знаходзіцца ў руках дзяржавы. У прамысловасьці буйная вытворчасьць якраз таксама знаходзіцца ў руках дзяржавы, а на долю прыватных прадпрыемстваў прыходзяцца толькі прадпрыемствы па большай частцы сярэдняга і дробнага тыпу. Паміж гэтымі рознымі формамі прадпрыемстваў ідзе гаспадарчая барацьба, барацьба, у якой апошняе слова належыць купцу. Купец-жа

купляе там, дзе тавар лепшы і танейшы. Калі правільна паставіць справу, а такой правільнай пастаноўкі справы мы ўсё больш і больш дабіваемся і ўсё больш і больш дасягаем,—дык усе перавагі будуць на баку буйнае дзяржаўнае вытворчасьці, і яна будзе пабіваць у конкурэнтнай барацьбе свайго прыватнага суперніка. Дробная сялянская гаспадарка, трываючы ад свае „дробнасьці“, як мы бачылі вышэй, будзе запаўняюць гэты недахоп сваёй *коопэрацыйнай арганізацыяй*, якая падтрымоўваецца пролетарскай дзяржаўнай уладай, і будзе таму якраз таксама адваёўваць для сябе перавагі ўсякага буйнага аб'яднаньня, выкарыстоўваючы гэтыя перавагі і выгады, якія атрымоўваюцца ад коопэрацыі, у *сваёй барацьбе супроць прыватнае гаспадаркі кулака. Праз барацьбу на рынку, праз рынкавыя адносіны, праз конкурэнцыю* дзяржаўныя прадпрыемствы і коопэрацыя будуць выціскаць свайго конкурэнта, г. зн. прыватны капітал. Нарэшце, разьвіцьцё рынкавых адносін зьнішчыць само сябе таму, што паколькі на глебе гэтых рынкавых адносін з іх купляй-продажай, грашмі, крэдытам, біржаю і г. д. і да т. п. дзяржаўная прамысловасьць і коопэрацыя падамнуць пад сябе ўсю рэшту гаспадарчых формаў і паступова выцісънуць іх праз рынак зусім, пастолькі і сам рынак, рана ці позна, адамрэ, бо ўсё заступіцца дзяржаўна-коопэрацыйным разьмеркаваньнем продуктаў, якія вытвараюцца.

Такім парадкам, нашае ўяўленьне пра разьвіцьцё к соцыялізму ў значнай меры зьмянілася; але гэтыя зьмены ні каплі ня значаць адступаньня ад пролетарскай політыкі; наадварот, яны адбіваюць сабой падрахунак вялікае рэволюцыйнае практыкі. Мы ўпяршыню ў новай экономічнай політыцы знашлі правільнае злучэньне паміж прыватнымі інтарэсамі дробнага вытворцы і агульнай справай соцыялістычнага будаўніцтва. *Новая экономічная політыка ня ёсьць зьмена пролетарскае лініі, гэта—адзіна правільная пролетарская політыка.* Цяпер гэта зрабілася ўжо ясьней яснага.

Азначыць, ці не зьяўляецца наша політыка адступаньнем ад правільнай пролетарскай лініі, наогул кажучы, можна найлепшым чынам тады, калі мы прыцягнем к справе *вынікі* гэтай політыкі. І калі вынікі гэтыя кажуць, што соцыя-

лістычныя гаспадарчыя формы ўзмацняюць сваю вагу ў агульнай гаспадарцы краіны, дык аднаго гэтага зусім даволі, каб разьвязаць гэтае пытаньне. Політыка комітэтаў беднаты на вёсцы, па існасьці справы, разьвязвала дзьве задачы, якія высоўваліся тады на чаргу дня: папершае, задачу барацьбы з *супраціўленьнем* кулакоў; падругое, задачу *збору хлеба па харчовай раскладцы*, без чаго нельга было прахарчаваць армію. Але гэтая політыка не разьвязвала і не магла разьвязаць *задачу гаспадарчага ўздыму вёскі*. Гаспадарчы ўздым на вёсцы, г. зн. уздым вялізнай колькасьці дробных гаспадарак, немагчымы бяз уздыму асноўнай гаспадарчай масы сялянства—селяніна-серадняка. Паколькі гэты гаспадарчы ўздым ёсьць у наяўнасьці, пастолькі даюцца і асновы для ўздыму дзяржаўнае гаспадаркі і ў горадзе. Ці значыць гэта, што тут запамінаецца бедната? Не, бо агульны ўздым гаспадаркі ў краіне і ўздым дзяржаўнае гаспадаркі дае куды *болей магчымасьці* не на словах толькі, а на справе, не на паперы, а ў жыцьці, не аднымі дэкрэтамі, а *сапраўды матэрыяльна дапамагаць беднаце*. І калі яшчэ да гэтых часоў гэтая дапамога ня робіцца ў патрэбным стопні, дык асноўнай прычынай гэтаму зьяўляецца *невыстарчаюча хуткі ход зьбіраньня сродкаў у нашай дзяржаўнай гаспадарцы*. Таму, іменна таму, нам трэба прыкласьці ўсе намаганьні, каб паскорыць рост нашых матэрыяльных сродкау, паскорыць „тэмп“ награмаджэньня ў нашай дзяржаўнай прамысловасьці, паскорыць паступаньне дадатковых сродкаў у нашу дзяржаўную скарбніцу.

Для таго, каб разьвязаць гэтую задачу, патрэбна *далейшае разьвязаньне тавараздвароту* ў нашай краіне, а для гэтага, у сваю чаргу, патрэбна некаторая большая гаспадарчая воля і для сельска-гаспадарчай буржуазіі, г. зн. *перанясеньне новай экономічнай політыкі на вёску*. Цяпер гэта ні каплі ня мае для нас небясьпекі, бо ў нас, як мы гаварылі вышэй, *ужо ёсьць камандныя высоты*; а, з другога боку, гэта дасьць магчымасьць, робячы тавараздварот у краіне больш шпаркім, больш хутчэй зьбіраць, дасьць магчымасьць і больш *хуткай дапамогі бядняцкай і серадняцкай коопэрацыі*, колектыўным гаспадаркам, сельска-гаспадарчай ко-

опэрацыі, спажывецкім таварыствам. *Наш рэчаісны кірунак ёсьць кірунак на нас самых, ёсьць кірунак на рабочую клясу і працоўнае сялянства, ёсьць кірунак на рост социялістычных гаспадарчых формаў, на рост дзяржаўнай прамысловасьці— у першую чаргу, на рост сельска-гаспадарчай коопэрацыі— у другую. Змычка паміж дзьвюма гэтымі асноўнымі формамі ёсьць патрэбная ўмова нашай перамогі.*

## XI. Дыктатура пролетарыяту і яе рознае значэньне ў адносінах да розных кляс.

Разьвіцьцё нашае сучаснае грамады ў кірунку да соцыялістычнай забясьпечваецца тым, што ўладу трымае рабочая кляса і што ў нас ёсьць у наяўнасьці *яго рэволюцыйная дыктатура, г. зн. яго аднаўладзтва.* Агульнае значэньне дыктатуры пролетарыяту складаецца, паперш, з таго, што яна ёсьць прылада задушэньня эксплёатататараў, прылада задушэньня з іх боку ўсякіх спроб зьвярнуцца да ўлады; з другога боку, агульнае значэньне пролетарскай дыктатуры складаецца з таго, што яна ёсьць асноўны падважнік эканомічнае зьмены грамады. Рабочая кляса карыстае машыну дзяржаўнай улады, якая знаходзіцца ў яе руках, для таго, каб *увесь час зьмяняць экономічныя адносіны грамады на соцыялістычны лад.*

У самым пачатку, пасьля захопу ўлады, як толькі быў закладзены фундамант новага дзяржаўнага ладу, гэта ўлада была ўжыта рабочай клясай на тое, каб „экспропрыяваць экспропрыятараў“, г. зн. адабраць ад фабрыкантаў і заводчыкаў іх фабрыкі і заводы і зрабіць іх уласнасьцю дзяржавы. Рабочая ўлада замацавала якраз, таксама канчаткова і раз назаўсёды, конфіскацыю ўсёй памешчыцкай зямлі і абвясьціла гэтую зямлю ўласнасьцю ўсяго народу (нацыяналізацыя зямлі). Па меры свайго ўмацаваньня, савецкая ўлада, вядучы палітыку заўсёднага і сыстэматычнага замацаваньня ўсіх паросткаў соцыялістычных—грамадзянскіх і гаспадарчых—формаў, зьяўляецца, такім чынам, прыладай грамадзкай зьмены. Пасьля ўсяго сказанага ў папярэдніх разьдзелах можна зрабіць той вынік, што, па меры росту моцнасьці савецкага

ладу, *цэнтр цяжару ўсё больш і больш перамяшчаецца са справы беспасрэднага і мэханічнага задушэньня эксплёататараў і астач варожых рабочай клясе грамадзкіх груп на справу гаспадарчае зьмены грамады, на мірна-організацыйную працу*, на гаспадарчую барацьбу з прыватнымі прадпрыемствамі, на справу будаўніцтва соцыялістычных гаспадарчых формаў (дзяржаўныя прадпрыемствы, коопэрацыя і г. д.).

Дыктатура пролетарыяту, г. зн. рабочай клясы, організаванага як дзяржаўная ўлада, ня можа ня мець *розных* адносін к розным пластом грамады, к розным клясавым групоўкам. Было-б у вышэйшым стопні дзіўным, калі-б улада рабочай клясы не адрозьнівала гэтых пластоў, ня бачыла вялікай розьніцы паміж рознымі грамадзкімі клясамі і групамі і вяла адну й тую самую, зусім аднолькавую політыку, г. зн. знаходзілася-б у аднолькавых адносінах да гэтых розных кляс, пластоў і груп.

Роля пролетарскай дыктатуры з боку адносін да *пластоў буржуазіі, якія ідуць супроць яе рэжыму*, складаецца з *задушэньня* гэтых пластоў. Калі, напрыклад, к нам прыяжджаюць з-за граніцы агэнты расійскай контр-рэволюцыі ствараць у нас таемныя організацыі і гурткі, якія маюць на мэце барацьбу з савецкай уладай і яе скіданьне, дык у адносінах да такога роду буржуазна-памешчыцкіх пластоў пролетарская дыктатура ўяўляе з сябе меч, які няшчадна распраўляецца са здраднікамі, каторыя жадаюць падарваць усякую магчымасьць грамадзкае зьмены ў соцыялістычным духу. Зусім іншай зьяўляецца наша пролетарская ўлада і зусім іншай зьяўляецца роля пролетарскай дыктатуры ў адносінах да тых пластоў буржуазіі, якія, паводле выразу тав. Леніна, *„дапушчаны к супрацоўніцтву“ з рабочай клясай і сялянствам.* Сапраўды, мы ведаем, што ў нас цэлы пласт буржуазных прадпрыемцаў, у першую чаргу гандляры, займаюцца сваёй дзейнасьцю, так сказаць, на законных падставах; нашы савецкія законы дазваляюць гэту дзейнасьць. З чаго складаецца роля пролетарскай дыктатуры з боку адносін да гэтых пластоў буржуазіі? Яна складаецца, паперш. *з абмежаваньня* гэтай дзейнасьці цэлым шэрагам умоў (рабочае законадаўства і законы аб працы, правы профэ-

сыянальных саюзаў, падатковыя складаньні розных выглядаў і г. д.); падругое, роля пролетарскай дыктатуры складаецца з *выкарыстаньня* гэтых элемэнтаў для справы соцыялістычнага будаўніцтва, (агульнае ажыўленьне таваразвароту, ужываньне падаткаў, якія бяруцца з гэтых пластоў, на падтрыманьне соцыялістычных гаспадарчых формаў і г. д.); патрэцяе, *з гаспадарчай барацьбы* з гэтымі пластамі, шляхам *конкурэнцыі* з імі на рынку (дзяржаўныя прадпрыемствы, падтрыманьне коопэрацыі, якая конкуруе з прыватным капіталам і г. д.). Калі мы цяпер запытаем сябе, якая-ж галоўная задача пролетарскай дыктатуры з боку адносін да новай буржуазіі, дык кароткі адказ на гэтае пытаньне можа быць даны прыкладна ў такой форме: гэтая задача ёсьць задача *выкарыстаньня і выцісканьня.* Тут ёсьць, значыцца, такога роду адносіны, якія, нарэшце, прывядуць да зьнішчэньня прыватнакапіталістычных формаў шляхам іх *выцісканьня.*Паставім цяпер пытаньне пра ролю і значэньне пролетарскай дыктатуры з боку адносін да *працоўнага сялянства*—беднякоў і серадняков. Ці ёсьць тут хоць які-небудзь элемэнт барацьбы? Элемэнт барацьбы тут бясспрэчна ёсьць, але ён куды меншы чымся ў адносінах да новай буржуазіі. На чым адбіваецца гэты элемэнт барацьбы. Ён адбіваецца на барацьбе з *хістаньнямі* некаторых пластоў сялянства ў бок буржуазіі. Мы ўжо бачылі, што, дзякуючы прыватнаму характару свае гаспадаркі, дзякуючы сваёй цемры і адвечнай забітасьці, дзякуючы таму, што сялянства ня прывыкла да колектыўных формаў і ледзь пачынае да іх пераходзіць, яно схілена пры пэўных умовах, асабліва ў цяжкія політычныя моманты, к хістаньню ў бок буржуазіі.

І вось з гэтымі-та хістаньнямі, з гэтымі ўхіламі, якія вынікаюць з двоякай прыроды самога селяніна (з аднага боку—праца, з другога боку—прыватны характар гаспадаркі), пролетарская дыктатура павінна весьці, зразумела, кожны раз у адпаведнай форме, рашучую барацьбу. Аднак, асноўнай задачай пролетарскай дыктатуры ў адносінах да працоўнага сялянства зьяўляецца задача *дапамогі і пераробкі*, пераробкі гаспадарчага ладу сялянства. Сялянская гаспадарка за дапамогай пролетарскай дыктатуры будзе зьмяняцца, у першую

чаргу праз коопэраваньне, у *новую, вышэйшую форму*, куды больш вялікую, куды больш культурную і якая разьвіваецца па шляху к соцыялізму. Гэты процэс будзеісьці не праз „выцісканьне“, „паяданьне“, „зьнішчэньне“ сялянскай гаспадаркі, а іменна праз яго *павольную пераапрацоўку*. Калі прыватныя капіталістычныя прадпрыемствы, у выніку пролетарскай дыктатуры, у выніку яе політыкі, будуць выціскацца і *гінуць*, адступаючы перад конкурэнцыяй дзяржаўных прадпрыемстваў і коопэратываў, дык сялянская гаспадарка ні ў якім разе ня будзе гінуць, а будзе пераходзіць у іншыя, вышэйшыя формы. Дзяржаўнае прадпрыемства *конкуруе* з прыватным прадпрыемствам і, урэшце ўсяго, *забівае яго*. Дзяржаўнае прадпрыемства *не* конкуруе з сялянскай гаспадаркай, а *памагае* ёй падняцца на вышэйшы стопень, *не забіваючы* яе ў конкурэнтнай барацьбе, а *організуючы* яе праз коопэрацыю.

Такім чынам, у пролетарскай дыктатуры з боку адносін да сялянства ёсьць такога рода сувязь, якую можна адзначыць словам *саюз*. У гэтым саюзе, як мы ўжо ведаем, кіраўніцтва належыць рабочай клясе, організаванай у дзяржаўную ўладу.

Каб зусім ясна і выразна ўяўляць сабе справу так, як яна ёсьць, патрэбна строгая розьніца паміж дзьвюма рэчамі: паміж *супрацоўніцтвам у грамадзе, з аднаго боку, і супрацоўніцтвам ува ўладзе*, г. зн. *падзелам* гэтае ўлады паміж клясамі,—з другога боку.

*Супрацоўніцтва і нават саюз*, саюз моцны і непарушны, ня ёсьць яшчэ *падзел* улады. У рабочае клясы з сялянствам ёсьць поўнае супрацоўніцтва ў грамадзе, ёсьць адносіны саюзу. Гэта значыць, што дзяржаўная прамысловасьць і сялянская гаспадарка павінны памагаць адно другой, гэта значыць, што рабочая кляса і сялянства разам б‘юцца супроць памешчыкаў і капіталістых, калі яны йдуць у паход супроць савецкіх рэспублік; гэта значыць, што рабочая кляса і сялянства разам змагаюцца на гаспадарчым фронце супроць прыватнага капіталу. Але гэта ня значыць яшчэ, што ў нас ёсьць *падзел улады*, што ў нас ёсьць не дыктатура рабочае клясы, а дыктатура дзьвюх кляс, г. зн. і

рабочае клясы, і сялянства. Бач, самы саюз ёсьць саюз паміж кім? Паміж рабочай клясай, арганізаванай як дзяржаўная ўлада, і сялянствам; у самай дзяржаўнай уладзе сялянства, як удзельніка гэтае ўлады, няма, але гэтая рабочая ўлада знаходзіцца ў саюзе з сялянскай клясай. Чаму гэта так, і чаму ў нашых умовах, гэта значыць ува ўмовах пераходу грамады к соцыялізму, патрэбна іменна дыктатура *аднэй* клясы, г. зн. пролетарыяту? Гэта патрэбна таму, што *толькі* пролетарыят уяўляе з сябе такога роду грамадзкую сілу, якая зусім сьвядома і моцна можа весьці ўсю грамаду да соцыялізму. Мы бачылі вышэй, што кіраўніцтва на гэтым шляху, кіраўніцтва ў саюзе паміж рабочай каясай і сялянствам павінна належаць пролетарыяту, і што толькі пры такім кіраўніцтве магчымы пераможны рух наперад да соцыялізму. Але дыктатура пролетарыяту, г. зн. арганізацыя пролетарыяту ў дзяржаўную ўладу, і ёсьць арганізацыя *кіраўніцтва* ў адносінах да шырокіх мас сялянства. Аднак, рабочая кляса зусім ня мае сабе на мэце вечнага „царства пролетарыяту“, яна зусім ня мае сваёю задачаю вечнага існаваньня пролетарскай дыктатуры, а таксама і свайго ўласнага існаваньня, як заўсёды і вечна існуючай пануючай клясы.

Рабочая кляса мае сваёй сапраўднай задачай, да якой яна паволі, але няўхільна ідзе і вядзе за сабою ўсю грамаду, *пераробку шырокіх народных пластоў* і ў першую чаргу пераробку *самога сялянства*, перавыхаваньне яго на соцыялістычны лад, заўсёдны яго ўздым і падцягваньне к таму роўню, матэрыяльнаму, экономічнаму і культурна-політычнаму, на якім знаходзяцца самыя перадавыя пласты пролетарскага насельніцтва. Па меры пераробкі шырокіх пластоў сялянства, па меры іх перавыхаваньня, *яны будуць усё больш і больш зроўнівацца з пролетарыятам,* зьмешвацца з ім і зьмяняцца ў аднолькавых членаў соцыялістычнай грамады. Розьніца паміж клясамі будзе ўсё больш і больш зьнікаць, і, такім чынам, самыя шырокія пласты сялянства, „перараблёючы сваю ўласную прыроду“, будуць злучацца з працаўнікамі гораду,—дыктатура пролетарыяту, як асобнае клясы, будзе ўсё больш і больш адміраць.

У капіталістычнай грамадзе пра буржуазію можна таксама да пэўнага стопню сказаць, што яна, гэтая буржуазія, *кіравала* ўсёй грамадой, зьяўлялася яго самай передавой і самай адукаванай клясай. Але кіраўніцтва з боку буржуазіі і кіраўніцтва з боку пролетарыяту самым рэзкім, самым глыбокім, самым карэнным чынам адрозьніваюцца адно ад другога. Бо разьвіцьцё капіталістычнае грамады, на чале якой стаяла буржуазія, прыводзіла к таму, што розьніца паміж пануючымі клясамі і клясамі прыгнечанымі, паміж буржуазіяй, з аднаго боку, рабочай клясай і сялянствам—з другога, усё больш і больш завострывалася і павялічвалася. Немагчыма і думаць, каб у межах і асадках капіталістычнага ладу рабочая кляса і сялянства зроўніваліся па сваім матэрыяльным становішчы, па роўні свайго жыцьця, па сваёй адукацыі, па сваім грамадзянскім становішчы з буржуазіяй. Гэта супярэчыла-б самым карэнным асновам буржуазнае грамады. Наадварот, самая існасьць гэтае буржуазнае грамады складаецца *з усё больш рэзкага падзельваньня яе на клясы*, самая карэнная існасьць буржуазнай політыкі складаецца з таго, што за яе дапамогай буржуазія забясьпечвае за сабою, *выключна* за сабою, усе перавагі матэрыяльнага становішча і ўсе перавагі адукацыі: буржуазія мае ў краінах, дзе яна пануе, ня толькі монополію (выключнае ўладаньне) на сродкі вытворчасьці, фабрыкі, заводы, чыгункі і інш.; яна мае монополію ня толькі на дзяржаўную ўладу, да якой нікога не дапушчае; але яна мае і поўную фактычную монополію на вышэйшую адукацыю, на прэсу (газэты, часопісі), на навуку і г. д. Новыя вучоныя, новыя адміністратары, новыя інжынэры, новыя афіцэры і гэнэралы, адным словам, новыя *кіруючыя кадры* грамады заўсёды вытвараюцца ня з ніжэйшых пластоў народу, не з рабочых і сялян, а з пластоў тэй самай буржуазіі і буржуазнай інтэлігэнцыі, якія без канца карыстаюцца, фактычна спадчынным шляхам, усімі перавагамі свайго становішча. Буржуазія ніколі ня ставіла і не магла ставіць за сваю задачу ўзьняць і ўзьнімаць сыстэматычна і няўхільна новыя і новыя народныя пласты к культурнаму жыцьцю, бо гэта значыла-б заняпад яе ўласнай магутнасьці.

Зусім іншую палітыку, *проста супроцьлеглую*, вядзе рабочая кляса. Яе задачай зьяўляецца ня вытварэньне тых самых адносін паміж клясамі: яе задачай зьяўляецца *асільваньне* клясавай розьніцы, зьнішчэньне гэтай клясавай розьніцы шляхам перавыхаваньня шырокіх народных мас; для гэтага яна карыстаецца ўсімі сродкамі, якія знаходзяцца пад яе загадам, і ўсёй магутнасьцю сваёй дзяржаўнай улады. Асновай гэтай пераробкі зьяўляецца пераробка *эканомічных адносін* грамады, разьвіцьцё гэтае грамады па шляху социялізму. А разам з гэтым і поруч з гэтым рабочая кляса ўжывае ўсе намаганьні, каб перарабляць шырокія народныя пласты і, у першую чаргу, самага надзейнага свайго саюзьніка па барацьбе з капіталістымі і памешчыкамі—сялянства. Гэта мае, між іншым, свой адбітак на палітыцы *ўцягненьня сялянства ў савецкае будаўніцтва.* Уцягваючы ўсё большую і большую колькасьць беспартыйных сялян к савецкай працы і памагаючы ім на гэтай працы перавыхоўвацца, расьці, перарабляць сваю прыроду, набываць прывычкі, патрэбныя для кіраваньня дзяржавай, вучыцца разуменьню ня толькі мясцовых, але і агульна-дзяржаўных задач і г. д., рабочая кляса тым самым паступова распачынае нішчыць граніцу паміж сабою і перадавымі пластамі сялянства. Праз гэтыя перадавыя пласты будуць пераходзіць на больш высокі стопень і падымацца да новага жыцьця, актыўнага і сьвядомага, іншыя пласты, новыя групы сялянства, і крыху-па-крысе, на аснове пролетарскага кіраўніцтва, сялянства будзе ўсё бліжэй і бліжэй зрастацца па сваіх прывычках, звычаях, думках, мэтах і задачах з рабочай клясай. Падобна таму, як праз коопэрацыю сялянская гаспадарка будзе зрастацца з дзяржаўнай гаспадаркай пролетарыяту і, урэшце ўсяго, пераапрацаваўшы сама сябе, ульлецца ў адзіную плянавую социялістычную гаспадарку, падобна гэтаму ўсім ходам жыцьця сялянства будзе зрастацца з рабочай клясай, зьмяняць у гэтым процэсе сваю ўласную прыроду і, урэшце ўсяго, злучыцца з рабочай клясай у адзінай социялістычнай працоўнай грамадзе. Калі ў пачатку гэтага процэсу паміж гарадзкой рабочай клясай і сялянствам праходзіла шырокая баразна, якая адлучала рабочага, як уро-

джанага прыхільніка колектыўных формаў (грамадзкіх формаў) працы і барацьбы, ад селяніна, як прыхільніка дробнае прыватнае гаспадаркі, дык па меры росту коопэрацыі, па меры росту політычнага і агульна-культурнага выхаваньня сялянства, яно будзе ўсё больш зьмяняцца спачатку на нешта падобнае да проста-на-проста адсталага шырокага пласту рабочае клясы, а потым будзе ўсё больш і больш наблізяцца к ёй, пакуль баразна, якая праходзіла паміж абедзьвюх кляс, ня будзе канчаткова засыпана, і абедзьве клясы ня злучацца раз і назаўсёды ў адзіным тыпе працоўных членаў соцыялістычнае грамады. Гэта будзе і зьнішчэньнем (адміраньнем) „з непатрэбнасьцю“ самой пролетарскай дыктатуры.

Але для таго, каб дайсьці да гэтае мэты, патрэбна пастаянная і моцная політыка, якая, маючы на ўвазе гэтую мэту, уладарна накіроўвае ход грамадзкага жыцьця. Вось чаму трэба захаваньне ў поўнасьці на даным стопні разьвіцьця адзінай, сапраўднай гарантыі правільнай політыкі, якой зьяўляецца лад пролетарскай дыктатуры, каторая апіраецца на сялянства і знаходзіцца ў саюзе з гэтым сялянствам.

## XII. Форма пролетарскай дыктатуры.

Агульная форма пролетарскай дыктатуры—гэта ёсьць Савецкая ўлада, савецкая дзяржава, у яе розьніцу ад так званай буржуазнай дэмократыі. Спэцыяльнай асаблівасьцю гэтае формы дзяржаўнай улады зьяўляюцца наступныя рысы, якія яе адрозьніваюць. Паперш за ўсё, яна *не дазваляе* выбіраць у дзяржаўныя органы прадстаўнікоў буржуазіі. Яна абмяжоўвае выбарныя правы зусім з адваротнага канца, чымся гэта робіцца ў буржуазнай дзяржаве, дзе ў тэй або іншай форме, проста або наўкосна, схавана або адкрыта пазбываюцца выбарных праў або абмяжоўваюцца ў сваіх выбарных правох прадстаўнікі *працоўнага* народу. Падругое, Савецкая ўлада абмяжоўвае цэлы шэраг „свабод“ або зусім зьнішчае гэтыя свабоды для *прадстаўнікоў буржуазіі*. Яна забараняе, напрыклад, політычныя організацыі буржуазіі. Яна забараняе гэтай буржуазіі мець свае політычныя баявыя органы, у тым ліку і органы друку і г. д. Патрэцяе, затое

яна ў нябывала шырокім стопні *ажыцьцяўляе на справе волю рабочых* арганізацый, *іх* друку, *іх* сходаў і інш., выклікаючы тым самым росквіт, якога ня было, розных аб'яднаньняў рабочае клясы і працоўных мас наогул, ажыцьцяўляючы, такім чынам, на справе шырокую *дэмократыю працоўных* у розьніцу і супроцьлежнасьць *дэмократыі для багатых*, дэмократыі для буржуазіі, як гэта практыкуецца ў капіталістычных краінах. У гэтых апошніх рабочая кляса і сялянства часта маюць рознага роду правы, але гэтыя правы маюць у пераважнай большасьці выпадкаў формальны (г. зн., які існуе толькі на паперы, а ў сапраўдным жыцьці ня існуе) характар. Напрыклад, на паперы можа быць прызнана свабода і рабочага друку, але з тэй прычыны, што ўсе друкарні, уся папера, усе будовы трымаюць у руках вялікія капіталістычныя ўласьнікі, дык рэволюцыйная рабочая газэта ня можа знайсьці сабе фактычна месца: яе адмаўляюцца друкаваць нават у тым выпадку, калі ёсьць матэрыяльная магчымасьць яе выдаваць; альбо на паперы можа існаваць права сходаў, але рабочыя організацыі ня могуць сабрацца за „адсутнасьцю памяшканьня“ і г. д. і т. п. У нас за Савецкай уладай апошняя забясьпечвае ўсё больш і больш *на справе* гэтыя свабоды, г. зн. ажыцьцяўляе *правядзеньне гэтых свабод у жыцьцё*, бо Савецкая ўлада дае *гарантыю* гэтага ажыцьцяўленьня; яна дае рабочым організацыям лепшыя памяшканьні ў горадзе, яна матэрыяльна падтрымоўвае рабочы друк, яна дае сялянам-перадавіком магчымасьць пабудаваць свой клюб, аддаючы лепшыя памяшканьні на вёсцы, і г. д. і т. п. Яе пошта пашырае рабочы друк, яе міліцыя ахоўвае рабочыя сходы. Адным словам, усе організацыі дзяржаўнай улады ажыцьцяўляюць тое, што зьяўляецца патрэбным для сапраўднага ажыцьцяўленьня самага шырокага ўдзелу рабочых мас у актыўным будаўніцтве новае грамады.

Чацьвертае, Савецкая ўлада не адарвана ад організацыі рабочых і сялян; наадварот, яе самай істотнай асаблівасьцю зьяўляецца тое, што яна беспасрэдна зьвязана і беспасрэдна грунтуецца на вялізнай сетцы самых рознастайных організацый працоўнага народу: профэсыянальных рабочых саюзах, сялянскай коопэрацыі, крэсткомах, комнезамах, раб-

кораўскіх і селькораўскіх організацыях, розных добраахвотных вобчаствах і аб'яднаньнях і г. д. і т. п. Савецкая ўлада ўзьнімае ўсё новыя і новыя пласты нават найбольш адсталага працоўнага насельніцтва; напрыклад, яна організуе і ўсімі мерамі падтрымоўвае розныя формы аб'яднаньня жанчын-работніц, сялянак, жанчын, прыгнечаных раней імпэрыялізмам і найбольш адсталых нацыянальнасьцяй, усімі сродкамі абуджаючы ў іх сьвядомасьць патрэбнасьці ісьці да новага жыцьця і самым прымаць удзел у пабудаваньні гэтага новага жыцьця. Шматлікія і featuresнастайныя організацыйныя ячэйкі ўсіх гэтых аб'яднаньняў працоўнага народу і, паперш за ўсё, рабочае клясы, проста або наўкосна зьвязаны цеснай сувязьзю з органамі Савецкай улады, утвараюць, па існасьці справы, адзіную з ёю сыстэму, якая ахоплівае, адукуе, організуе, перарабляе вялізныя пласты працоўных.

За капіталістычным рэжымам дзяржаўная ўлада грунтуецца на замкнутых організацыях нязначных пластоў вялікіх капіталістых. Калі яна зьвязана з організацыямі працоўных, дык выключна з мэтаю іх *абманваць і разбэшчваць;* у такіх выпадках мэтаю гэтае сувязі зьяўляецца не прыцягненьне працоўных да ўсталяваньня новага парадку, а імкненьне *адцягнуць* рабочую клясу і сялянства ад зьдзяйсьненьня іх *самастойных* мэт і клясавых задач, прымусіць іх лепей працаваць *на буржуазію* і лепей падлягаць дзяржаўнай уладзе гэтай *буржуазіі.*

Ува ўмовах савецкага рэжыму сама Савецкая ўлада ёсьць, па існасьці справы, выражэньне волі працоўных мас, ёсьць найбольш шырокая форма організацыі гэтых мас, якая ахоплівае ўсё. Калі дзяржава ў нас ёсьць дзяржава рабочае клясы, калі дыктатура, якая існуе ў нас, ёсьць дыктатура пролетарыяту, дык сувязь гэтага дзяржаўнага апарату ня толькі з рабочымі, але і з сялянскімі організацыямі зьяўляецца яго прадпасылкай, зьяўляецца мастком, па якім сялянства паступова пераходзіць „*на пункт погляду пролетарыяту*“.

Пятае, Савецкая ўлада пабудована такім чынам, што ўдзел у політычным жыцьці, напрыклад, удзел у выбарных кампаніях у саветы і праца ў гэтых саветах у корані ад-

розьніваецца ад выбарных кампаній і ўдзелу ў так званай парляманцкай працы. У буржуазных рэспубліках грамадзяне выбіраюць раз у чатыры або ў тры гады, або ў які-небудзь іншы тэрмін дэпутатаў у парлямант і тым амаль што абмяжоўваецца іх палітычнае жыцьцё. З другога боку, дэпутат парляманту, які ня можа быць адкліканы сваімі выбарнікамі, уяўляецца выключна парляманцкім гаваруном. У нашых умовах выбарныя кампаніі ў саветы і праца ў гэтых саветах значаць уцягненьне і *выбарнікаў*, і, вельмі ў вялікім стопні, *дэпутатаў у сапраўдную, рэчаістую працу па кіраўніцтву дзяржавай*, бо выбарнікі прымаюць удзел у гэтай будаўнічай працы нават у самых нізавых, якія выбіраюць, ячэйках, напрыклад, на фабрыках або на заводах. тады як іх прадстаўнікі ў савецкіх органах якраз таксама абавязкова выконваюць якую-небудзь кіруючую працу па кіраўніцтве дзяржавай або тэй ці іншай часткай дзяржаўнай гаспадаркі і г. д. і т. п.

Можна было-б яшчэ паказаць на шэраг адзнак, якія глыбока адрозьніваюць савецкую форму дзяржавы ад усякай іншай дзяржаўнай формы. Лёгка бачыць, што прызначэньне, мэты, задачы Савецкай улады, улады асноўнае клясы, якая зьмяняе ўвесь стары лад, увесь стары сьвет, у корані *супроцьлеглы* характару, мэтам і задачам буржуазных дзяржаў.

Але гэта самая форма Савецкай улады, з свайго боку, *зьмяняецца ў залежнасьці ад тых абставін, у якіх прыходзіцца працоўным змагацца за ажыцьцяўленьне свае справы.*

У часы так званага ваеннага комунізму, калі ўся краіна была нібы абложанай крэпасьцю, калі галоўнейшай задачай улады была арганізацыя ўзброенага адпору ворагу, калі трэба было ў першую чаргу скора і рашуча адбівацца ад яго, ня столькі меркаваць, колькі кіраваць у выглядзе загадаў і каманды, *павайсковаму*, тады, зусім натуральна, форма пролетарскай дыктатуры была формай *ваенна-пролетарскай дыктатуры*. Шырокія органы Савецкай улады, пленумы саветаў, фактычна ў жыцьці, амаль што адмерлі, і кіраўніцтва перашло выключна прэзыдыуму выканаўчых комітэтаў, г. зн. вузкім колегіям, „тройкам“ „пяцёркам“ і г. д.

Вельмі часта, асабліва ў мясцовасьцях, блізкіх к мясцовасьці, занятай ворагам, або ў такіх масцовасьцях, над якімі вісела пагроза з боку ворага, утвараліся замест „правільных“ органаў Савецкай улады, г. зн. органаў, сапраўды выбраных усім працоўным насельніцтвам, мясцовыя так званыя „рэволюцыйныя комітэты“ (Рэўкомы), якія, замест таго, каб ставіць пытаньне на масавае абмеркаваньне і на папярэдняе разьвязваньне шырокіх кол працоўных, дзейнічалі зусім самастойна. Гэтая форма ўлады саветаў, зразумела, не пакідала адбіваць інтарэсы працоўных, яна была *патрэбна* для таго пэрыоду, была мэтазгоднай для таго часу, калі трэба было скараціць да мінімуму ўсякую гаварыльню, усякую дыскусію, калі трэба было часамі нават ня лічыцца з задачай выхаваньня мас, а калі трэба было дзейнічаць, дзейнічаць і яшчэ раз дзейнічаць на полі ўзброенай барацьбы з ворагамі працоўнага народу. У зьвязку з гэтым ладам *ваенна-пролетарскай дыктатуры* тагочаснага пэрыоду знаходзілася адсутнасьць дакладна вызначаных і падлеглых строгаму выкананьню *законаў*, якія ў большай частцы замяняліся загадамі і распараджэньнямі, каторыя зьмяняліся ў залежнасьці ад баявой абстаноўкі.

Мэтоды конфіскацыі і рэквізыцыі былі зусім звычайнымі мэтодамі ў той час. Усё гэта вынікала з навязанай рабочай клясе і сялянству наўяўна жорсткай грамадзянскай вайны ў надзвычайна цяжкіх умовах.

З пераходам к мірнаму часу і асабліва з пераходам нашае краіны *к гаспадарчаму ўздыму* па ўсёй лініі, зусім натуральна, павінна была зноў *зьмяніцца форма Савецкай улады ў сэнсе ўхіленьня і зьнішчэньня астач ваенна-комуністычнага пэрыоду*.

*Рэволюцыйная законнасьць* павінна замяніць сабою ўсе астачы адміністрацыйнай сваволі, хоць-бы нават і рэволюцыйнай. У часе мірнага будаўніцтва, калі гаспадарчая дзейнасьць стаіць на першым пляне, усякае бяссыстэмнае, адвольнае, выпадковае, непрадбачанае мяшаньне ў ход экономічнага жыцьця можа надзвычайна сумна адбівацца на гэтым гаспадарчым жыцьці. Пачаць, паперш за ўсё, з сялянскае гаспадаркі. Мы самі гаворым і пішам, зварачаючыся

да сялянства, аб патрэбе больш правільнага вядзеньня справы ў сялянскай гаспадарцы; мы прапаноўваем пераходзіць з трохпалёўкі на шматпалёўку, мы прапаноўваем цэлы шэраг новых палепшаных спосабаў земляробства і гадоўлі жывёлы, мы гаворым аб патрэбнасьці лепшага падліку ўсіх элемэнтаў гаспадаркі, пра іх лепшае, больш мэтазгоднае і больш правільнае выкарыстаньне; наша аграпрапаганда ўся прасякнута такога роду прапановамі, і сялянства, асабліва яго найбольш сьвядомыя і найбольш культурныя пласты, так званыя „сяляне-перадавікі“, ахвотна йдуць па гэтай лініі. Але калі мы прапаноўваем селяніну лепей падлічаць усё тое, што ў яго ёсьць у гаспадарцы, і лепей гэтае падлічанае выкарыстаць, дык, само па сабе разумеецца, усякая адвольнасьць і ўсе непрадбачнасьці, якія йдуць з боку Савецкай улады, прыходзяць у рэзкую супярэчнасьць з нашай уласнай пропагандай і з вымаганьнямі правільнасьці ў вядзеньні гаспадаркі. Сапраўды, як можа селянін *разьлічыць*, што яму трэба зрабіць і якія страты зрабіць, калі ён, напрыклад, зусім ня будзе дакладна ведаць, як і ў якія тэрміны яму прыдзецца аддаваць сельска-гаспадарчы падатак?

Як ён будзе правільна весьці сваю гаспадарку, калі на яго можа сыпацца шмат зусім непрадбачных распараджэньняў і калі няма цьвёрдай, раней вядомай сыстэмы законаў, якія падлягаюць строгаму і бязумоўнаму выкананьню? Гэта новая абстаноўка, якая ў корані адрозьніваецца ад ваеннай абстаноўкі часоў грамадзянскай вайны, конча вымагае правільнай пастаноўкі ўсяе справы кіраўніцтва; яна вымагае такога роду кіраўніцтва, якое грунтавалася-б на раней вядомых законадаўчых пастановах, каторыя могуць быць падлічаны, прыняты пад увагу *заўчасна. Пераход к рэвалюцыйнай законнасьці,* к строгаму выкананьню дэкрэтаў Савецкай улады, пераход да рашучага зьнішчэньня астач адміністрацыйнае адволі ёсьць таму адна з асноўных рыс, паказальных для новага пэрыоду ў разьвіцьці нашае рэволюцыі.

*Уцягненьне мас* якраз таксама робіцца цяпер задачай, куды больш патрэбнай, чымся ў папярэдні пэрыод. Агульна-культурны ўздым і рост палітычнай актыўнасьці ўсіх выключна пластоў працоўных, у тым ліку і сялянства, куды

большая колькасьць вольнага часу, чымся раней, у цяжкія гады грамадзянскай вайны, палепшаньне матэрыяльнага становішча разам з гаспадарчым ростам,—усё гэта прымушае Савецкую ўладу зьвярнуць куды большую ўвагу на самую вялікую і ўдзячную задачу *ўсё больш рашучага прыцягненьня к дзяржаўным справам шырокіх пластоў працоўнага насельніцтва.* Трэба мець на ўвазе, што ў цяперашніх умовах больш, чымся калі-б то ні было, важна для рабочае клясы накіраваць абуджаную палітычную энэргію сялянства *па тым рэчышчы, якое замацоўвае саюз сялянства і рабочае клясы.* Іменна для таго, каб замацаваць кіраўніцтва з боку рабочае клясы, патрэбна цяпер, г. зн. у пэрыод „мірна-арганізацыйны“, ужываць усе намаганьні, каб зрабіць усё магчымае для пераработкі сялянства ў патрэбным духу. Важнейшым спосабам такога роду выхаваньня сялянства зьяўляецца ўцягненьне яго, у васобе яго беспартыйных перадавікоў, паперш і раней за ўсё, к працы ў нашых савецкіх органах. Іменна тут, вучачыся на гэтай працы разуменьню агульна-дзяржаўных задач, і будзе адбывацца гэтая пераработка, а з другога боку, толькі такім шляхам, г. зн. шляхам уцягненьня шырокіх мас і на вёсцы, і ў горадзе, можна будзе з большым посьпехам весьці барацьбу супроць бюрократызму—язвы, якая яшчэ да гэтых часаў разьядае наш дзяржаўны організм.

Урэшце, для найбольш актыўнага людзкога ядра нашых савецкіх органаў, а іменна, для членаў нашай партыі, кіраўнікоў гэтых савецкіх органаў, у бягучы пэрыод зьяўляецца патрэбным выжываньне *мэтодаў каманды й загаду і рашучы, поўны й бязумоўны пераход да мэтодаў перакананьня.*

Уся гэтая сыстэма мерапрыемстваў паслужыць справе ўмацаваньня і разьвіцьця савецкай сыстэмы, як асобнай формы дзяржаўнага ладу, і будзе забясьпечваць усё большы і большы рост (матэрыяльны, палітычны і агульна-культурны) самых шырокіх пластоў працоўных мас.

Можна, наогул кажучы, сказаць, што палітычны лад тым больш лепшы, тым больш уяўляе з сябе крок наперад, у параўнаньні з гістарычным мінулым, чым *большаму ліку людзей ён дае магчымасьць расьці.* Капіталістычны лад аб-

мяжоўвае гэтыя магчымасьці пластом выбраных: буржуазія, буржуазная інтэлігэнцыя, памешчыкі і да т. п. Вялізныя масы працоўных застаюцца за сьцяной гэтага руху. Магчымасьці падняцца, заўсёды пераходзіць на больш і больш вышэйшыя ўсходы—гэтай магчымасьці няма для працоўных мас, г. зн. для асноўнай масы чалавецтва пры капіталістычным рэжыме. Калі мы будзем цаніць Савецкую ўладу *з гэтага* пункту погляду, дык мы лёгка ўбачым, што яна ўяўляе з сябе *самую лепшую* форму дзяржаўнай улады з усіх формаў, якія да гэтага часу існавалі. Ня ў тым справа, што мы ўжо дасяглі ўсяго, чаго хочам дасягнуць (мы робім толькі *першыя крок* у кірунку к соцыялізму і кірунку к нязвычайнаму культурнаму ўздыму народных нізоў); справа ў тым, *што ў гэты бок павернуты руль грамадзкага разьвіцьця, і рулём гэтымі* які вызначае сабою магчымасьць такога нябывалага культурнага ўздыму і руху ў кірунку да яго, зьяўляецца *Савецкая ўлада.*

## XIII. Экономічная няроўнасьць і яе асільваньне.

Комуністычны лад ёсьць вышэйшы стопень разьвіцьця чалавецкае грамады, за якім вытворчыя сілы гэтае грамады, стопень улады чалавека над прыродай далёка абганяюць нават той стопень тэхнічнага разьвіцьця, якім адрозьніваўся капіталістычны лад у часы свайго росквіту; а разам з гэтым комуністычная грамада ўяўляе з сябе такую гаспадарчую організацыю, дзе пануе поўная роўнасьць паміж людзьмі і дзе адсутнічае ўсякая эксплёатацыя чалавека чалавекам, а таксама і ўсякая каманда, усякае гвалтаваньне адных людзкіх груп над другімі. Варта толькі параўняць паміж сабой гэты стан чалавечай грамады з тым яе станам, у якім мы атрымоўваем яе ў спадчыну ад капіталістычнага ладу, каб зразумець, якую сапраўды вялізную працу, працу, якой хопіць на цэлы шэраг дзесяцігодкаў, трэба зрабіць, каб падняцца на гэты найвышэйшы стопень чалавечага разьвіцьця. Таму зусім зразумела, што толькі праз *некалькі год* пасьля заваёвы рабочай клясай улады нельга і думаць пра зьнішчэньне *адразу* ўсякай наогул няроўнасьці і ўсякага жаб-

рацтва, але ў той-жа самы час трэба як мага *ўскорваць* наш шлях да комунізму, а для гэтага патрэбна, у сваю чаргу, мець зусім яснае ўяўленьне аб тым, *якім чынам* будзе асільвацца існуючая ў нас яшчэ да гэтых часаў няроўнасьць паміж людзьмі.

Разгледзім па парадку галоўныя віды гэтае няроўнасьці, якія ёсьць цяпер у нас *у экономічнай* галіне. Паперш за ўсё, кідаецца ў вочы няроўнасьць матэрыяльных умоў існаваньня паміж *горадам і вёскай*. Мы ўжо пісалі ў папярэдніх разьдзелах пра тое, што капіталістычны спосаб вытворчасьці няўхільна выклікае вясковую адсталасьць, затрымлівае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ў параўнаньні з прамысловасьцю і зьмяняе горад у выключнае сьцягненьне ўсіх асноўных жыцьцёвых выгад. Такія суадносіны паміж горадам і вёскай спалі ў спадчыну захапіўшай уладу рабочай клясе і сялянству, якое яе падтрымоўвае.

Дробная гаспадарка селяніна надзвычайна далёка адстае ад сучаснай фабрыкі з яе тэхнічнымі ўдасканаленьнямі. Дробная сялянская гаспадарка якраз таксама адстае ад гэтай фабрыкі і па ўнутранай сваёй пабудове, і па організацыі працы. У выніку вытворчасьць працы ў гэтай дробнай сялянскай гаспадарцы надзвычайна нізкая,—прыходзіцца траціць шмат гэтае працы, каб атрымаць параўнаўча нязначны вынік. Якім чынам можа быць ухілена *такога роду* няроўнасьць паміж горадам і вёскай? Было-б зусім недарэчным разьвязваць яе якім-небудзь мэханічным шляхам, адным ударам, адным якім-небудзь мерапрыемствам. Можна, напэўна, уявіць сабе дзікую думку пра расьцягваньне па цэглінках усіх вялікіх гарадоў з усімі вялікімі гарадзкімі прадпрыемствамі, машынамі, электрычнымі ўстаноўкамі і г. д. Але гэта, бач, ні каплі не паправіла-б справы. Паперш за ўсё, таму, што гэта пацягнула-б за сабой падрыў і зьнішчэньне вялікай прамысловасьці, якая, як мы ўжо бачылі, зьяўляецца асноўнай крыніцай для самой сельскай гаспадаркі, даючы ёй машыны, прылады працы і цэлы шэраг прадметаў, патрэбных для палепшаньня сельска-гаспадарчай вытворчасьці, а таксама і навуку, якая ўсё больш і больш зьяўляецца рашаючай сілай у галіне сельска-гаспадарчай вытвор-

часьці. Такога роду думка была-б сапраўды шалёнай думкай, людзі здаровыя на розум і памяць павінны яе адразу-ж адкінуць. Зусім натуральна, наадварот, прысьці к выніку, што толькі за дапамогай гарадзкой прамысловасьці, якой кіруе рабочая кляса, гэты верны памоцнік сялянства, можна будзе паднімаць вёску; і ня шляхам зруйнаваньня гарадоў, а шляхам *зьбліжэньня прамысловасьці з вёскай* і шляхам гаспадарчай і тэхнічнай дапамогі гэтай вёсцы мы будзем пакрыпова запаўняць тую прорву, якую стварыла паміж горадам і вёскай уся папярэдняя гісторыя разьвіцьця чалавечае грамады. Задачай рабочае партыі і задачай Савецкай улады зьяўляецца іменна ўхіленьне гэтай супярэчнасьці паміж горадам і вёскай. Паступова мы павінны будзем будаваць новыя заводы, электрычныя станцыі і таму падобныя вялікія вытворчыя прамысловыя адзінкі ня толькі ў гарадзкіх цэнтрах, але сярод мястэчак і вёсак, раскідваючы гэтыя прадпрыемствы па ўсёй краіне, робячы іх рассаднікамі і месцамі культуры, пісьменнасьці, гаспадарчых палепшаньняў, палітычнай сьвядомасьці сярод сялянскага насельніцтва краіны.

Тэхнічная дапамога гораду, асабліва *электрыфікацыя*, а поруч з гэтым *коопэраваньне* сялянскіх гаспадарак, якое, як мы ўжо ведаем, вызначае біты шлях у нашай вёсцы к соцыялізму, зьявіцца магутным падважнікам уздыму росту вёскі і крыху-па-крысе матэрыяльныя ўмовы існаваньня ў горадзе і вёсцы будуць зроўнены і пры тым, па існасьці справы, з *найвялікшай карысьцю для тае і другое стараны.* Гарадзкі жыхар, завязаны ў каменных мяшкох сучасных гарадоў, які ня бачыць прыроды і ахвярован у такіх умовах, ня гледзячы на адносны матэрыяльны дабрабыт, на выраджэньне, выйграе ад свайго прыбліжэньня да гэтай прыроды. І наадварот, жыхар вёскі надзвычайна выйграе з таго, што паднімецца вытворчасьць яго працы, і што ён будзе, урэшце, карыстацца ўсім тым дабром культуры і цывілізацыі, якімі раней карысталіся адны нашы ворагі. Само сабой зразумела, каб дасягнуць такога роду грамадзкага ладу, патрэбны вялізныя зьмены, зрабіць якія магчыма толькі на працягу доўгіх і доўгіх гадоў. Але, тым ня менш, мы ўжо цяпер бачым, як мы пашлі на гэты шлях.

*У сярэдзіне гораду* мыназіраем цяпер якраз такую самую, надзвычайна рэзкую, якая кідаецца ў вочы, няроўнасьць. Варта толькі параўнаваць нэпманаў і ровень іх жыцьця з жыцьцём бяспрытульных і галадуючых дзяцей, каб убачыць, як далёка мы яшчэ ад таго ідэёвага становішча, якое мы ўзялі сабе за задачу. Калі мы разьмяркуем розныя роўні жыцьця ў парадку іх спадаючай велічыні, дык мы атрымаем цэлую драбіну разрадаў, якія даволі рэзка адрозьніваюцца адзін ад аднаго. Калі ўзяць толькі адны вялікія падзелы, дык усе гэтыя разрады можна, прынамсі, абмаляваць у такім відзе.

1) *Новая буржуазія* (нэпманы), якая атрымоўвае *прыбытак* за лік эксплёатацыі чужое працы, ці будзе то прыбытак з прамысловага прадпрыемства, ці будзе то гандлёвы прыбытак, або барыш падрадчыка, або спэкуляцыйны барыш, або які-небудзь другі від так званага „непрацоўнага даходу“. Вельмі часта ровень жыцьця асоб гэтай катэгорыі падходзіць пад той ровень, які быў характэрны для неасабліва вялікіх капіталістых даваеннага часу.

2) *Вышэйшыя савецкія служачыя*, галоўным чынам, служачыя гаспадарчых установ і гаспадарчых органаў, (дырэктары трэстаў, члены праўленьняў сындыкатаў, вялікія незаменныя спэцы і г. д.).

3) Так званыя *адказныя працаўнікі наогул.*

4) *Кваліфікаваныя рабочыя.*

5) *Некваліфікаваныя рабочыя.*

6) *Беспрацоўныя, люмпэн-пролетарыят* (людзі, якія выбіліся з каляіны, хронічныя беспрацоўныя, жабракі і г. д.).

Увесь гэты малюнак відочна паказвае нам зноў-такі наколькі мы *далёка* яшчэ ад таго, каб дасягнуць роўнасьці, нават у межах гораду, які зьяўляецца покі што цэнтрам нашае працы і дзе выразьней за ўсё адбіта панства пролетарыяту. І тым ня менш, мы ўжо ясна бачым, што разьвіцьцё нашае грамады конча павядзе, пры правільнай палітыцы з боку нашай партыі і Савецкай улады, да зьмякчэньня гэтых супярэчнасьцяй, да іх асільваньня і іх зьнішчэньня. Сапраўды, возьмем, паперш за ўсё, яскравае праяўленьне няроўнасьці— няроўнасьць у матэрыяльным становішчы буржуазіі (нэпманаў) і становішчы рабочае клясы ў яе цэлым. Як будзе

зжывацца гэтая няроўнасьць? Гэта ня цяжка абмеркаваць пасьля таго, што ўжо было намі сказана.

Уздым-жа нашае дзяржаўнае гаспадаркі, а таксама і кооперацыі будзе адбывацца пры *выцісканьні* прыватна-прадпрыемчай формы гаспадаркі. Яшчэ да таго, як гэтыя формы зусім загінуць і адамруць, адступаючы перад пераможным ходам соцыялістычных гаспадарчых адносін, якія разьвіваюцца, уздым дзяржаўнай прамысловасьці будзе павялічваць заработную плату рабочай клясы, а з другога боку, сыстэма падаткавага абкладаньня будзе абмяжоўваць далейшы рост жыцьцёвага роўню новай буржуазіі. Канчатковае выцісканьне прыватна-капіталістычнай гаспадаркі, канчатковая перамога над ёй давядзе справу да канца, і гэта *асноўная* супярэчнасьць, гэта *асноўная* няроўнасьць у гарадох будзе такім чынам зьнішчана.

Даволі складаным зьяўляецца пытаньне адносна няроўнасьці *паміж вышэйшымі кадрамі савецкіх служачых і кіраўнікамі*, з аднаго боку, і *сярэднімі рабочымі*—з другога. У ліку гэтых вышэйшых і адказных служачых Савецкай улады ёсьць, поруч з рознымі спэцыялістымі, і быўшыя рабочыя з найбольш таленавітых і культурных „рабочых-перадавікоў“ (напрыклад, чырвоныя дырэктары і г. д.). Зусім зразумела, што *гэтая* няроўнасьць вынікае ў сваёй самай глыбокай аснове *з культурнай адсталасьці рабочых мас*, якія былі ў капіталістычнай грамадзе клясай эксплёатуемай, політычна прыгнечанай і культурна прыдушанай. Для выкананьня складанай працы па кіраўніцтве гаспадаркай і каб весьці цэлы шэраг іншых падобных прац у другіх галінах кіраваньня краінай, патрэбны вялікі запас вед, практыкі, уменьня. Колькасьць людзей з рабочае клясы, якія зьявіліся здольнымі выконваць такую ролю і навучыліся ёй за час рэволюцыі, а часткова атрымаўшых практыку ў кіраўніцтве масамі і ў політычнай барацьбе яшчэ *да* перамогі рабочай клясы, параўнаўча сама па сабе малая. Зусім зразумела, што *далёка ня ўся* рабочая маса магла падняцца да такога роўню. З другога боку, рознага роду *спэцыялістыя*, якія былі такімі яшчэ за капіталістычным рэжымам і набылі вялікую практыку—навуковую, кіраўнічую, гаспадарчую і да т. п., зьяўляючыся патрэбнымі для

жыцьця і для справы кіраваньня людзьмі ў цяперашніх умовах, якраз таксама зьяўляюцца, да пэўнага стопню, незаменнымі сіламі: уся рабочая маса ў цэлым, усімі сваімі складанымі часткамі якраз таксама ня здолела яшчэ за кароткі тэрмін дасягнуць такога высокага культурнага роўню. Выкананьне-ж падобнага роду работы вымагае само па сабе даволі значнай аплаты, якая забясьпечвае адпаведны чын жыцьця. Тымчасам даваць такую самую плату ўсім бяз выключэньня пластом рабочае клясы пры цяперашнім стопні разьвіцьця вытворчых сіл зьяўляецца немагчымым і незьдзяйсьнімым. Калі-б усе рабочыя мелі такі самы высокі культурны ровень, дык кіруючыя пасады маглі-б займацца па чарзе або толькі на пэўны тэрмін, і, такім парадкам, на так званых „адказных пасадах“ заўсёды знаходзіліся-б усё новыя й новыя працаўнікі, бо ў якой-хаця дзейнасьці можна-б было ў які хочаш час аднаго зьмяніць другім. Але тут-то і адчуваецца няроўнасьць культурнага роўню і яшчэ большая адсталасьць мас. Зноў такі, тут трэба адзначыць, што гэта зусім *ня віна* гэтых мас, *а іх бяда*; такімі іх зрабілі дзесяткі год капіталістычнага панства. Аднак, задачай рабочае клясы, якая за гады рэволюцыі надзвычайна скора вучыцца ў самым ходзе барацьбы ўсё большаму ўдзелу свайму ў актыўным будаўніцтве соцыялізму, а таксама ўсё больш навучаецца ў спэцыяльных установах (рознага роду рабочых організацыях, клюбах, партыйных і савецкіх школах, рабфаках і нават ВУЗ·ах),—задачай гэтае рабочая клясы зьяўляецца *асільваньне такога роду адсталасьці ў сваіх уласных школах.* Зразумела, што ня ўся маса рабочае клясы рухаецца *зусім адначасна*, усімі сваімі пластамі. Як ня ўсе рабочыя могуць пры цяперашніх умовах стаяць на камандных пасадах і займаць зусім аднолькавыя месцы ў сыстэме кіраўніцтва, якраз таксама ня могуць, у моц зусім зразумелых прычын, усе рабочыя, *як адзін*, прайсьці праз сярэднюю і вышэйшую школу.

Да больш або менш высокага роўню сучаснай навукі і тэхнікі рабочая кляса падымаецца, калі можна так сказаць, *пачкамі*, параўнаўча *невялікімі сваімі часткамі*, да каторых год за годам будуць прыбываць усё новыя і новыя пачкі, усё новыя і новыя часткі, *пакуль разьвіцьцё вытворчых сіл нашай*

*краіны ня ўтворыць выстарчаючага экономічнага фундаманту для таго, каб дзеці ўсіх рабочых зусім нормальным парадкам праходзілі праз сярэднія і вышэйшыя вучэбныя ўстановы, праз адпаведную практыку і, такім чынам, ішлі ў жыцьцё, перасіліўшы розную, якая стваралася раней, культурную няроўнасьць у сярэдзіне працоўных.*

У аслабленым стопні тое, што мы казалі толькі што пра розьніцу паміж найбольш культурнымі з рабочых-перадавікоў, а таксама даўнейшымі спэцыялістымі, з аднаго боку, і рабочай масай наогул—з другога, падходзіць і для пытаньня пра *няроўнасьць паміж living рознымі пластамі рабочай клясы*, рознымі ў сэнсе рознай кваліфікацыі іх працы (напрыклад, мэталістыя, з аднаго боку, землякопы і г. д.—з другога). Мэханіка Савецкае ўлады, савецкага рэжыму ў цэлым, кірунак усёй палітыкі пролетарскай дыктатуры складаецца якраз з таго, каб, паднімаючы культурны ровень шырокіх рабочых мас, тым самым *зьнішчаць „незаменнасьць“ найбольш перадавых пластоў самой рабочай клясы*, зьнішчаць *розьніцу* культурных роўняў і зьнішчаць розьніцу матэрыяльных умоў існаваньня. Запэўна, мы ніколі не дасягнем поўнай роўнасьці людзей у тым сэнсе, што людзі будуць зусім аднолькавы па сваім розуме, па сваёй таленавітасьці, па колеры сваіх валасоў або па форме носу, і зусім гэтага ня трэба. Такая роўнасьць была-б кропля ў кроплю падобна да роспачлівай нуды. Ня з гэтага складаецца мэта нашых імкненьняў. Мэта нашых імкненьняў складаецца з таго, *каб дасягнуць роўнасьці матэрыяльных умоў існаваньня, каб усім забясьпечыць нормальныя ўмовы разьвіцьця і, такім чынам, даць магчымасьць ісьці наперад усёй масе і вылучацца найбольш таленавітым і здольным ня з вузкага кругу „адукаваных людзей“*, адлучаных за гародкамі ад рэшты, *а з усяго вялізнага працоўнага чалавецтва.*

І тут ня цяжка зразумець, што гэтая няроўнасьць, якая вынікае з вельмі глыбокіх прычын, ня можа быць зьнішчана адным махам. Можна-б было, зразумела, у вадзін харошы дзень выдаць дэкрэт, па якім усе рашуча вышэйшыя савецкія служачыя, усе інжынэры, усе профэсары і ўсе дырэктары трэстаў і г. д. атрымоўвалі-б столькі сама, колькі

атрымоўвае просты падзённы. Але мы хутка праканаліся-б, што пры такім становішчы рэчаў рабочая кляса ў цэлым ня выйграла-б, а прайграла; яна прайграла-б таму, што пры такіх умовах праца на гэтых камандных пасадах пашла-б куды цяжэй, справа ў значным стопні была-б дэзарганізована, і агульныя посьпехі зьмяніліся-б становішчам застою або рухам назад. Рабочай клясе *выгадней лепш утрымоўваць* сваю ўласную верхавіну, а таксама і выхадцаў з буржуазнага сьвету, так званых спэцыялістых, бо ў такім выпадку яна дасягне ў куды больш кароткі тэрмін агульнага павялічэньня вытворчых сіл і за лік гэтага павялічэньня можа куды хутчэй палепшыць сваё становішча, а з пэўнага часу, выкарыстоўваючы гэты рост вытворчых сіл, пачаць самую ўзмоцненую вытворчасьць „адукаваных людзей“ з усё больш шырокай масы сваёй уласнай клясы і працоўных наогул. З гэтага, зразумела, не вынікае, што трэба перасольваць з высокай аплатай; наадварот, з такога роду „перасоламі“ партыя павінна весьці ўпартую барацьбу.

*У сярэдзіне вёскі*, урэшце, мы маем якраз таксама *розныя пласты сялянства*, жыцьцёвы ровень якіх адрозьніваецца адзін ад аднаго даволі рэзка. Варта параўнаць кулака з парабкам, або з селянінам-бедняком. Але гэта карэнная супярэчнасьць, характэрная для сучаснай вёскі, будзе гэтак сама зьнішчацца па меры росту вытворчых сіл і па меры ўздыму дзяржаўнай і коопэрацыйнай гаспадаркі. Мы ўжо бачылі раней, што мы будзем усё больш і больш мець магчымасьць дапамагаць гаспадарцы сераднякоў і беднаты, якая будзе пераставаць быць беднатой, а з другога боку, шляхам цэлага роду мерапрыемстваў мы будзем абразаць і гаспадарча выціскаць прадпрыемчыя пласты сялянства, г. зн. сельскагаспадарчую буржуазію. Такім чынам, і тут асноўнай лініяй нашага разьвіцьця праз пэўны прамежак часу, калі пачнуць яшчэ больш хутка падрастаць социялістычныя формы нашай гаспадаркі, зьяўляецца лінія *на зьнішчэньне, на асільваньне экономічнае няроўнасьці*, якая існуе цяпер.

Трэба бачыць усю глыбіню ўбоства, цемры, культурнай адсталасьці і няроўнасьці, якія пакінуў нам у спадчыну капіталістычны лад рэчаў, каб зразумець, колькі часу па-

трэбна будзе, каб перарабіць увесь чалавецкі матэрыял і каб асіліць гэтую праклятую спадчыну. Але ўжо цяпер мы бачым уздым соцыялістычных формаў народнай гаспадаркі, што зьяўляецца галоўнай гарантыяй, якая забясьпечвае сапраўдную і рэальную політыку, каторая мае на мэце ажыцьцяўленьне экономічнай роўнасьці. А з другога боку, ужо і цяпер мы заўважаем, як наступнае пакаленьне рабочых і сялян усё ў большым маштабе, усёй масай падымаецца да новага культурнага жыцьця, чаму дапамагае работа нашай партыі, чаму дапамагае ўся дзейнасьць, уся політыка Савецкай улады. Раней толькі адзінкі з рабочых і сялян маглі вучыцца ў вышэйшых вучэбных установах; цяпер з кожным годам усё ў больш шырокіх разьмерах цэлыя вялікія пласты пакаленьня працоўных, якое падрастае, ужо сыстэматычна, так сказаць, „у нормальным парадку", праходзіць цераз рабфакі і паступае ў нашы вышэйшыя школы. Раней звычайна толькі дарослым працоўны чалавек уваходзіў у актыўнае політычнае жыцьцё; цяпер мы маем каля паўтара мільёны адных членаў *комсамолу*, сыноў рабочых і сялян, якія больш або менш роўнамерна з юнацтва прымаюць удзел у актыўнай агульна-політычнай і агульна-культурнай працы; а пакаленьне яшчэ больш маладое—*юнакі-піонэры*—пачынае ахопліваць вялізныя колы людзей, якія ўжо з самага дзяцінства выхоўваюцца, растуць і вучацца працаваць на *іншай* культурнай аснове, чымся папярэднія пакаленьні.

Заваяваньне ўлады пролетарыятам ня можа стварыць гістарычнага цуду, адзін толькі факт перамогі над буржуазіяй у грамадзянскай вайне не забясьпечвае адразу і раптам роўнасьці паміж людзьмі. Але гэтае заваяваньне ўлады і замацаваньне рабочай дыктатуры ў краіне, нарэшце, стварае такога роду ўмовы, за якімі выразным робіцца *наш рух у кірунку* к гэтай экономічнай роўнасьці.

## XIV. Політычная няроўнасьць, яе асільваньне і зьнішчэньне політыкі наогул.

Пяройдзем цяпер да разгляду тэй няроўнасьці, якая ў нас ёсьць у галіне *політычнай*, у галіне політычных праў.

Тут, паперш за ўсё, трэба пералічыць тыя факты, на якіх адбіваецца гэтая палітычная няроўнасьць.

1) Па нашым законадаўстве ня маюць выбарных праў людзі, *якія жывуць на непрацоўны даход* (нэпманы, кулакі, рознага роду асобы, якія, каб атрымаць прыбытак, эксплёатуюць працоўную сілу ў тым або іншым выглядзе). „Асобамі, якія трываюць“, зьяўляюцца тут, такім чынам, гэткія пласты насельніцтва, якія па сваім матэрыяльным дабрабыце і па роўні свайго жыцьця стаяць *на самым вышэйшым* стопні, зьяўляюцца ў нашым ладзе скалкамі даўнейшае капіталістычнае грамады, даўнейшых пануючых кляс, якія цяпер трапілі пад жалезную руку пролетарскай дыктатуры.

2) *Працоўнае сялянства* ня мае такіх самых праў, як пролетарыят, таму, што яно выбірае роўны лік дэлегатаў пры выбарах у савецкія органы ўлады ад значна большай колькасьці выбарнікаў, чымся рабочая кляса ў гарадох і фабрычных пасёлках. Тут ёсьць, такім чынам, у наяўнасьці няроўнасьць палітычных праў паміж рабочай клясай, з аднаго боку, працоўным сялянствам—з другога. Прычым гэта няроўнасьць зусім навочна схіляецца да переваґі праў на бок рабочае клясы.

3) *Пролетарыят* карыстаецца палітычнымі перавагамі (прывілеямі) і ў нашым законадаўстве займае першае месца.

Прычыны такога роду законадаўства, якое замацоўвае палітычную няроўнасьць паміж рознымі клясамі нашай грамады, даволі ясныя і даволі зразумелыя. У нас ёсьць у наяўнасьці тры клясы: рабочая кляса, шырокая маса сялянства і, нарэшце, дапушчаная к супрацоўніцтву ў грамадзе буржуазія. Мы ведаем, што калі мы хочам забясьпечыць карэнныя інтарэсы працоўных, дык трэба забясьпечыць *кіраўніцтва пролетарыяту* і яго саюз з сялянствам *супроць буржуазіі*, мы ведаем гэтак сама, што сялянства схілена, у моц свайго соцыяльнага становішча, а таксама ў моц асаблівых цяжкасьцяй моманту, часамі к хістаньню ў бок гэтай буржуазіі і, урэшце, мы ведаем, што калі-б новая буржуазія расла, замацоўвалася, распраўляла свае крыльлі і асільвала рабочую клясу ў барацьбе за сялянства, дык адсюль вынікл-б няўхільныя небясьпекі падрыву ўсяе справы рэволюцыі.

Рабочая кляса ў нашай краіне зьяўляецца найбольш сьвядомай сілай, але яна па сваім ліку налічвае, прынамсі, толькі *адну дзесятую* сялянскага насельніцтва. Для таго, каб руль ня вырваўся з яе рук, трэба на *даным* стопні разьвіцьця, паперш за ўсё і раней за ўсё, *зрабіць буржуазію няшкоднай* політычна і ня даць ёй магчымасьці пашыраць свой політычны ўплыў на сялянства і на прамежныя дробна-буржуазныя гарадзкія пласты. Адгэтуль вынікае і адабраньне політычных праў ад прыватных прадпрыемцаў, купцоў, крамнікаў, гандляроў, кулакоў, нэпманаў наогул.

З тэй акалічнасьці, што сялянства схілена да вялікіх *хістаньняў* і што існуе небясьпека, у моц якой цемра і някультурнасьць сялянства, у зьвязку з яго соцыяльным становішчам, можа штурхнуць яго часамі *супроць яго-ж уласных карэнных інтарэсаў* іесьці за буржуазіяй, вынікаюць пэўныя перавагі і політычныя прывілеі, якія ёсьць у нашым законадаўстве ў адносінах да *рабочае клясы*. Гэтыя перавагі і прывілеі зьяўляюцца *дадатковай страхоўкай*, якая забясьпечвае кіруючую ролю рабочай клясе ў нашай краіне.

Што тычыцца абмежаваньня або пазбываньня выбарных праў рознай буржуазіі, дык наўрад ці будзе хто-небудзь супроць гэтага пярэчыць; супроць гэтага могуць пярэчыць толькі яўныя або таемныя прыхільнікі гэтай буржуазіі, як меншавікі і эсэры, якія ніколькі ня вераць у магчымасьць зьдзяйсьненьня ў жыцьці соцыялістычнага ладу, пра які так шмат бэйсаюць на словах. Ім да гэтага часу здаецца, што ў Расіі адбылася нейкая гістарычная выпадковасьць, што разьвіцьцё нашае грамады няўхільна пойдзе капіталістычным шляхам і што чымся скарэй лопне Савецкая ўлада, чымся скарэй скончыцца гэты цяжкі сон (для буржуазіі), тым будзе лепей. Для ўсякага чалавека, які сур'ёзна верыць словам пра соцыялізм, і для якога, значыцца, слова не разыходзіцца з справай, які верыць у патрэбнасьці і магчымасьць пабудаваньня соцыялістычнай грамады і які ні ў якім разе ня хоча звароту к капіталістычнаму ладу,—для такога чалавека больш чымся зразумела абмежаваньне і пазбываньне політычных праў буржуазных элемэнтаў у нашай краіне.

Куды больш складаным зьяўляецца пытаньне пра *палітычную няроўнасьць паміж рабочай клясай і сялянствам.* Тут людзі вельмі часта падменьваюць цьвярозыя меркаваньні моральнымі, якія нічога агульнага з палітыкай ня маюць.

Кажуць, напрыклад; ласьне селянін не працуе часамі болей, чымся рабочы? Дзе-ж справядлівасьць, калі вы яму даіцё менш палітычных праў, чымся гарадзкому рабочаму? Ласьне сялянства не складае вялізнай большасьці насельніцтва ў нашай краіне? Чаму-ж, калі большасьць працоўных складаецца з сялян, чаму-ж пролетарская меншасьць павінна штучна навязваць сваю волю вялізнай большасьці працоўных? Селянін—не дармаед, ён—не чужаед, ён—ня буржуй, а працоўны. Дзе-ж зноў-такі хоць-бы самая простая справядлівасьць? І ці ня ёсьць гэта адступаньне ад завету роўнасьці сярод працоўных, на якім толькі і можна будаваць сапраўдны мост да соцыялізму?

Такога роду меркаваньні, якія часамі здаюцца за пераконваючыя, хварэюць, аднак, на тую асноўную хваробу, што яны замест цьвярозага падліку сіл гавораць толькі ўбогія словы. Калі ўжо зашла гутарка пра справядлівасьць, дык трэба пытаньне паставіць такім чынам:

Справядліва або несправядліва было-б, калі-б мы *праваронілі* ўсю справу соцыялізму? Справядліва або несправядліва было-б, калі-б мы далі магчымасьць буржуазіі *адурманіць нас і зьвярнуць стары парадак рэчаў?* Варта толькі *такім* чынам паставіць пытаньне, каб атрымаць на гэтае пытаньне адразу-ж адмоўны адказ. Зразумела, было-б у вышэйшым стопні „несправядліва“, а, проста кажучы, нават глупства, калі-б мы сапраўды праваронілі справу соцыялізму. Але мы-ж ведаем, што справа соцыялізму ня толькі не супярэчыць карэнным інтарэсам усіх працоўных, але што ў канцовым ліку ад зьдзяйсьненьня соцыялізму выйграюць *ня толькі рабочая кляса, але і шырокія сялянскія масы.* Значыцца, і з пункту погляду рабочае клясы, і з пункту погляду *карэнных* інтарэсаў сялянства, правал соцыялізму зьявіўся-б з нашага боку простым палітычным праступкам, калі-б мы правалілі-б нашу справу па сваёй уласнай віне.

Але мы-ж ведаем і мы моцна перакананы ў тым, што мы можам прыйсьці к социялізму *толькі і выключна* пры ўмове саюзу рабочае клясы і сялянства; мы ведаем, што мы пераможам *толькі і выключна пры кіраўніцтве рабочае клясы ў гэтым саюзе.* Мы ведаем, што падрываньне пролетарскай дыктатуры, г. зн. падрываньне гэтага кіраўніцтва, ёсьць падрываньне ўсяе справы соцыялізму. Вось чаму мы павінны ўжыць *усе меры для таго, каб гэта кіраўніцтва забясьпечыць.* І калі цяпер яшчэ ёсьць небясьпека пэўных хістаньняў з боку сялянства, або яго некаторай часткі, прычым гэтыя хістаньні ў рэчаіснасьці ідуць *супроць карэнных інтарэсаў гэтага-ж самага сялянства,* дык мы павінны пайсьці на пэўную політычную няроўнасьць паміж пролетарыятам і сялянствам для таго, каб даць у рукі пролетарыяту некаторую *дадатковую* гарантыю, якая забясьпечвае за імі кіруючую ролю.

У канцы ўсяго, як ні цяжка зразумець, такога роду політыка ня толькі ня супярэчыць, але, наадварот, адбівае *карэнныя* інтарэсы сялянства, якія вельмі часта, дзякуючы адсталасьці і цемры сялянскага насельніцтва, *закрыты* ад яго вачэй пялёнкай *часовых*, або якія *здаюцца*, або *другарадных і вытворчых* інтарэсаў, якімі трэба ўмець ахвяраваць дзеля інтарэсаў больш асноўных і больш карэнных.

Рабочая кляса і яе партыя гавораць пра гэтую політычную няроўнасьць паміж пролетарыятам і сялянствам зусім адкрыта, прызнаючы прад усімі існаваньне гэтай няроўнасьці але якраз таксама мы адкрыта гаворым, што гэтыя прывілеі рабочае клясы зьяўляюцца толькі *часовымі* і будуць *зьнікаць* па меры росту сьвядомасьці і па меры пераробкі нашай сялянскай масы. Чым далей будзе йсьці наперад справа соцыялістычнага будаўніцтва, чымся больш і больш будуць адыходзіць на задні плян сілы буржуазіі, якія ў нас яшчэ засталіся, і чымся больш і хутчэй будуць умацоўвацца соцыялістычныя формы нашае народнае гаспадаркі; чымся мацней, значыцца, будзе фундамант экономічнай змычкі паміж рабочай клясай і сялянствам, а, значыцца, чым больш будзе політычны ўплыў пролетарыяту на гэтае сялянства,—*тым меней будзе патрэбы ў гэтых прывілеях для рабочае клясы.* Яны будуць па-

ступова ўсё зьмяншацца і зробяцца, урэшце, зусім лішнімі. Агульнае-ж далейшае ўмацаваньне пролетарскага ўплыву і пераработка ў социялістычным духу шырокіх мас працоўных зробяць няшкодным супроцьлеглы ўплыў з боку нават буржуазных элемэнтаў, якія засталіся, і, такім парадкам, мы, урэшце ўсяго, пяройдзем к сыстэме ўсеагульнага і роўнага выбарнага права ў нашыя савецкія органы.

А калі мы паглядзім яшчэ далей у нашу будучыну, дык мы ўбачым такі час, калі ўсе перагародкі паміж клясамі зьнішчацца, калі зьнішчыцца мяжа паміж працоўнымі гораду і вёскі, калі зьнікне патрэба ў органах дзяржаўнага прымусу наогул (калі толькі к таму часу будуць зьнішчаны капіталістычныя дзяржавы ў другіх краінах сьвету), і калі поўнасьцю і цалком адамрэ ўсякая палітыка. Гэтая палітыка заступіцца адным толькі навуковым кіраваньнем і навуковым кіраўніцтвам грамадзкай гаспадаркай.

## XV. Забясьпечаньне правільнай палітыкі кіраўніцтва і Комуністычная партыя.

Мы бачылі ўжо раней, што правільная палітыка забясьпечваецца правільным кіраўніцтвам, а правільнае кіраўніцтва забясьпечваецца пэўна вызначаным злучэньнем розных грамадзянскіх кляс і іх організацый паміж сабою. Дзеля таго, каб гэтае кіраўніцтва сапраўды было забясьпечана, трэба, каб сялянства ішло за працоўнай клясай, каб працоўная кляса ішла за сваімі профэсыянальнымі саюзамі, каб гэтыя профэсыянальныя саюзы, у сваю чаргу, ішлі за галоўным атрадам працоўнае клясы, за яе *партыяй*, якая павінна зьяўляцца асноўнай кіраўнічай сілай усяго працоўна-сялянскага блёку.

У нашым жыцьці ёсьць, як мы ведаем, бязьмежная колькасьць рознастайных супярэчнасьцяй: супярэчнасьці паміж кляс, супярэчнасьці паміж рабочай клясай і сялянствам, супярэчнасьці ў самой рабочай клясе, супярэчнасьці паміж рознымі па сваім нацыянальным складзе часткамі нашай вялізьнейшай краіны. Трэба, каб існавала ў нетрах самой працоўнай клясы такая сіла, якая-б найбольш ясна бачыла

ўсе гэтыя супярэчнасьці, стаяла-б на варце і заўчасна заўважала-б усе небясьпекі, умела-б на ўсіх ступенях разьвіцьця падпарадкаваць другараднае карэннаму і асноўнаму і выяўляла-б нябывалае адзінства волі і здольнасьць да кіраўніцтва.

Такой організацыяй рабочае клясы і зьяўляецца *Комуністычная партыя*, гэты самы перадавы атрад пролетарыяту, атрад, які складаецца з самых рашучых, самых сьвядомых, самых перадавых і самых адважных элемэнтаў працоўнае клясы нашае краіны.

Якраз з прычыны таго, што Комуністычная партыя зьяўляецца галоўным атрадам працоўнае клясы і асноўнай кіраўнічай сілай у краіне, па ёй, раней за ўсё, страляюць усе ворагі працоўнай клясы: адкрытыя белагвардзейцы і прыхільнікі аднаўленьня памешчыцка-буржуазнага ці буржуазнага парадку, як расійскія белыя монархістыя, кадэты і іншыя адкрытыя прыхільнікі памешчыцкага і буржуазнага ладу; патайныя ворагі соцыялізму і патайныя прыхільнікі капіталістычнага ладу, накшталт меншавікоў, так званых соцыялістых-рэволюцыянэраў і г. д. Усе яны лічаць сваёй політычнай задачай падпіліць партыйныя слупы дзеля таго, каб усьлед за імі звалілася ўся пабудова працоўнай дыктатуры, Савецкай улады і скончыўся той шлях, па якім працоўная кляса пашла з першых-жа дзён сваёй кастрычнікавай перамогі.

*Узмацненьне ўплыву партыі* ёсьць прадпасылка, найпатрэбнейшая ўмова пролетарскай дыктатуры: калі няма кіраўнічай ролі з боку партыі ў стасунку да працоўнае клясы, а затым і да сялянства, дык няма і дыктатуры працоўнае клясы; калі няма сувязі паміж партыяй і беспартыйнымі рабочымі й сялянамі, дык ня можа існаваць і быць моцнай Савецкая ўлада.

Мы бачылі раней, што калі мы будзем разглядваць тыя адносіны, якія складаюцца ўнутры працоўнае клясы, дык мы будзем мець на чале гэтае працоўнае клясы Комуністычную партыю, якая забясьпечвае свой уплыў на цэлы шэраг іншых організацый працоўнае клясы, больш шырокіх па сваім складзе, у першую чаргу, на профэсыянальныя саюзы, гэту надзвычайна шырокую форму організацыі

пролетарыяту, а з другога боку, на саветы рабочых дэпутатаў, якія маюць дзяржаўную форму організацыі гэтага пролетарыяту, што апіраецца на шырокія сялянскія пласты. Праз гэтыя організацыі, якія, у сваю чаргу, беспасрэдна злучаюцца з беспартыйнымі рабочымі, партыя забясьпечвае правільнае кіраўніцтва ўсёй скупнасьцю і ўсімі складанымі часткамі пролетарскіх мас.

Можна запытацца ў сябе, аднак, што-ж адпавядае ў сялянстве таму, чым у пролетарыяце зьяўляецца яго *профэсыянальная організацыя?*

Калі мы возьмем такіх-жа рабочых, як і ў прамысловасьці, але толькі працуючых на зямлі, дык гутарка будзе тычыцца, зразумела, сельска-гаспадарчых батракоў, сельска-гаспадарчых наёмных рабочых, для якіх, зразумела, таксама, як і для рабочых тых ці іншых профэсій, выгадна мець свой профэсыянальны саюз. Такі профэсыянальны саюз працаўнікоў зямлі існуе, гэта Саюз працаўнікоў зямлі і лесу. Калі мы запытаемся, аднак, з чаго складаюцца асаблівыя інтарэсы („профэсыянальныя інтарэсы“) селяніна, дык мы зусім ясна ўбачым тут, перш-на-перш, што селянін не працуе, як рабочы, а працуе на сваёй уласнай гаспадарцы, і яго прыватна-гаспадарчы інтарэс, які зьяўляецца вынікам яго становішча, як дробнага самастойнага вытворцы, што мае сваю ўласную гаспадарку, заключаецца ў тым, каб выгадней *прадаваць* продукты сваёй гаспадаркі, каб выгадней *купляць* тыя продукты, якія дастаўляе яму дзяржаўная прамысловасьць і якія патрэбны яму і ў яго якасьці спажывальніка, і ў яго якасьці кіраўніка сваёй маленькай гаспадаркі; нарэшце, яму выгадна мець больш танны крэдыт, які патрэбен яму ў гаспадарчай дзейнасьці. Яго агульны асноўны інтарэс знаходзіцца ў тым, каб разам з працоўнай кляеай не дапусьціць аднаўленьня старога парадку і ладу, не дапусьціць узьнікненьня новых памешчыкаў і паступова паляпшаць сваю гаспадарку на аснове ўсё больш і больш растучага коопэратыўнага аб'яднаньня сялянскіх двароў. *Але-ж усе гэтыя задачы вырашае якраз сельска-гаспадарчая коопэрацыя*, а разам з ёю такія дапаможныя органы, як сялянскія комітэты і інш.

Ня трэба, аднак, абыходзіць таго, што да апошняга часу сяляне яшчэ ня маюць зусім пэўнай веры к коопэрацыйнаму руху. Гэта ў значнай меры залежала ад таго, што коопэрацыя ў нас мела шмат недахватаў, і селянін не знаходзіў у ёй таго, што ён павінен быў у ёй знаходзіць.

Гэтыя недахваты засталіся нам, як спадчына з часу вайсковага комунізму. Цяпер іх трэба самым рашучым спосабам выжываць. Раней за ўсё, гутарка павінна датыкацца поўнай *добраахвотнасьці* коопэрацыі і *ўнутрыкоопэрацыйнай дэмократыі*, або *выбарнасьці* ўправы і ўсіх урадавых асоб. Селянін не панясе сваіх паёў і ня будзе давяраць сваіх грошай асобам, якія ўсе звыш назначаны. Ён схоча мець такіх людзей, якіх ён ведае, якім ён давярае. Толькі тады ён пачне энэргічна будаваць коопэрацыю, толькі тады ён будзе шчыра ў ёй зацікаўлены.

Каб коопэрацыя мела тую ролю, якую мы ёй прызначаем, трэба разьвязаць дзьве задачы: папершае, задачу *гаспадарчага* ўзмацненьня коопэрацыі, г. зн. задачу зьбіраньня коопэрацыйнага „капіталу“, задачу пашырэньня коопэрацыйных зваротаў і г. д.; падругое, задачу *ўцягненьня мас* у справу коопэрацыйнага будаўніцтва; калі гэтага ўцягненьня мас ня будзе, дык коопэрацыя страціць адну з самых істотных сваіх асаблівасьцяй.

Гэтыя задачы нельга, аднак, разьвязаць, пакуль ня будзе ажыцьцёўлена *добраахвотнасьць* коопэрацыйнага сяброўства і поўная *выбарнасьць* кіраўнікоў коопэрацыйных організацый. Зразумела, партыя, апіраючыся на беднякоў і сераднякоў, павінна змагацца на выбарах шляхам *перакананьня*. Але *самі* сяляне павінны выбіраць. Тады самадзейнасьць сялянскіх мас і павялічэньне іх актыўнасьці няўхільна давядуць да хуткага пашырэньня нашай сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

Трэба, потым, наладзіць справу так, каб *пазбавіць* коопэрацыю ад тых *лішак* задач, якія павінны вырашацца *дзяржаўнымі органамі*. Коопэрацыя, зразумела, павінна быць зьвязана з органамі Савецкай улады, але яна мае свае асаблівыя задачы, побач з агульнымі задачамі. Калі-б, напрыклад, коопэрацыя пачала зьбіраць падатак, гэта было-б ня-

правільна, таксама, як няправільна было-б, калі-б профсаюзы рабочых выконвалі *беспасрэдна* задачы дзяржаўнага кіраўніцтва фабрыкамі і заводамі. Калі на коопэрацыю ўскладаюць такія задачы, якія вымагаюць вялікіх *ахвяр* з боку сялянства, дык, зразумела, туды будуць ісьці не з вялікай ахвотай; і ня так, значыцца, трэба вясьці справу Коопэрацыя павінна зрабіцца для селяніна *органам яго гаспадарчага ўздыму*. Тады, пры забясьпечваньні выбарнасьці і добраахвотнасьці, коопэрацыя зробіцца *самай улюбёнай*. організацыяй сялянства. А пры сувязі яе з прамысловасьцю і органамі савецкае дзяржавы наогул, яна сапраўды будзе граць тую ролю, якую вызначае ёй цяпер наша Комуністычная партыя.

*Ажыўленьне саветаў і ўздым коопэрацыйнага руху*—асноўныя задачы нашай партыі на вёсцы. Калі партыя, а разам з ёю і праз яе—працоўная кляса ўмацуе свой уплыў на сялянскія масы, тады справа соцыялізму будзе *забясьпечана ў нас напэўна*.

Мы ўжо казалі аб тым, што нават у працоўнага селяніна, як гэта кажуць, ёсьць „дзьве душы": з аднаго боку, ён зьяўляецца працаўніком, змагаецца з памешчыкам-капіталістым, а з другога боку, ён зьяўляецца ўласьнікам, гатоў і сам, калі разбагацее, наняць работнічка і з прычыны гэтага мае пэўную пашану да буйных уласьнікаў, або да буржуяў. Гэта—папершае, а падругое, сялянства падзяляецца на розныя пласты, пачынаючы ад эксплёатуемых і канчаючы эксплёататарамі (бедната і кулакі; поўпарабкі, што зарабляюць часткова продажай сваёй рабочай сілы, і іх наймацелі, заможныя, багатыя, так званыя „міраеды"). Калі селяніна організоўвае і на яго робіць уплыў Комуністычная партыя (проста ці ўкосна, беспасрэдна залучаючы селяніна ў свой склад ці ўкосна выяўляючы ўплыў на яго шляхам свайго ўплыву на коопэратывы, сялянскія комітэты і шэраг іншых організацый), дык гэтая Комуністычная партыя організоўвае яго *працоўную душу*, залучае яго паступова на шлях грамадзянскае працы праз коопэрацыю; прывучае да гэтае працы праз саветы, уцягвае яго ў справу соцыялістычнага ўраду, праз партыю — беспасрэдна перарабляе яго ў тым на-

прамку, які адпавядае мэтам і задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Калі-б у сялянстве зьявілася *другая* партыя *супроць* Комуністычнае партыі (пад якім-бы то ні было найменьнем), яна магла-б мець і няўхільна павінна была-б мець толькі адзін сэнс, толькі адно значэньне, яна будзе ўсякімі мерамі ўзмацняць, організоўваць „*непрацоўную* душу“ селяніна; яна будзе організоўваць і ўзмацняць якраз яго ўхілы ў бок *буржуазіі*; яна будзе пеставаць, узрошчваць і выхоўваць якраз тыя рысы, якія ўвасабляюць гэтыя *хістаньні* сялянства, *шкодныя* для справы комуністычнага будаўніцтва; яна, з прычыны самога поступу варункаў, будзе няўхільна, так сказаць, накіроўваць часовыя і выводныя інтарэсы сялянства супроць карэнных і асноўных інтарэсаў, дробнабуржуазныя забабоны супроць соцыялістычнага напрамку разьвіцьця, кулацкія падзеі супроць пролетарскай згоднасьці; яна ня толькі ня будзе згладжваць супярэчнасьці паміж працоўнай клясай і сялянствам, а яна будзе *абвастраць* гэтыя супярэчнасьці; яна ня толькі ня будзе трымацца кірунку на рабоча-сялянскі саюз і на добраахвотнае прызнаньне пролетарскага кіраўніцтва, — наадварот, яна будзе ставіць сабе мэтай так званае „вызваленьне“ ад пролетарскага кіраўніцтва, што *ў істоце азначае ні што іншае, як уплыў на сялянства і кіраўніцтва сялянствам з боку буржуазіі і ідэёвай агэнтуры гэтай буржуазіі* (эсэраў, меншавікоў, трудавікоў і да іх падобных згодніцкіх партый).

Такім чынам, перамога рабоча-сялянскай справы дапускае кіраўніцтва з боку Комуністычнай партыі. Але гэтае кіраўніцтва, у сваю чаргу, павінна апірацца на ўсямернае узмацненьне *саветаў і коопэрацыі*, на *ўздым прамысловасьці*. Будуць правільна разьвязвацца гэтыя задачы, — тады сялянства нанова пераканаецца, што рабоча-сялянскі саюз і кіраўніцтва пролетарыяту патрэбны, як паветра, з пункту погляду карэнных сялянскіх інтарэсаў.

## XVI. Міжнародная рэволюцыя і СССР.

Да гэтай пары мы разглядалі ўсе пытаньні выключна з нашага *ўнутранага пункту погляду*. Паміж тым, мы-ж жывем зусім не адны на земнай кулі, а нас абкружаюць капі-

талістычныя дзяржавы, якія баяцца нашага ўзросту, і якія па існасьці зьяўляюцца нашымі заклятымі ворагамі. Да гэтай пары ні ў аднэй краіне, апрача нашай, працоўная кляса ня здолела перамагчы сваю буржуазію і захапіць уладу ў свае рукі. Натуральна, што перад намі паўстае пытаньне: ці можам-жа мы пабудаваць соцыялізм у ваднэй нашай краіне без непасрэднага падтрыманьня з боку пераможнага пролетарыяту іншых краін?

Мы здолелі *забраць уладу* ў аднэй краіне, мы здолелі абараніцца ад ворагаў, што націскалі на нас з усіх бакоў, мы здолелі пачаць адбудову нашае гаспадаркі, мы здолелі ўзмацніць і зацьвердзіць лад пролетарскае дыктатуры. Але ці ёсьць у нас гарантыя ад таго, што на нас не нападуць замежныя драпежнікі, што ня будзе ніякіх новых „інтэрвэнцый“ з іх боку? Такой гарантыяй магла-б зьявіцца толькі *перамога пролетарыяту ў некалькіх другіх капіталістычных краінах.* Вось чаму нашы інтарэсы моцна і раз назаўсёды зьлітаваны з інтарэсамі міжнароднае працоўнае клясы і з інтарэсамі прыгнечанага коленіяльнага сялянства, якое ў сваіх абурэньнях супроць уціску імпэрыялізму зьядала сілы нашых заядлых супраціўнікаў і ворагаў. Вось чаму наша партыя зрабіла-б здраду ў стасунку да інтарэсаў нашае працоўнае клясы і сялянства, калі-б яна перастала быць *партыяй міжнароднай рэволюцыі.* Ніколі ня трэба забывацца ні на адну хвіліну на тое, што наша мірнае будаўніцтва можа быць нарушана раптоўным наскокам на нас з боку бліжэйшых суседзяў. Ніколі ня трэба заспакойваць сябе марай аб тым, што нібы-та нас больш чапаць ніколі ня будуць. І з прычыны гэтага непадзельнай і непарушнай павінна быць наша *брацкая сувязь з працоўнымі масамі іншых краін*, з масамі, якія зьяўляюцца нашымі надзейнымі супольнікамі і нашай магутнейшай апорай у стане супраціўніка.

З практыкі грамадзянскае вайны, з практыкі быўшай інтэрвэнцыі капіталістычных дзяржаў, якія подтрымлівалі ўсіх паўстанцкіх контр-рэволюцыйных гэнэралаў, мы ведаем, якую вялізную дапамогу ўжо тады даў нам міжнародны пролетарыят, які ўвесь час трымаў за фалды сваю буржуазію і ня раз перашкаджаў ёй з посьпехам выконваць сваю катаў-

скую справу ў нашай краіне. Усім вядома пра бунты французскіх матросаў у Адэсе, усім вядома, як архангельскі фронт пакінулі ангельскія атрады, усе ведаюць, што не адзін раз працоўныя масы Эўропы перашкаджалі адпраўцы таго войска, снарадаў і зброі, якія накіроўваліся нашым супраціўнікам, каб расправіцца з маладымі савецкімі рэспублікамі. Гэтая практыка паказвае нам, што міжнародная пролетарская згоднасьць, што згоднасьць працоўных наогул, не зьяўляецца проста прыгожым словам, якім можна пацяшаць сябе і якім можна забаўляцца ў сьвяточныя дні. Не, гэта самая рэчаісная справа, якая мае вялізьнейшае практычнае значэньне для пытаньня аб усім нашым лёсе, аб усёй нашай будучыне, аб шляхох усяго нашага разьвіцьця.

Такім чынам, *канчатковай гарантыяй ад аднаўленьня старога парадку*, *устаноўленага штыкамі замежных армій*, можа зьяўляцца толькі міжнародная рэволюцыя, шчырым прыхільнікам і пасьлядоўцам якой павінна быць наша партыя.

А можа нам прызначана загінуць не ад нападаў замежных ворагаў, а ад нашай уласнай адсталасьці, ад таго, што ня маючы *тэхнічнай і экономічнай* дапамогі з боку пераможнага пролетарыяту другіх краін, ня маючы гэтай дапамогі на працягу досыць доўгага пэрыоду, мы няўхільна загінем, як *ахвяры сваёй адсталасьці, сваёй экономічнай кволасьці?* А можа *дробнабуржуазны характар* краіны, пераважаючая большасьць у ёй сялянскага насельніцтва, нязначнасьць працоўнае клясы, аслабленай да таго яшчэ доўгімі гадамі імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, прывядуць з „жалезнай неабходнасьцю“ да краху ўсяго нашага будаўніцтва?

Такія зацьверджаньні, якія выяўляюць поўную адсутнасьць веры ў сілы нашай рэволюцыі, зусім *няправільны* і ня маюць ніякай падставы. Праўда, адсутнасьць дапамогі, тэхнічнай і экономічнай, з боку працоўнае клясы іншых краін, якая, на жаль, яшчэ не захапіла ўлады, надзвычайна *затрымае* наш гаспадарчы ўзрост, а разам з ім і ўвесь тэмп соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Каб мы атрымалі такую дадатковую дапамогу, мы, зразумела, пашлі-б нязьмерна *хутчэй* па шляху гаспадарчага ўздыму, а разам з гэтым параўнаўча хутка сталі-б разьвінаць усю справу

нашага будаўніцтва: і ў галіне экономічнай, і ў галіне політычнай, і ў галіне культурна-бытавой, і ў галіне ўсякіх навук і так званай „духоўнай культуры“. Зразумела, *без* такой дапамогі мы пойдзем *ня так хутка* ў сваім разьвіцьці, *але мы усё-ж такі будзем няўхільна ісьці ўперад, як гэта ўжо досыць ясна паказала практыка першых гадоў, вольных ад грамадзянскае вайны* і ад беспасрэднай працы на фронце.

І сапраўды, на працягу гэтай брошуры мы ня раз ужо гаварылі аб тым, што, падымаючы вытворчыя сілы ўсёй нашай народнай гаспадаркі наогул, мы ў той самы час бачым усё большы ўзрост *соцыялістычных формаў* у нашай народнай гаспадарцы і такіх формаў гэтай народнай гаспадаркі, якія ўсё больш і больш разьвіваюцца па *соцыялістычным шляху*. Ніяк нельга сказаць, што ў гаспадарчай барацьбе прыватна-прадпрыемскага капіталу ўсіх яго выглядаў і адценьняў, з аднаго боку, і дзяржаўных прадпрыемстваў і коопэрацыі— з другога, прыватны капітал зьяўляецца перамагальнікам. Наадварот, мы ведаем, што ён параўнаўча *адступае* на задні плян, што ўсё больш моцнымі і магутнымі робяцца гаспадарчыя кіраўнічыя высоты, і што, такім чынам, справа соцыялізму ідзе ўперад. Калі яна ішла ўперад ужо ў *першыя* гады мірнага часу, дык дзе-ж падставы, каб зацьвярджаць, што ў далейшым мы пойдзем назад? Дзе-ж хоць-бы цень доваду або цень намёку на довад таго, што ў *наступныя* гады ўмовы разьвіцьця будуць больш няспрыяючымі для дзяржаўнае гаспадаркі і коопэрацыі, чым яны былі ў першыя гады нашага гаспадарчага ўздыму? Наадварот, калі *такіх* довадаў няма, дык можна, з другога боку, адзначыць цэлы шэраг прычын, якія сьведчаць аб магчымасьці *значна большых посьпехаў* у будучыне. Усё больш і больш будуць выяўляцца перавагі *буйной вытворчасьці* наогул; усё большая экономія і выгада будзе выяўляцца для дзяржаўнай гаспадаркі ад павялічэньня яе *плянавасьці*, г. зн. плянавага і найбольш мэтазгоднага скарыстаньня ўсіх матэрыяльных сродкаў і працоўнай сілы гэтае гаспадаркі; усе вялікія сумы будуць знаходзіцца пад загадам дзяржаўнае ўлады, якая будзе мець магчымасьць вельмі шырока дапамагаць справе організацыі сялянства праз будаўніцтва коопэрацыі і г. д.

З істоты рэчы мы ўжо цяпер давялі, што можна будаваць социялізм нават *без непасрэднай тэхніка-эканомічнай дапамогі з другіх краін*. Праўда, формы нашага социялізму ў бліжэйшы пэрыод яго будаўніцтва будуць няўхільна формамі адсталага социялізму, але і гэта не бяда таму, што нават і гэтыя формы забясьпечваюць нам усё далейшы і далейшы рух уперад да формаў социялізму, усё больш дакладных і ўсё больш поўных.

Трэба памятаць, што нават капіталістычны лад, які разьвіваўся ў працягу *шэрагу стагодзьдзяў*, на захадзе свайго разьвіцьця, у сваю імпэрыялістычную эпоху, меў, ня гледзячы на свой доўгі век, розныя формы і розныя, так сказаць, „нацыянальныя рысы“. Амэрыканскі капіталізм яшчэ і цяпер мае досыць вялікую розьніцу ад француcкага, нямецкі—ад ангельскага і г. д. Амэрыканскі капіталізм мае яскрава выяўленыя рысы монополістычнага капіталізму з панаваньнем банкаў, якія зрасьліся з магутнымі організацыямі айчыннае прамысловасьці (трэсты). Францускі капіталізм—гэта капіталізм пераважна ліхвярскага тыпу, з параўнаўча слаба разьвітай унутры краіны прамысловасьцю, капіталізм, які дае грошы ў *пазыку* іншым дзяржавам, высмоктвае гэтыя дзяржавы і адзначаецца зусім невялікай вытворчай дзейнасьцю ўнутры краіны; у ім засталіся і дробныя сялянскія гаспадаркі, паміж тым, як, напрыклад, у сыстэме ангельскага капіталізму гэты капіталізм пажор ужо цалком гаспадарку вольнага селяніна і здолеў злучыць асаблівасьць сусьветнага драпежніка з энэргічнай дзейнасьцю па разьвіцьці сваёй уласнай айчыннай прамысловасьці. Расійскі капіталізм таксама меў свае асаблівыя рысы. Гэтыя рысы заключаліся, раней за ўсё, у тым, што капіталістычны лад наогул у нас быў слаба разьвіты, калі браць усю народную гаспадарку краіны цалком. Гэта знаходзіла сваё вызначэньне ў тым, што ў сыстэме расійскага капіталізму вялізьнейшае значэньне мела дробная сялянская гаспадарка, пан-памешчык напоўпрыгоньніцкага тыпу (замест капіталістага-памешчыка, які ўжывае наёмную працу); вялізнае значэньне мела таксама дробная прамысловасьць (рамесьнікі, саматужнікі), якую далёка не пасьпеў зжэрці ў сваім пераможным поступе буйны капітал. Але ў той самы час,

калі ўзяць адну толькі буйную прамысловую вытворчасьць, дык у галіне гэтай буйной прамысловай вытворчасьці мы мелі вельмі значны процант так званых „прадпрыемстваў-гігантаў“ (звыш 10.000 рабочых, як, напрыклад, марозаўскія мануфактуры, паўночна-расійскія сталяліцейныя заводы і да іх падобныя прамысловыя гіганты). Гэта тлумачыцца, у значнай меры, уплывам *замежнага капіталу*, які арганізоўваў у нашай краіне вялізныя прадпрыемствы, абсталяваныя часта па апошнім слове заходня-эуропэйскай тэхнікі.

Вось гэтае злучэньне страшэннага поўпрыгоньніцкага барбарства і страшэннай гаспадарчай адсталасьці наогул з самымі перадавымі формамі, да якіх дашоў заходня-эўропэйскі капіталізм, і складала адметную асаблівасьць расійскага капіталізму, яго, як гэта называюць, „нацыянальны твар“.

Але-ж рух да соцыялізму пачынаецца ня з пустога месца; рух да соцыялізму пачынаецца пасьля захапленьня палітычнай улады працоўнай клясай, прычым на долю гэтай працоўнай клясы *прыходзіцца спадчына, пакінутая ёй капіталістычнай клясай.* Пасьля вышэйадзначанага зусім ясна, што гэтая спадчына ў розных капіталістычных краінах будзе выглядваць *парознаму.* І калі капіталізм у розных краінах меў свае асаблівасьці, дык зусім зразумела, *што і соцыялізм у першы пэрыод свайго разьвіцьця, да злучэньня ўсіх краін сьвету ў адно адзінае цэлае, няўхільна будзе мець таксама свае асаблівасьці, якія выцякаюць з асаблівасьцяй папярэдняга разьвіцьця.* Тое, што мы мелі спалучэньне перадавых капіталістычных буйных прадпрыемстваў з зусім адсталымі гаспадарчымі формамі, няўхільна кладзе сваю адзнаку і на формы *соцыялізму*, які будуецца ў нашай краіне; з налічча дробных гандляроў і дробных прадпрыемцаў выцякае, што яны застануцца існаваць яшчэ нейкі час і пры нашым парадку; з налічча вялізьнейшых пластоў сялянства, з яго нязьмерна вялікім гаспадарчым значэньнем у нашай краіне, выцякае, паперадае, параўнаўча доўгі шлях да дасягненьня поўнага соцыялізму, падругое, вялізьнейшае значэньне *сельска-гаспадарчай коопэрацыі*, як галоўнага шляху разьвіцьця сялянскае гаспадаркі да соцыялізму; а з налічча буйных прадпрыемстваў,

якія яднаюць сабою шмат тысяч пролетараў, выцякае самая магчымасьць пролетарскага кіраўніцтва ў нашай краіне.

У іншых краінах (калі не гаварыць аб колёніях), напрыклад, у Англіі, дзе сялянская гаспадарка грае зусім маленькую ролю, формы організацыі народнай гаспадаркі будуць няўхільна іншымі, і поступ разьвіцьця будзе вызначацца шмат больш *хуткім* тэмпам у параўнаньні з нашым. Наадварот, калі мы будзем разглядаць і тыя задачы, якія паўстануць перад заходня-эўропэйскім пролетарыятам у стасунку да быўшых колёній, дзе жыве маса сялянскага насельніцтва, дык там будзе шмат задач і шмат гаспадарчых формаў, падобных да тых пытаньняў-задач, якія мы вырашаем у нас, і тыя організацыйныя формы гаспадарчага жыцьця, якімі адзначаецца і *наша* будаўніцтва. Мы аніяк не павінны сароміцца таго, што наш соцыялізм, які мы будуем, зьяўляецца няўхільна адсталым тыпам соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта ня наша віна; але мы можам быць зусім пэўны ў тым, што ў нас ёсьць магчымасьці для бяскрайнага руху ўперад, для ўдасканаленьня гэтых форм, для ўнікненьня нашай адсталасьці, для ўсё больш хуткага пераходу да сапраўдна поўнага тыпу соцыялістычнага грамадзянства.

Наша краіна цяпер яшчэ толькі-толькі пачала пазбаўляцца страшэннай беднасьці, і было-б проста вар'яцтвам нават і думаюць аб тым, каб здаволіцца тым, што зроблена, і пачаць адпачываць. Нам трэба яшчэ пазбавіцца страшэннай беднасьці, астаткаў голаду, бруду, цемры, барбарства і неадукаванасьці; але мы ўжо ясна бачым перад сабою шырокі і правільны шлях, па якім мы дойдзем да нашай канчатковай перамогі.

# ЗЬМЕСТ.

